УДК 821.161.3
ББК 84 (4Беи)
Б17

**Бацкель, А. І.**

**Б17** Яблыневы Маёнтак / Аляксандар І. Бацкель. – Мінск: ***, 2015. – 210 с.

**ISBN**

Другая кніга пра жыцьцё на сялібе, падалей ад цывілізацыі, пра наўмысную ізаляцыю дзеля творчасьці, чыстага подыху, яскравага бачаньня. Кніга пра містыку, вусьціш, фобіі, даўгавалосых дзяўчат, пра цела і пра сьвет вакол адной асобы.

УДК 821.161.3
ББК 84 (4Беи)

**ISBN**

## зьмест

## яблык

сёньня першы дзень лета, я не пісаў шэсьць месяцаў, шэсьць тужлівых разоў я спрабаваў пачаць – і адкладаў, бо часам лепей не пісаць, ніж пісаць. але вось ён я, вось мой маёнтак і вось маё жыцьцё, і я нікуды не падзенуся, калі толькі мяне наўмысна не падзенуць. я засадзіў усю сваю зямлю вакол дома дрэвамі, збольшага – яблыневымі. частку зямлі пакінуў на невялічкі гарод, таму што сёлета мая мэта – сьпелыя, як ва Ўкраіне, кавуны ды абрыкосы, бо з тузіну костак адна дала слабенькі парастак, які дорыць надзею, што калі-небудзь я пачну зьбіраць ураджай сваіх сонечных фруктаў. ну, што я магу сказаць, яшчэ крыху павялічым колькасьць насельніцтва на плянэце, паставім яшчэ некалькі заводзікаў – і ў Беларусі ня толькі абрыкосы пачнуць расьці, думаю, дойдзем і да ананасаў, а там і Апакаліпсіс на даляглядзе.

такім чынам, вакол мяне цяпер ня толькі самотны дуб і старая груша, вакол мяне процьма моладзі: яблыневыя парасткі, вішнёвыя, алычовыя, некалькі туяў, зьявіліся канадзкія елачкі і адзін ядлаўцовы куст. і мой маёнтак, гэта ўжо сур’ёзна, мой маёнтак – Яблыневы Маёнтак. і ён гуляецца з клясыкай, бо «а чаму б і не?», чаму б і не з клясыкай? бо калі не, то мне застанецца адно зарасьці травою, спрэс абрасьці травою і пачаць жыць паводле звычайнага раскладу – касіць раз на тыдзень, паліваць раз на тры дні... і ўсё, і больш нічога, і толькі пустэча, і вецер цёплы лунае па-над газонам.

## вада

вада для мяне асабіста ня толькі вадкасьць, якая робіць мяне жывым і зьяўляецца асноўным складнікам майго арганізму. вада для мяне ў першую чаргу стыхія, падмурак жыцьця. і зразумела, што для людзей, самых сумнеўных істотаў гэтай плянэты і падобных хутчэй да мурашоў, ніж да заваёўнікаў і цароў Зямлі, вада – элемэнт першай неабходнасьці. і мне падабаецца гэтая вадкасьць, і мне вельмі прыемна адчуваць на сваёй галаве кроплі дажджу, і вось ужо які дзень запар ідуць залевы... і мой маёнтак, што знаходзіцца ўсяго на некалькі мэтраў вышэй за іншыя, суседнія, аточаны цяпер рэкамі і рачулкамі, і я адчуваю, як лёгка магу скаціцца разам з домам уніз і паплыць кудысьці далёка, туды, за гарызонт, дзе вада вадаспадам ляціць у космас і з аблокамі вяртаецца, і сіні кіт плыве ў далячынь, нясе плянэту ўсё далей і глыбей у бязьмежны сусьвет, ажно пакуль усё не ператворыцца ў адну маленечкую кропку на зялёным небасхіле для іншых істот-мурашоў, якія так залежаць ад сьвятла, што фотасынтэзуюць усё навокал.

для мяне вада як стыхія стаіць на першым месцы, а за ёю па чарзе ідуць зямля, паветра і агонь, і я бачу людзей праз прызму стыхій, і мне падаецца, што ўсе людзі адпавядаюць той ці іншай стыхіі, і калі на сьвет зьяўляецца геній, а гэта бывае раз на стагодзьдзе, то гэта ўжо пяты элемэнт. элемэнт, датычны альхіміі...

думаю, усе мае погляды на стыхіі можна пабачыць – як звонку, так і між радкоў – у маім першым рамане.

## сублімацыя

сублімацыя і творчасьць, жаданьне і пісьмо, сувязь паміж полавым і духоўным, між сэксам і актам стварэньня тэксту. колькасьць полавых актаў адбіваецца на здольнасьці пісаць. чым больш сэксу, тым менш імпэту ствараць штосьці, памяншаецца колькасьць словаў у тэксьце, памяншаецца колькасьць вобразаў у галаве. адна мая былая сяброўка неяк, калі зрабіла мне мінэт, прамовіла: «усё, я забрала ў цябе моц, ты сёньня нічога не напішаш». і я потым тыдзень нічога ня мог напісаць, сядаў за кляviятуру і бачыў твар і ўсьмешку маёй дзяўчыны, і адразу з галавы выпетрывалася нават невялічкая порцыя словаў і сказаў. Елінэк піша ў сваёй п’есе «Клара Ш.», што Гётэ, калі шмат працаваў за сваім пісьмовым сталом, калі адчуваў узбуджэньне і гэта замінала яму скончыць верш альбо частку кнігі, адразу пачынаў мастурбаваць, і па-хуткаму, каб не адрывацца ад працы.

у мяне гэты вобраз стаіць асобнай выявай перад вачыма: Ваймар, садовы домік Гётэ, сьвеціць сьвечка, майстар піша... потым адкладае пяро, расшпільвае гузікі на гульфіку, дрочыць, канчае і вяртаецца да пісьма…

ня памятаю пісьменьніка, але пра яго мне распавядаў сябра, што чытаў такі дзіўны раман, крыху хваравіты, пра чалавека, які праз мастурбацыю падарожнічаў у часе: заплюшчваў вочы, пачынаў

ананіраваць і ўяўляць, што ён зараз у Бабілёне, а вакол яго будоўля ідзе, і сапраўды там апынаўся на невядомы тэрмін, а потым канчаў і вяртаўся.

сэкс, мастурбацыя, увогуле ўсё цялеснае і датычнае чалавечага задавальненьня займае спрэчнае месца ў творчасьці. гэта як натхніцца жаночым абліччам ды напісаць верш і адначасова быць няздольным накрэмзаць нават сваё імя пасьля мінэту.

## сэнс

няма нічога больш бессэнсоўнага, чым чалавечае стаўленьне да сэнсу жыцьця і сьмерці, бо жыцьцю нельга надаваць шмат сэнсу, а сьмерць ня трэба ўводзіць у стан сакральнага, паколькі жыцьцё ўжо само па сабе – дзіўны стан існаваньня на мяжы з абсурднаю «барацьбою» між тым, як знайсьці сябе і сваё месца, і новымі батончыкамі «сьнікерс»: «забі на голад: еш, глядзі футбол, пі піва».

калі сапраўды на гэтае жыцьцё паглядзець аб’ектыўна – мы існуем выпадкова, і нашыя сьмерці ня мусяць быць для нас чымсьці высокім і пампэзным. сёньня, напрыклад, жанчына памерла, бо карова, якую яна вяла дадому (дарэчы, незразумела, дзе яна яе вяла!) спужалася аўтамабільнай сыгналізацыі і штурханула сваю спадарыню, а тая ўпала і галавою ўдарылася аб машыну, якая была запаркаваная побач.

добра, а цяпер уявіце – нашыя дзяды вадзілі кароваў з пашы ў кардынальна іншых умовах: не было ніякіх сыгналізацый і дакладна немагчыма было ўпасьці ад таго, што цябе штурханула карова, калі ты яе вёў з лугу, дзе тая ела канюшынку, праз запаркаваныя машыны. і галавою акурат аб «фольксваген»...

а як людзі камэнтуюць такую сьмерць! – «тупая сьмерць», «сьмешна»... можна падумаць, яны тут усе на гэтай плянэце памруць пад фанфары ды з гонарам, і пры гэтым будуць выглядаць як валадары і анёлы.

усё падаецца сьмешным і зусім не патрэбным, калі спрабуеш паглядзець, як і што адбываецца навокал, напрыклад, вачыма майго сабакі Карнэля, для якога сусьвет – дасканала зразумелы, лягічны і прыўкрасны. і, калі я спрабую спасьцігнуць яго разам з Карнэлем, я адразу ўспамінаю словы аднаго выбітнага і амбітнага амэрыканскага стэндап-актора Джорджа Карліна аб тым, што, можа быць, сэнс існаваньня людзей у тым, што Богу быў патрэбны плястык? людзей ня стане, як бы яны ні паміралі – ад каровак, альбо ўпаўшы з ложка, з гонарам, аточаныя сваімі дзецьмі, альбо прыгожа праз каханьне, альбо зусім ніяк, бо іх заб'юць блізкія сябры, якім пра забойства казалі шэптам на вуха коткі або нарэзаны тонкімі скрылькамі сыр.

пасьля нас застанецца толькі плястык, які зямля ня здолее перастрававаць, а ўсё іншае – згарыць і згніе на гэтай сьвятой і трывушчай Зямлі.

## катлета

раніца, стаю каля кухоннага стала, усе вокны і дзьверы наросхрыст, раблю ў задушлівым доме скразьняк, пакутую на алергію – пух паўсюль, і ад яго я нікуды не падзенуся, можна, вядома, падпаліць купку белай ваты, назапашанай у куце, але ёсьць вялікая верагоднасьць, што і сам сябе спалю. я на кухні, чакаю кавы й мажу чорны хлеб цёмным паштэтам, і выгляд гэтага паштэту выклікае ў маёй памяці мае асабістыя жыцьцёвыя няёмкасьці, якія я стараюся ніколі не забываць і не паўтараць, але, вядома, калі аб чымсьці рупліва дбаеш, не прыкмячаеш, як гэтае нешта і парушаеш.

у школьнай сталоўцы нам заўсёды давалі катлеты, чорны хлеб і кампот, дзяўчаты гэта ня елі, а хлопцы ўміналі порцыі за іх. пякотка – самае лепшае, што з намі здаралася пасьля сьняданку ў школе.

вось я ў школе каля стала, перада мною паднос са школьным «пайком», я бяру адну катлету, кладу яе на хлеб і адпраўляю ў рот… і… трэба ж было гэтаму здарыцца, акурат у гэты момант я чыхаю, і з майго носа на самаробны бутэрброд, вылятае густая, тугая, празрыстая сапля і падае на катлету, і я, аўтаматычна яшчэ, зьбіраюся есьці і кусаю ўвесь гэты выбуховы складнік у руцэ.

аднаклясьнікі ня проста сьмяяліся – яны рагаталі… дзяўчаты адварочваліся й прыкрывалі свае вусны далонькамі, адсоўвалі свае кампоты…

і, каб удакладніць, як мне было няёмка, дадам толькі, што гэта была старэйшая кляса.

## блытаньне

Вацлаў пачаў блытаць цёплае зь мяккім. дакранецца да імбрыка, а той – мяккі, паднясе да твару падушку, а тая – цёплая. здавалася б, гэта ніяк не магло паўплываць на яго жыцьцё, але справа ў тым, што праз гэтую дробязь, праз гэтую сьмешную акалічнасьць ён стаў непадобным да іншых – у яго зьявілася па шэсьць пальцаў на нагах і скура страціла валасы, стала абсалютна чыстая і гладкая, як у дзіцяці. і калі ён кідаў лёд у кубачак з гарбатаю, ён хацеў, каб тая стала цяплейшай, і піў ён кіпень з-пад крану, і таму твар у яго быў чырвоны-чырвоны... Вацлаў больш не карыстаўся мяккай туалетнай паперай, бо тая для яго была зусім ня мяккаю, і еў ён толькі халодную ежу, бо тая падавалася цёплаю, і спаў ён днём, і пачаў жыць далёка ад людзей.

## машына

абсалютная большасьць людзей забівала нявper

абсалютная большасьць людзей забівала няверных

не істотна якіх, але – няверных

абсалютная большасьць падпальвала сухое гальлё пад вядзьмаркамі

тапіла жанчын у водах рэк і азёраў

абсалютная большасьць карала яўрэяў

абсалютная большасьць заўсёды абсалютна ўпэўненая ў сваіх дзеяньнях

абсалютная большасьць жыве пагана і за мяжою сярэдняга дастатку

і гэта я бачу з майго вакна

а таксама я бачу, як абсалютная большасьць паркуе свае машыны

як быццам яна, гэтая большасьць, спусьцілася з гор, і там, у гарах, толькі так і магчыма паркавацца

абсалютная большасьць глядзіць навіны і плюецца на тых, хто не такі, як яны

абсалютная большасьць верыць у бога і прэзыдэнта

абсалютная большасьць упэўненая, што гэта нармальна –

верыць у свайго бога-прэзыдэнта

абсалютная большасьць ня ведае лічбу «пі» і не цікавіцца базонам Хігса

але абсалютная большасьць дакладна ведае, што гэта не галоўнае ў жыцьці

абсалютная большасьць яшчэ стагодзьдзе таму ня верыла ў робатаў

і не будавала хмарачосаў, ёй было дастаткова глядзець на неба і марыць

абсалютную большасьць раней так ня гвалцілі і не рабілі зь яе спажывецкі фарш

абсалютная большасьць ніколі не пабудуе экалёгію

бо абсалютная большасьць занятая іншымі справамі

абсалютная большасьць нядаўна вырашыла, што ёй мала сваёй зямлі

## сымптом

ня так даўно ў маім жыцьці на дзьве фобіі стала болей. хаця не, гэта ня фобіі, гэта бескантрольная баязьлівасьць... ня ведаю, як сказаць дакладна, – сьвядомая засяроджанасьць?

зьявіліся гэтыя дзьве вусьцішы такім чынам:

аднойчы я ехаў у грамадзкім транспарце і слухаў аўдыёкнігу маркіза дэ Сада «Філязофія ў будуары». еду сабе, стараюся рабіць безуважны твар, бо тое, што мне ўліваецца ў вушы, – неверагодныя сцэны, дзе ліжуць, сасуць, пальцамі паглыбляюцца паўсюль, дзе ўвогуле магчыма паглыбіцца, і вакол усіх гэтых рухаў вядуцца дыялёгі аб эстэтыцы, рэлігіі, этыкеце, філязофіі жыцьця, маралі. і вось мяне штурханулі, і я, як самы сапраўдны злодзей, рэзка павярнуўся, спужаны, дастаў плэер, каб паставіць на паўзу, як раптам ёнываліўся з маіх рук, і, пакуль ляцеў долу, навушнікі з яго вытыркнуліся, і праз невялікія дзірачкі ў корпусе, дзе хаваецца гэткі самы невялікі дынамік, усе, хто побач стаялі, пачулі, як актор чытае: «...Некоторые любовники создают из них престол наслаждения: между двумя холмами Венеры любовник удобно устраивает свой член, женщина сжимает груди, сдавливает его и, после некоторых трудов, кое-какие мужчины могут добиться излияния туда восхитительного бальзама, истечение которого – истинное счастье для распутников... Кстати, мадам, не пора ли сказать нашей воспитаннице

пару слов о члене, о котором мы будем говорить без умолку?..» пакуль я паднімаў плэер і сутаргава націскаў на паўзу, маім суседзям было аб чым падумаць, гледзячы на мяне...

і я цяпер, нават калі проста слухаю музыку, думаю аб тым, што будзе неяк наёмка, калі хтосьці пачуе, якую музыку я слухаю...

і вось яшчэ гісторыя.

раніца, я сплю, але частка мяне ўжо ня сьпіць, я чую, што Люба прачнулася, паўляжыць у ложку і гартае кнігу, праз павекі я заўважаю, што надвор’е сёньня файнае, сонейка сьвеціць... і тут раптам я вельмі гучна пукаю. ну так, па-мужчынску пярджу. Люба, вядома, пачынае сьмяяцца, але ціхенька, каб мяне не разбудзіць. божачкі, мне сорамна, хочацца праваліцца з ложкам куды заўгодна, і я засынаю.

прачынаюся праз гадзіну. на стале сьняданак, Люба ў лэптопе, усё добра.

я пасьля такой падзеі цяпер увогуле баюся нават уявіць, што яшчэ магла чуць Люба, якая заўсёды прачынаецца раней за мяне!

**жыць**

Гаспар К. прачнуўся, прыняў душ, выпіў кавы ўпрыкуску з кавалачкам шакалядкі, апрануўся ў горад, узяў торбу, паклаў туды гаманец, ключы ды мабільны тэлефон і, замест таго каб ісьці на працу, вырашыў зьмяніць лад свайго жыцьця, бо яму раптам усё падалося досыць нудным, шэрым і бессэнсоўным.

Гаспар К. выйшаў з дому і пайшоў у невядомым кірунку. ішоў ён так каля гадзіны, пакуль сапраўды не заблукаў, бо кожныя трыста крокаў ён збочваў па чарзе то ў левы бок, то ў правы, і такім чынам апынуўся ў невядомых мясьцінах, але гэтага яму было мала, каб зьмяніць жыцьцё, і ён злавіў таксоўку і наказаў кіроўцу, каб той вёз яго такім чынам: тры кілямэтры проста, а потым паварот у правы бок, ізноў тры кілямэтры проста, а потым паварот у левы бок, і так ён мусіць праехаць сто кілямэтраў.

праехаўшы сто кілямэтраў, Гаспар К. заплаціў кіроўцу, які глядзеў на яго вялікімі вачыма, і выйшаў з машыны акурат на бераг невядомае ракі.

Гаспар К. ішоў па беразе доўгі час, і недзе бліжэй да шостай ён знайшоў стары човен, на якім спусьціўся па рацэ на восемдзесят кілямэтраў і ступіў на бераг акурат у цэнтры абсалютна невядомага гораду.

Гаспар К. завітаў у бліжэйшую knайпу, выпіў мясцовага піва, зьеў тры беляшы і пайшоў у бліжэйшы шматпавярховік, дачакаўся, пакуль з пад’езду хтосьці выйдзе, увайшоў, спыніўся каля ліфта

і пачакаў, пакуль той сам адчыніць перад ім дзьверы, ступіў у кабіну і з заплюшчанымі вачыма націснуў на кнопку.

Гаспар К. прыехаў на чацьвёрты паверх і таксама з заплюшчанымі вачыма націснуў на званок.

ён пазваніў у кватэру нумар сорак чатыры, і яму адчыніла дзьверы жанчына. яна глядзела на Гаспара К. зь цікавасьцю, бо той быў апрануты ня так, як прынята ў іхным невялікім горадзе, і да ўсяго пазваніў у дзьверы аб адзінаццатай.

я Гаспар К., я раніцай выйшаў з дому, каб зьмяніць жыцьцё, і цяпер я буду жыць у вас.

нават ня ведаю, што вам сказаць, у мяне трое дзяцей, муж і маці, і ўсе мы жывем у трохпакаёўцы. можа быць, толькі калі на кухні… але вы праходзьце, ужо позна, вы напэўна стаміліся… хм… ну калі лёс, кажаце, то чаму б і не пажыць вам з намі, але вы будзеце другім мужам, першынство вам ніхто не дасьць, – адказала жанчына, якая акурат на днях бачыла сон, быццам бы да яе ў дзьверы пазваніў незнаёмец.

## характэрнасьць

у мяне ёсьць сябра, які жыве як бомж: кватэра з паламанай мэбляю і ўваходнымі дзьвярыма, якія трэба не зачыняць, але падстаўляць у пройму, няма гарачай вады, сьвятло – адна лямпачка на столь, а на кухні ён запальвае сьвечкі альбо газ. у яго разьбітыя ўсе вокны, сам ён сьпіць на падлозе і мае стары ноўт, які стаіць на зэдліку, і хлопец з падлогі піша на ім па замове для аднаго расейскага сайту артыкулы пра тое, як зарабляць грошы на азартных гульнях.

у мяне ёсьць сяброўка, якая мае чатырох дзяцей, і яна паганая маці, яна злуецца на іх, праклінае, штурхае штохвілінна і прымушае іх маўчаць увесь час альбо піздаваць (менавіта так яна ім кажа і дадае: «дасталі!») на вуліцу гуляць у любое надвор’е, але яна піша кнігі пра тое, як правільна выхаваць дзіця.

я дакладна ведаю аднаго чалавека, які абсалютна няўдалы прэзыдэнт.

і ёсьць у мяне знаёмы, які, атрымаўшы дзьве вышэйшыя адукацыі, застаецца на пасадзе тупога і бяздарнага рэдактара філіі расейскага выдавецтва ў Менску.

а ў маёй маці ёсьць сяброўка, якая з адукацыі біёляг, а працуе вельмі храновым, я б ска-

заў – татальна і незваротна галімым цырульнікам.

і за ўсімі гэтымі людзьмі стаіць самая сапраўдная беларуская рыса характару – цярпець, як бы пагана ні было.

## хуткасьць

чалавек, які хутка жыў, не любіў чэргі і чаканьне ў любых праявах. ён шалёна сьпяшаўся выканаць усё як мага хутчэй, каб пасьпець з плянамі, пасьпець нажыцца, надыхацца, набегацца, накахацца. усё ён выконваў хутка і пасьпешліва і праз гэта пакутаваў: апошнія кроплі траплялі ў споднее, выпітая вялікімі і хуткімі глыткамі вадкасьць даводзіла да ёкаўкі, адрыжкі й дыярэі, канчаў ён хутка, бо колькі можна рухацца, спаў кароткімі снамі, працаваў так: выканаў хутка ўсё як мае быць па пляне – і рэшту вольнага часу сядзеў ды глядзеў на гадзіньнікі, подумкі прысьпешваючы хвілінную стрэлку.

ён аднойчы ехаў у тралейбусе, і той так доўга і марудна рухаўся, што наш герой ня вытрываў, кінуўся да кабіны кіроўцы ды пачаў крычаць на яго: «а ну давай, а ну хутчэй, сьмялей цісьнем газ, хутчэй, хутчэй, хутчэй!» – і кіроўца праскочыў на сьветлафор, які ўжо міргаў, што для тралейбуса – цуд.

чалавек быў нястрымным у сваім тэмпе, ён нават старэў хутчэй за астатніх, быццам і ў гэтым сьпяшаўся. можа быць, ён бы і памёр самотным, бо хто ж будзе зь ім жыць, калі той не жыве, але кожны час спаборнічае за любую хвіліну, як аднойчы, калі ён бег па бегавой дарожцы ў спорт-клюбе і лічыў свае рухі, да яго падышла жанчына, новы інструктар,

і агаломшыла яго: «а ну-ка ногі ў рукі і пайшоў шпарчэй! што гэта за млявасьць! раз, два, раз, два, хутчэй, хутчэй, хутчэй!»

і хуткі чалавек закахаўся, і гэта здарылася зь ім імгненна і незваротна.

**стол**

пад маім старым сталом засталіся жыць зжаваныя жуйкі

старыя налепкі нуль-першых «за свабоду»

і футбалісты разам з аголенымі фотамадэлямі

пад сталом засталіся сьведкамі першых пякельных крананьняў толькі засохлыя соплі

і там, пад сталом, засталіся першыя дарослыя заляцаньні і спатнелыя далоні

раскрытыя падручнікі, падрыхтаваныя да экзамэнаў шпаргалкі

і вусьціш, што цябе пабачаць, калі ты рукаблудзіш, бо ў суседнім пакоі бацькі

## біт

васьмібітны чалавек мае роўна восем рысаў. ён размаўляе кароткімі, вельмі кароткімі сказамі, мае адзін погляд на жыцьцё, чытае толькі кнігі пра мянтоў, ходзіць толькі адной дарогай: дом – праца – крама/бутэрбродная – дом, п’е і есьць толькі тое, што звычайна, і нічога іншага альбо новага не дадае. васьмібітны чалавек глядзіць толькі адзін тэлеканал і чытае толькі адну газэту, мае адно меркаваньне пра будову сьвету, як і шануе толькі аднаго прэзыдэнта. васьмібітны чалавек жыве ў краіне, дзе канстытуцыя і законы ўсё яшчэ захаваныя на дыскеце.

## цень

старажытныя габрэі дакладна ведалі, што калі ў чалавека зьнікае цень, то жыць яму засталося ня больш за трыццаць дзён.

нас было чацьвёра, і мы зьбіраліся кожны першы дзень месяца толькі дзеля адной мэты – адмерыць цені. мы прыкручвалі да швабры ліхтарык, уключалі яго і спрабавалі зрабіць так, каб на ўсіх нас аднолькава сьвяціла, каб нашыя цені з аднаго боку падоўжыліся.

мінулым разам у аднаго з нас цень быў удвая карацейшы, той адмахваўся, казаў, што мы ня так сьвецім і кпім зь яго, але мы хутка пачалі піць і забыліся на наш сьмешны рытуал.

празь месяц мы сустрэліся ўжо ўтрох, але ніхто нават і не прапанаваў ізноў памераць цені… глупства ўсё гэта…

## тры

***

Міхась – самы нармальны й адэкватны чалавек на плянэце, з адной ненармальнай рысай: ён зьбірае пылавых трусочкаў. бывае, месяц не мяце падлогу, а потым зазірае пад ложак, а там яго ўжо чакаюць колькі мяккіх, пухнатых камячкоў, ён іх акуратна дастае, дае ім імёны й рассаджвае ў розныя месцы кватэры.

***

ёсьць штосьці дзікае ў тых, хто любіць разглядаць свой кал, ну сапраўды, раней па ўсім сьвеце выраблялі такія ўнітазы, на якіх спачатку зьбіралася ўсё, што выйшла з арганізму, а потым змывалася, цяпер, вядома, усё трапляе проста ў ваду, але засталіся яшчэ тыя кватэры, дзе ўнітазы прымушаюць цябе спачатку паглядзець на гэты сумнеўны цуд, а ўжо потым зь ім разьвітацца.

***

я ня думаю, што гатовы пра гэта гутарыць, я шмат пішу, але ніводнага разу не закрануў вайну між Украінай і Расеяй, і гэта таму, што я баюся даведацца, што на гэты конт думаюць мае сябры й сваякі, бо я ўпэўнены – мне давядзецца рэзаць процьму нітак, якія даўно ўжо нас усіх зьвязалі.

але каму патрэбны швэдар адносінаў зь дзіркамі й трыкалёрнымі заплаткамі?

## замкнёнасьць

калісьці я працаваў з тэкстамі цягам гадзінаў, плённа, безь перапынкаў, ня меў іншай працы, акрамя літаратурнай, і бачыў, што ўсё заканчваецца, яшчэ колькі месяцаў – і мне трэба будзе вяртацца да рэальнасьці, і я разважаў, што, калі б мне далі дватры гады проста спакойна пісаць, я б далёка пайшоў. аб'ектыўна: мне хапіла шасьці месяцаў, каб падрыхтаваць падмуркі адразу трох кніг, якія пазьней будуць напісаныя.

калі я вучыўся ў вну, разам зь сябрам мы марылі аб тым, каб апынуцца ў зачыненым пакоі альбо, што не істотна, аднапакаёўцы: ёсьць вялікая бібліятэка, кухня, ванны пакой, раз на тыдзень табе прыносяць ежу, няма інтэрнэту і тэлевізара, ёсьць лэптоп, каб пісаць, і калекцыя фільмаў самых каштоўных для цябе рэжысэраў. плян такі – не выходзячы з кватэры, пакоя альбо дому, на працягу года пісаць і па выніку ацаніць свае здольнасьці.

і ў мяне было шэсьць месяцаў, амаль зьдзяйсьненьне мары, і тады, за мяжою, я пабачыў, што здольны сам сябе ўражваць.

цяпер у мяне такія ж самыя задачы – маёнтак, далячынь, гарод, наліўкі, прырода, але пакуль што роўна палова мяне адсутнічае, працуе недзе далёка, ня можа проста так усё кінуць і жыць за кошт творчасьці, бо тут гэта – галодная сьмерць.

## мова

што прымушае творцу пісаць на мове, якую ведае абсалютная меншасьць?.. возьмем, да прыкладу, Шалом-Алейхема альбо Мойхер-Сфорыма, якія пісалі на ідыш, альбо нават зьвернемся да беларускай мовы, бо ў любым з выпадкаў ідыш і беларуская маюць аднолькавую прапіску…

гэтае жаданьне ўзбагаціць культуру той ці іншай краіны праз стварэньне мастацкай адзінкі. гэтая шчырая ўпартасьць, якой ня знойдзеш сярод швайцарскіх літаратараў, якія жывуць у атачэньні чатырох дзяржаўных моваў і карыстаюцца толькі нямецкай, каб абхапіць як мага шырэйшую аўдыторыю чытачоў.

вось сапраўды пытаньне для творцы: ты хочаш падтрымаць сваю культуру альбо як мага хутчэй і вышэй узьляцець на алімп бэстсэлераў? ты хочаш, як некаторыя мастакі, пісаць толькі паводле сваёй задумы і, нікуды не сьпяшаючыся, гнуць сваю лінію да той пары, пакуль яна нарэшце не праб’е ўсе магчымыя і немагчымыя кардоны, альбо ўзяць сваю карціну, стаць на яе нагамі і чакаць на беразе акіяну патрэбную хвалю ангажэмэнту?

я сам, карыстаючыся толькі беларускаю, часта сутыкаюся з пытаньнем: «а чаму па-беларуску?» на што коратка адказваю, шалёна паглядаючы на апанэнта: «а дзе я, блядзь, па тваім разуменьні, жыву?!»

## юнівэрсафоб

большасьць расейцаў (і, як высьвятляецца, ня толькі: нейкія там партыі ў Гішпаніі, чачэнцы, палова беларускага насельніцтва, Ангела Мэркель... і г.д.) шчыра падтрымліваюць і «крымнаш», і «данбас», і хуй яго ведае, куды іх яшчэ накіруе ўласнае жаданьне падрачыць і кончыць...

я прапаную называць гэты кантынгент людзей лайтова – юнівэрсафобамі. гэта такія людзі, якія замкнёныя ва ўласнай геаграфіі, з буйным імпэтам заваёўніцтва, хворыя на імпэрыялізм і абагульненьне, яны ніколі не супакояцца, нават калі прайграюць вайну, таму што ўсё перавернуць, і калі не ахвярамі сьвятымі стануцца, дык «праўда» заўсёды будзе на іх баку, бо так паведамяць па іхніх галоўных СМІ!

## сны

Юнг шмат разоў патрабаваў, каб Фройд распавёў яму свае сны, але той заўсёды адмаўляўся, бо не хацеў, каб Юнг даведаўся пра ягоны сьвет штосьці большае, ніж ён сам жадае. але я ня Фройд…

у маім жыцьці была процьма разнастайных сноў, каляровых і чорна-белых, вусьцішных, сумных, эратычных і рамантычных… але толькі два сны, якія я бачыў, засталіся для мяне самымі запамінальнымі на дробязі, на ўзроўні якасьці HD.

першы сон, альбо, хутчэй, сьненьне, было каля дваццаці год таму, я стаяў у цемры і ня мог сказаць, дзе знаходжуся, я ня мог удакладніць гэта нават крананьнямі, бо паўсюль была прастора і цемра, але нагамі я адчуваў зямлю, падлогу, нешта цьвёрдае, я спрабаваў крочыць, але здавалася, што я хаджу на адным месцы. і вось я чую прыемнае казытаньне, у маё правае вуха хтосьці дыхае і шэпча штосьці, але я не магу разабраць, што мне шэпчуць, прыслухоўваюся і, хутчэй, здагадваюся: «ідзі са мною, ідзі, пайшлі, хутчэй, ну?!» а мне неяк няўтульна, холадна і горача адначасова, і я разумею, што варта адмовіцца, няма ніякага жаданьня ісьці, і тут у маёй галаве яскрава і рэалістычна зьяўляецца адказ: «я нікуды не пайду, бо я тут для іншага і жыць буду для іншай справы». і раптам перада мною рассоўваецца цяжкая заслона і перад вачыма – чырвань, полымя, бяз жару, але такое

рэзкае ў цемры, я засланяюся рукамі, заплюшчваю вочы і прачынаюся, яшчэ гадзіну ляжу ў прыцемках і не разумею, што гэта было і каму я адмовіў. і мне дзесяць год, і я занадта малы, каб запамінаць такія сны.

і вось другі сон, які я сьніў літаральна днямі, і гэты сон не ідзе ні ў якое параўнаньне зь першым. вось я ў лесе, перада мною сьнег, ён вельмі хутка растае, і вонкі падымаецца зялёная трава, аточаная пралескамі, і я праводжу далонямі, зьлёгку кранаючыся талага сьнегу, і ён зьнікае, і далоні казычуць расьлінкі, і я бачу промні сонца, я крочу сьцяжынкаю да невялікай палянкі, азіраюся, вось у зеляніне поўзаюць вужыкі, зайцы паўсюль, і яны так блізка ад мяне, што аднаго зь іх мне ўдаецца пагладзіць. вось я бачу, як побач са мною прабягаюць лісы, і мне так радасна, я ўголас сьмяюся, дзіву даюся, і я неверагодна шчасьлівы, і мне быццам бы дзесяць год, і ўсё так натуральна, і проста, і цудоўна, і птушкі навокал, і матылькі, і я вельмі хачу падзяліцца тым, што бачу і адчуваю, са сваёю каханаю, я яе клічу нейкім дзіцячым голасам, я ведаю – яна недзе побач, хутка падыдзе, я хвалююся, каб яна пасьпела прыйсьці і ўсё гэта пабачыць, і вось я яе бачу, яна ідзе ў адлегласьці дзесяці крокаў ад мяне, і я крычу ёй, паказваючы пальцам на шэрага зайчыка: «паглядзі! паглядзі! гэта тут жыве Бог!» і прачынаюся самым шчасьлівым на сьвеце чалавекам, і бачу побач яе, і шэры сьвет з вакна, якое расчынена і дзьме вільготным ветрам, і тут раптам як грымне залева.

## пляншэтнік

Міхась зь дзяцінства быў вялікім аматарам кніг, ён зьбіраў сваю адмысловую бібліятэку, калекцыянаваў кнігі сэрыямі і меў такіх самых сяброў, каб было пра што пагутарыць, чым абмяняцца, але аднойчы, калі яму споўнілася дваццаць тры, ён, доўга вагаючыся, усё-ткі вырашыў набыць сабе пляншэтнік, каб адразу шмат кніг з сабою насіць, сядзець у анлайн-бібліятэках, пісаць на лайвліб рэцэнзіі.

першы месяц для Міхася прайшоў непрыкметна хутка, бо ён заліў адразу шэсьць кніг Набокава, вырашыў перачытаць аднаго зь любімых пісьменьнікаў. потым ён засеў за пляншэтнік грунтоўней і напампаваў адразу ўсе кнігі Рамэна Гары і Луі Фэрдынанда Сэліна, пачаў чытаць спачатку «Белага сабаку», але пасьля трох старонак перакінуўся на «Падарожжа на край ночы», прачытаўшы пяць старонак, ён успомніў, што калісьці пачынаў чытаць «Абяцаньне на досьвітку», і пачаў чытаць гэтую кнігу, зрабіў праз восем старонак закладку і выйшаў у галоўнае мэню, бо, калі пачаў чытаць, захацеў упэўніцца ў аўтабіяграфічнасьці кнігі, і з браўзэра на яго пасыпаліся ўкладкі: вікіпэдыя, лайвліб, фан-сайт аўтара, колькі камэнтароў з форумаў і некалькі старых сайтаў з пыльнаю інфармацыяй… праз гадзіну Міхась ужо гартаў Хэмінгуэя, бо пасьля сёрфінгу па сайтах апынуўся па спасылках на сайце Хэма, таму што аб’ядноўвала двух пісьменьнікаў самагубства,

ды яшчэ калі да гэтага далучыць высокае стаўленьне да Хэма і порцыю эпігонства яго творчасьці самім Букоўскі… які ў сваю чаргу лічыў геніем Сэліна… карціна набывала вусьцішны лес цытат і біяграфій…

так Міхась, пачаўшы некалькі дзясяткаў кніг, ня скончыў ніводную. усё неяк па-хуткаму, адкідаючы раманы дзеля таго, каб пагугліць, удакладніць, а таксама праверыць пошту, працытаваць і лайкнуць той ці іншы пост у фэйсбуку альбо пазначыць у сваім статусе штосьці кшталту: «ізноў адкрываю для сябе Гюго».

насамрэч які там Гюго?! Міхась усё часьцей пачаў адкрываць замест кніг браўзэр па справах і не. гэта стала своеасаблівым рытуалам: прачнуўся, уключыў пляншэтнік, прагледзеў пошту, сацсеткі, адкрыў-закрыў кнігу, пагуляўся ў «Цукеркі Краш», потым праверыў, ці аднавілася гульня «Жэлешкі Сплэш», потым прачнуўся…

і з кожным новым месяцам запампаваныя кнігі з закладкамі на першых старонках усё множыліся, і, калі б яны мелі сваё фізычнае ўвасабленьне, даўно ўжо ўяўлялі б сабою адну вялікую купу кніг – клясычная прыкмета сучаснага сьвядомага шараговага чалавека, якому патрэбная мазаічная павярхоўнасьць, кароткая, хуткая і каб не напружвала.

## шок

гэта быў самы сапраўдны шок, можа быць, першы шок у маім жыцьці, вось зараз ідуць такія залевы, і я, седзячы на ганку разам са сваім сабакам Карнэлем, кінуў яму мяч, і той трапіў у лужыну, Карнэль за два скокі даімчаў да мячыка, выхапіў яго, мокрага, і бегам да мяне…

я тады вучыўся на першым курсе гістфаку, стаяла позьняя вясна, сьпёка, вучыцца не было ніякага жаданьня, таму я зь сяброўкаю сядзеў у суседнім двары на дзіцячай карусэлі і піў партвэйн, праваю нагою лянотна адштурхоўваючыся ад зямлі і марудна круцячыся па коле. сяброўка мая, закінуўшы галаву назад, ледзь не падмятала зямлю валасамі, нам было файна і цёпла.

праз колькі хвілінак партвэйн скончыўся, і, перад тым як адкаркаваць другую бутэльку, я скокнуў долу, чым нахабна парушыў ідылію і рух карусэляў, і накіраваўся да сьметніка.

сьметнік быў як у любым двары гораду: чатыры вялікія квадратныя сьметніцы на колах, адмежаваныя амаль з усіх бакоў цаглянымі сьценамі. падышоўшы, я пачуў, як хтосьці хрыпіць і стогне, акуратна і ціха наблізіўся і пабачыў, як між дзьвюх вялізных напоўненых сьметніц кахаюцца два бамжы. ён – неверагодна сьмярдзючы і брудны, з даўгою барадою ў каўтунах, вінавата на мяне паглядаў, штаны на сьмецьцевай плітцы, рухаў не спыняў, бо раптам

пасьпее, да таго як я яго спужаю, падняўшы крык… яна – выставіўшы белы азадак і нахіліўшыся амаль да самага долу, спусьціўшы брудныя спартовыя штаны, трымаецца рукамі за сьметніцу, каб ня ўпасьці, мяне яна ня бачыць…

я на месцы разварочваюся і ціха сыходжу. вяртаюся і распавядаю сваёй сяброўцы пра тое, што толькі што пабачыў.

мы ўжо ня круцімся на карусэлях, мы ўжо п’ем другую бутэльку партвэйну і чакаем, калі салодкая парачка нарэшце пакіне месца бруднага каханьня.

і яна выйшла першаю, спартовыя штаны не да канца падцягнутыя… вось яна зрабіла некалькі крокаў і спынілася над лужынай, потым прысела на кукішкі і вадою з лужыны падмылася!

курва! а калі, напрыклад, дзеці, вяртаючыся са школы, вырашаць сваімі ножкамі ў гэтай лужыне паскакаць?!

## сабака

мой сабака – экалягічны!

мой Карнэль – плястык-пёс!

кожную раніцу я прачынаюся і ў двары бачу адно і тое ж: бутэлькі, плястыкоўкі, скрынкі, пакеты і процьма іншага... плястыкавага... бо ня так даўно майму Карнэлю раптам пачалі падабацца плястыкавыя рэчы, ён іх знаходзіць на вуліцы, гуляецца зь імі і прыносіць дамоў.

аднойчы я сказаў яму, што ён мой эка-пёс, які, заступаючы людзей, робіць файную справу. калі раней я прачынаўся і займаўся гаспадаркай, а потым гатаваў сьняданак, дык цяпер кожную раніцу выношу плястыкавае сьмецьце ў сьметніцу для плястыку, якая сапраўды стаіць ад нас далёка.

## лянота

у адным сьвеце жыў гультаяваты чалавек, лянівы настолькі, што калі трэба было кудысьці ісьці, ён бег, бо дарога прымушала крочыць доўгі час, а ён проста хутка прабягаў гэты адрэзак, каб не было магчымасьці марудзіць. так і стаўся ён сярод жыхароў і сучасьнікаў вар’ятам.

## дотыкі

шчыра – я люблю, калі мяне кранаюцца жанчыны, мне вельмі падабаюцца выпадковыя дотыкі альбо калі жанчына прымушана быць набліжанаю да мяне. асабліва гэта адчуваецца ў грамадзкім транспарце, і, калі вучыўся ў Менску, у мяне часта падскокваў ціск, калі ехаў у гадзіны пік.

таксама скажу шчыра: гэтая прыемнасьць ад чужога цела не выклікае ўва мне нейкіх скрыўленьняў, мне ня хочацца сэксу ці мастурбацыі. я проста ў галаве малюю вобраз гэтай жанчыны або маладой дзяўчыны, аголены вобраз, уяўляю тую частку яе цела, якая ў дадзены момант кранаецца мяне, вось, напрыклад, плячо і невялікі кавалачак грудзей… ці мае гэтае плячо радзімкі… альбо, можа быць, грудзі маюць шырокія смочкі… я колькі разоў сам наўмысна дацягваўся локцем ці тыльным бокам далоні да спадарожніцы.

самае яскравае і запамінальнае крананьне было ў мяне на чацьвертым курсе: маладая практыкантка, малочная скура, тонкія рукі… я некалькі разоў да яе падыходзіў і яна, калі штосьці мне тлумачыла, нахілялася і выпадкова сваю руку клала мне на запясьце, вымагаючы мяне быць больш пільным падчас тлумачэньня. я нічога ня памятаў, акрамя цёплай рукі і сузор’я радзімак, якія прагладаліся зь белага рукава.

альбо таксама неверагоднае пачуцьцё, як мая аднагрупніца нахіляецца перадаць канспэкт майму сябру і яе грудзі акурат кладуцца мне на выцягнутую руку на стале. салодкія дотыкі…

такія крананьні часта нясуць за сабою фаервэрк эмоцый.

гэта калі я выпадковасьцю лёсу аднойчы апынуўся ў адным ложку зь пякельнай сяброўкай, і ніякага сэксу не плянавалася, пакуль яна не пачала гладіць сваёю рукою маю руку, так праводзіла пальцамі ад пляча і да кончыкаў пальцаў, і я адразу пачаў плавіцца, як сьметанковы сыр у мікрахвалёўцы.

наколькі я люблю крананьні і дотыкі, настолькі ж баюся, калі жанчына праяўляе сябе першаю альбо калі мае сваёю рысаю характару датыкальную камунікацыю падчас размовы ці знаёмства. ёсьць дзьве жанчыны, якіх я баюся, па-сапраўднаму баюся і стараюся зь імі дачыняцца на адлегласьці. яны абедзьве аднолькава падыходзяць да цябе і, адразу парушаючы тваю прыватную прастору, на плячо руку пакладуць або пачнуць гладзіць локаць. аднойчы яны мяне проста спужалі, калі я сядзеў сьпінаю і адна зь іх падышла і пачала гладзіць мне сьпіну, распавядаючы, што варта было б зараз схадзіць па адной справе.

проста жах: холад, ступар, я б сказаў – нават спроба ўцёкаў, абы толькі гэта скончылася. жанчыны гэтыя цікавыя і прывабныя, але іхняя любоў да

фізычнага кантакту падчас вэрбальнага хутка давядзе мяне да вар’ятні, нават нягледзячы на тое, што я кожным разам ад іх адштурхоўваюся, адыходжу на крок назад, у іх усё роўна атрымліваецца да мяне дацягнуцца.

## вусы

я перастаў ня толькі галіць, але й падразаць вусы, спачатку яны мяне раздражнялі, і расьлі толькі проста, і тырчалі невыносна, і лезьлі ў нос, але прайшло колькі часу, і цяпер у мяне вусы хутка пачнуць закручвацца па бакох, і яны, здаецца, жывуць ужо сваім жыцьцём, але імя вусам, як барадзе, я не даю, бо Патрык – мой стары сябра, які са мною зь першага каханьня, а да вусаў я толькі абвыкаю, і першае, што заўважаю, – вусы пачынаюць па-іншаму зьвязваць мяне з асяродзьдзем, я стаў лепей адчуваць і адрозьніваць пахі, і цяпер часта раніцаю прачынаюся не праз шум, але паводзячы носам па паветры, як драпежнік… ага, вось Люба прыехала, зараз будзе паркавацца ў двары, пад'едзе праз тры, дзьве, адну сэкунду, і я чую, як машына запыняецца, утульна так, мякка, падмінаючы пад гумовыя колы спачатку асфальт, а потым і маленькія каменьчыкі зь пяском, і вось ужо пярэднімі коламі яна заяжджае на газон, які атачае пах сьвежай травы, прымятай, зь невялікім тармазным шляхам.

## такт

у мяне ёсьць самая каштоўная сяброўка Валя, зь якою я стараюся ніколі не сварыцца і як мага часьцей бачыцца. зразумела, што праз мой пераезд у маёнтак яна для мяне сталася амаль недасяжнаю, бо наведваць мяне не зьбіраецца.

Валя – неверагодна ўнікальная, бо абсалютна ня ведае і не разумее, што такое такт, што, дзе і як трэба казаць і як сябе паводзіць. яна ніколі не хадзіла ў школу, бацькі ейнай сярэдняй адукацыяй займаліся самі, таму што, як Валя кажа, яна мела слабы імунітэт і знаходзілася на хатнім лячэньні, што зусім не замінала ёй потым атрымаць дыплём юрыста, па якім яна ні дня не працавала.

з Валяй я пазнаёміўся ў начным клюбе, калі сябры паклікалі на працяг начнога трыпу на кватэру да «дзіўнай» знаёмай. і вось я рукаюся з Валяю, а тая кажа: «зараз пукну» – і пукае, і ўсе навокал сьмяюцца, а я пачуваю сябе няёмка. яна жыве ў цэнтры Менску, у чатырохпакаёўцы, якая мае другі паверх зь яшчэ трыма пакоямі. месца, каб паспаць, хапіла ўсім, але мне не да сну, мы сядзім з Валяю на гаўбцы, абсталяваным пад яшчэ адзін пакой, п’ем кароткія кактэйлі: апэльсінавы сок, марціні, гарэлка, цынамон… Валя распавядае мне, як старому сябру, усё, што трапляе ёй у галаву, жартуе, сьмяецца, ад яе я чую процьму нейкіх дзіўных гісторый і дзіву

даюся, які кардынальна іншы ў яе погляд на сьвет і ніякіх комплексаў, вось яна закінула ногі на гаўбец, я разглядаю яе сьцёгны і фіялетавыя стрынгі, адзначаю, што ў яе дэпіляцыя зробленая пад «дзіцячую нечаканасьць», яе полавыя губы добра акрэсьлены… Валя кажа, што хацела б зрабіць мне дэпіляцыю грудзей, а то я падобны да маманта, і зьнікае. мы зь ёй знаёмыя літаральна тры гадзіны, а ў мяне такое адчуваньне, што я яе ведаю з маленства, калі яна была зусім  плоскаю і бегала з намі па двары, гуляючы ў «казакоў-разбойнікаў».

яна вяртаецца, здымае зь мяне расшпіленую кашулю, уключае дэпілятар, і я пачынаю лямантаваць не сваім голасам. Валя сьмяецца і праз колькі сэкунд адпускае мяне з напаўдэпіляванымі грудзьмі. мы ізноў выпіваем шорт і сьмяемся, яна падае на сафу, запускае рукі ў валасы, прыгладжвае іх, правая рука заблытваецца, Валя кажа, што гэта прысохлая спэрма, з раніцы яшчэ засталася.

## пуза

ну, у мяне ёсьць пуза, самае сапраўднае, і зьявілася яно не раптоўна, а праз адмысловы лад жыцьця, нягледзячы на капаньне гародаў, догляд газонаў і зрэдчас спорт: ровар, баскетбол, футбол. і раней я жартаваў, што апошні месяц як гадую свайго дзіцёнка – бочку піва, хутка ў радзільню ехаць. а цяпер ужо не жартую, бо, на вялікі жаль, любое пуза мяняецца, і калі раней маё было пукатым і сьмешным ды, як любяць з гонарам і жартам казаць украінцы – «вось маё піва, вось мая баба і вось маё пуза», то цяпер пра апошняе я бяз гонару неяк... выглядае яно азызлым і сумным. што рабіць з пузам? дакладна не ад'ядаць яго яшчэ большым, яно ж расьцягваецца, але і худнець неяк ня хочацца, бо я бачыў на ўласныя вочы, як аднойчы адзін зь мясцовых рэзка схуднеў і, пакуль мы зь ім пілі гранёнымі шклянкамі занадта салодкі, але звышмоцны сідар, ён мне паказаў, што зь ім сталася, і я называю гэта – скураны фартух, бо так і ёсьць, пуза, якое хутка схуднела, ператвараецца ў вісячую скуру, акурат ніжэй чэлеса, а мужчынскія грудзі, якія вісяць, – брыдкасьць неверагодная.

і я вось стаю каля яблыні, сарваў самы сакавіты на выгляд яблык і сумна яго жую, бо на сёньня нічога, акрамя яго, надышоў час худнець, нават нягледзячы на тое, што ўсё павісьне і я буду падобны да старога шарпэя, я павінны гэта адолець хаця б нават дзеля вопыту і новых пачуцьцяў, бо кажуць, што галадаць – гэта прыемна, гэта такі своеасаблівы акт мазахізму.

## бойка

гэта здарылася на трэцім курсе вну. восеньню. увечары дзесяць аднагрупнікаў і аднагрупніц вырашылі паехаць у клюб «Бабілён» выпіць, патанчыць і скарыстацца сваімі знаёмствамі з адміністратарам, каб трапіць у vip-пакой.

п’ем, жартуем, сьмяемся, танчым… недзе так а дванаццатай я наперапісваўся смскамі да сустрэчы з адной прывабнай сяброўкай і вырашыў зьехаць з агульнай п’янкі. выклікаў таксоўку і накіраваўся да выхаду.

трэці паверх, я па лесьвіцы ўніз. другі паверх, на лесьвіцы стаіць нейкі хлопец і палівае прыступкі і парэнчы мачою. я абураюся і валю яму ў твар ды ганю ўніз, да выхаду, не даючы яму скончыць сваю гнюсную справу… хлопец п’яны, хоча штосьці сказаць, але я ўжо ў таксоўцы.

на наступны дзень раніцай я, вядома, прачынаюся не ў сябе, прымаю душ, кідаю ў пусты страўнік бутэрброд зь сёмгай, і на разьвітаньне яшчэ раз – сэкс.

па дарозе на лекцыі, якія вельмі дарэчы пачынаюцца а другой, я набываю колькі бутэлек піва, сабе і падзяліцца з маімі ўчорашнімі сабутэльнікамі.

прыяжджаю і нікога не знаходжу, дзіўна! пачынаю назвоньваць, адзін не адказвае, другі скінуў, яшчэ адзін таксама скінуў уваходны званок… падняла толькі Яна, адразу паслала мяне на хуй і скінула.

я пачынаю турбавацца, штосьці тут ня так, што гэта мяне ўсе ігнаруюць?!

на лекцыі не іду, дапіваю ўсё піва і зьяжджаю з рога ўнівэра да сяброўкі па новую порцыю каханьня.

і толькі праз два дні я даведваюся, што ўсе мае аднагрупнікі, якія так файна пілі са мною ў «Бабілёне», той ноччу трапілі ў бальніцу. бо хлопец, якому я ня даў спакойна дассаць на лесьвіцы, быў зь сябрамі і прывёў іх да аднагрупнікаў – помсьціць за маё нахабства.

зьбілі ўсіх, нават дзяўчат. я ледзь пад зямлю не праваліўся, ня ведаў, як буду глядзець у вочы кожнаму, хто празь мяне так пацярпеў! але мінуў час, раны загаіліся, сінякі зьніклі, і вось мы ўжо ўсе на курылцы жартуем, што варта было б усім зьбітым сабрацца і пабіць мяне, начнога героя, ворага ўсіх сцыкуноў! я сьмяюся, але разумею, што калі мяне сапраўды зьбяруцца біць, я буду толькі рады, каб неяк аблегчыць цяжар віны на сэрцы.

## п’янка

кожны можа ўспомніць першую п’янку, калі табе пад -наццаць, жыцьцё толькі пачынаецца, але патрабаваньні да яго празьмерныя. у нас быў аднаклясьнік, які на ўсё пагаджаўся, асабліва на вечарынкі і гулянкі ў ягонай кватэры. бацькі займаліся фірмовай касмэтыкай і разьяжджалі па Беларусі з сэмінарамі, таму наш аднаклясьнік часта заставаўся самотным у вялікай трохпакаёўцы з новым рамонтам і цудоўным мэблевым абсталяваньнем.

можна і самому прыходзіць, і сябровак прыводзіць.

менавіта ў нашага аднаклясьніка на кватэры адбылася першая грандыёзная папойка. і перад пачаткам гісторыі застаецца толькі дадаць, што дом пяціпавярховы, аднаклясьнік жыў на пятым паверсе, а нашая аднаклясьніца-завучка – на чацьвертым.

і вось яна, кульмінацыя вечару, п’яны аднаклясьнік вось-вось пачне ванітаваць на новае паласавае пакрыцьцё, мы яму крычым, каб рабіў гэта толькі ня ў цэнтры пакоя, і ён, ледзь трымаючыся на нагах, акуратна ванітуе ў далонь, акуратна падыходзіць да расчыненай форткі ды акуратна распыляе па вакне, столі і суседняй сьценцы сваё «багацьце». потым двойчы паўтарае свае маніпуляцыі…

ад такога ўбачанага мой сябра падрываецца з канапы ды імчыць двума скокамі да форткі, каб усё

зрабіць вонкі, але не далятае літаральна якіх дзесяць сантымэтраў і ванітуе між дзьвюх вокнаў, робіць ваконны акварыюм са сваімі жыхарамі: кавалачкамі агурка, шампіньёнамі і квашанай капустаю.

страх і нянавісьць па-беларуску!

далей усё як у тумане, хтосьці спрабуе выцерці, хтосьці на падлозе сьпіць, хтосьці рагоча і фоткае ўсю гэтую прыўкрасную карціну.

раніца была поўная сюрпрызаў: я прачнуўся зь неверагодна цяжкою галавою, усе валасы мне забляваў мой сябра дзяцінства, які акурат за мною спаў, таму прачнуўся я быццам у шапцы з засохлымі вывяржэньнямі. сябра ж мой яшчэ спаў на жываце, штаны і майткі ў яго былі спушчаныя і з дупы тырчэў уключаны ліхтарык – як пазьней высьветлілася, калі мянты ламіліся ноччу ў хату, рэштка п’яных аднаклясьнікаў вырубіла музыку і сьвятло, і залягла на дно, вырашана было ўвогуле не ўключаць сьвятло, таму ўзялі ліхтарык, і, каб той сьвяціў як таршэр і не падаў, уваткнулі ў сраку майму сябру і пілі вакол сьвятла, жартавалі і фоткалі.

на наступны дзень усе пасьпяшаліся з кватэры, пакуль не прачнуўся гора-гаспадар.

а праз суткі нам назвоньваў наш аднаклясьнік, запытваўся, ці ня ведае хто, куды падзеліся пяць слоікаў чырвонай ікры зь лядоўні? і кожны яму

адказваў адно і тое ж: «боўдзіла, ты што, ня памятаеш, як сам усе слоікі паадкаркоўваў, крычаў, што вечарына працягваецца, і спрабаваў раскідвацца каштоўнай закусьсю?!»

аднаклясьнік потым па нашым раёне з тыдзень зьбіраў грошы, каб набыць ікру, бо ягоны бацька яе захоўваў да юбілею. а суседка зьнізу, нашая аднаклясьніца, цэлы дзень адмывала свае вокны ад падцёкаў, а праз тыдзень перавялася ў іншую клясу.

## эро

вось яскравы прыклад таго, што ня ўсе жанчыны так ужо любяць, калі ім цалуюць грудзі альбо пяшчотна іх лашчаць. у мяне была дзяўчына, якую ўсе крананьні, заляцаньні і засосы на такіх жаданых для мужчыны блізьнятках пакідалі абыякавай, я б нават сказаў – яе адразу цягнула на сон, быццам я яе пагладзіў па галоўцы, настройваючы на каляровыя сны. я не здаваўся. шукаў эрагенныя кропкі: пругкі жывот – як быццам паказытаў... шыя – кашэчае месца – ну пяцьдзясят на пяцьдзясят.

а потым выпадкова, калі мы разам ляжалі ў ваннай, я вырашыў зрабіць ёй масаж ступняў – і цуд! узбуджэньне, жаданьне, полымя жарсьці хвалямі захлынулі яе і мяне.

але мы зь ёй ня так доўга пражылі разам, бо мне гэтыя нажныя гульні надакучылі. вядома, у яе былі прыгожыя пальчыкі, якія я цалаваў, і пятачка такая прывабная, па ёй прыемна было вадзіць пэнісам, але нешта ня склалася, і я, зьехаўшы на новую здымную кватэру, а было гэта акурат на другім курсе, спаткаў Сабіну.

Сабіна – мара любога мужчыны: валасы курчавыя, да попы, сама ўся зьбітая, пругкая, з прыгожымі грудзямі і шырокімі ружовымі смочкамі, яна да адурэньня любіла сэкс і смачна паесьці. узбуджалася

яна проста як камэта, якая ўваходзіць у атмасфэру, ты да яе толькі дакрануўся, яна ўжо палае і накідваецца на цябе, як драпежнік, з зубамі і кіпцюрамі. яна для мяне, пасьля доўгіх пакутаў і пошукаў эрагеннасьці ў іншых жанчын, была вызваленьнем ад любых умоўнасьцяў, даходзіла да аргазму за лічаныя хвіліны і давала табе час не працаваць, падрыхтоўваючы жаночае цела для любошчаў, але займацца сэксам колькі хочацца, пакуль ня кончыш.

але жыцьцё з Сабінаю пакрысе пачало даводзіць мяне да вар'ятні.

вось я пішу выніковую працу па Ніцшэ, зразумела, што тэрміны гараць сінім полымем, дэдлайн мінуў два дні як. заходзіць у пакой яна, мая курчавая смаката, і кажа: «блін, я больш так не магу, і чакаць цябе не зьбіраюся, і ў душ не пайду, мне тэрмінова патрэбны сэкс, і ніякіх ванных «дожджыкаў»!» я ёй адказваю, што мне б яшчэ паўгадзінкі – і буду вольны, а яна і чуць нічога ня хоча, лезе пад стол і дастае з майткоў мой чэлес...

і такое вар'яцтва па два разы на дзень. я ўсур'ёз пачаў задумвацца, што зь ёй рабіць, бо гэта ж усе прыкметы німфаманіі.

неяк аднойчы, калі я чакаў вучаніцу, бо падзарабляў рэпэтытарствам, за пяць хвілін да прыходу яе Сабіна проста атакавала мяне з двух скокаў, і вось карціна алеем: я стаю каля канапы, узмакрэлы,

са спушчанымі штанамі, расшпіленай кашуляю, вось-вось хутка кончу, Сабіна на канапе галавою ў падушках, я бачу толькі яе сьпіну і часам пазіраю, як рухаюся ў ёй... дамафон звоніць ужо трэці раз... ужо-ўжо! хутка адчыню!

мая вучаніца глядзела на мяне ашалела, я ўвесь мокры, ад мяне пахне сэксам – твар чырвоны, валасы абы-як. сяджу насупраць і тлумачу ёй падзелы Рэчы Паспалітай, а ў ванным пакоі чутна, як Сабіна мыецца. альбо душам заканчвае справу, хто яго ведае.

мы зь ёй не пасьпелі разысьціся, яна зьехала вучыцца ў Мюнхэн і пакінула мне вялізарную валізу на колах, у якой месьціліся не яе рэчы, і яна абяцала свайму нейкаму былому хлопцу забраць іх у мяне.

і што я магу сказаць, за паўгода да мяне прыяжджала дзевяць розных «былых» мужчын, адзін забраў стары лэптоп, другі – два швэдры, трэці – цэлы пакунак каляровых шкарпэтак... і ва ўсіх былі аднолькавыя рысы, як яна любіць: няголенасьць, сьветлыя валасы, крыху поўнае цела, і я бачыў, што забіралі яны ня проста рэчы, а найкаштоўныя ўспаміны аб гарачым каханьні і рамантычных курчавых валасах, якія належалі драпежніцы зь неабмежаваным апэтытам.

## эга

Алёнушка, пякельная сябровачка, танюткая, страйнюткая, гнуткая. дзяўчынка – мужчынская мяжа, дэдлайн каханьня. яна любіла і любіць толькі сябе, як казала маці: калі табе мужчына не аддае ўсяго сябе, ён – дрэнь мужчына. Алёнушка гэта добра разумела, бо бачыла, якая ў яе маці і што дзеля яе робяць мужчыны. маці – хітрая котка, і ёй абавязкова трэба стаць такой самай.

у старэйшых клясах Алёнка ўзвысіла сябе панад усімі і чакала, калі да яе пачнуць прыходзіць хлопцы і падаць у ногі. але нічога не адбывалася, Алёнка яшчэ ня ўмела хітрыць, таму звонку выглядала як гарэзьлівы падлетак, замкнёны ў сабе.

маці кажа, трэба вейкамі часьцей хлопаць, трэба быць аднагасова недасяжнаю і яркаю кветкаю, якая адмыслова распусьцілася дзеля чмялёў.

для Алёнкі гэта было складана, яна завяла сабе хлопца, на якім вырашыла трэнавацца. хлопец выявіўся неблагім юнаком, добрым, уважлівым і зачараваным прыгажосьцю сваёй дзяўчыны, таму ёй дазвалялася ўсё: напрыклад, калі яны ядуць штосьці смачнае, Алёнка зьядае вяршкі. калі яны ідуць у парк, Алёнка сядзіць на руках хлопца ў любых выпадках. калі яны цалуюцца, Алёнка сама дазваляе сябе цалаваць, і нават калі яны займаюцца пэтынгам, першае, што абавязаны рабіць хлопец, стымуляваць яе, а гэта значыцца – ляжаць на сьпіне і чакаць калі яна скон-

чыць мастурбацыю ягоным чэлесам. неяк аднойчы хлопец захацеў дапамагчы Алёнцы з інтымнымі справамі, на што атрымаў аплявуху і шэптам кінутае: «ціха сабе ляжы, дай скончыць», і яна сьціскае ягоную мужчынскую прыладу.

Алёнка зусім не падавалася тою дзяўчынаю, якую хацела бачыць маці, жаночай лагоднасьці, гнуткасьці і хітрасьці не было, толькі эгаізм і жаданьне кіраваць і валодаць... і гэты дзіўны пункт, захоўваць цнатлівасьць да вясельля, які ня стаўся для яе перашкодаю ўступіць у мамадынг з трыццацю маладымі гішпанскімі хлопцамі ў курортным клюбе, каб выйграць бутэльку віна.

хлопцу яна, дарэчы, падарыла цэлы букет фобіяў, і хоць яны хутка рассталіся, той ня быў здольным заняцца сэксам ажно да трыццаці год.

## ружа

а калі раман будзе пачынацца з такога абзацу?

Я быў малым падшыванцам і цягаў пад сталом котку за хвост, калі мая бабуля, сабраўшы ў садзе вялікія букеты ружаў і прывёзшы з гораду пэрсікаў, стаяла на кухні і рыхтавалася варыць з гэтага каляровага багацьця сочыва. Яна брала сваімі старымі, друзлымі рукамі маладыя бутоны белых цнатлівых ружаў, мяла іх скручанымі пальцамі й кідала ў вялікі рондаль, потым брала чырвоныя ружы, трушчыла й дадавала да белых зьмятых пялёсткаў, далей у кулачках сьціскала жоўтыя ружы і таксама кідала да астатніх. І, ціхенька напяваючы сабе пад нос, наразала сакавітыя пэрсікі, якія расьціскаліся пад пальцамі і лязом, і засыпала іх у магілкі руж – успамінаў пра каханьне й сасьпелае лета мінулых гадоў. дадавала цукар, запальвала агонь на старой нямецкай газавай пліце і чакала, седзячы на старым зэдліку, з драўлянаю лыжкаю ў руцэ. У гэты час чаканьня пакой пакрысе насычаўся пахам і чорнабелымі малюнкамі, фотаздымкамі і стужкамі. Пра што разважала альбо марыла мая бабулька? Можа быць, пра мужа, які маладым сышоў з гэтага сьвету? Можа быць, пра першы дарослы ровар, на якім яна, сунуўшы праз раму левую нагу, круціла пэдалямі па грыбы ў лес. А можа быць, яна, паглядаючы на мяне, думала, кім я стану, калі вырасту, і ці будзе мая маці калі-небудзь мяне гадаваць, альбо гэта цяпер яе, старой жанчыны, лёс.

## музыка

гэтую гісторыю я называю цудам.

я часта наведваю маму, і апошнім часам, седзячы ў пакоі, дзе яна адпачывае, я чую, як хтосьці грае на скрыпцы, грае танютка, пяшчотна і неверагодна сумна, але з адценьнем спадзеву і любові да ўсяго жывога ў сьвеце. я адразу зразумеў, што гэта ня вучань які-небудзь, гэтая музыка не дзеля трэнаваньня, гэтая музыка дзеля існаваньня ў сьвеце, дзеля жыцьця, гармоніі і прыгажосьці, а такія рэчы адразу прыкмячаюцца. шмат разоў я проста сядзеў побач з маці і слухаў чыюсьці асабістую гісторыю жыцьця, каханьня, шчасьця...

і сёньня запытаўся, хто гэта грае ў яе доме. і даведаўся.

доўгі час старая жанчына, якую нанялі даглядаць старога дзеда ягоныя сын з дачкою, бо жывуць за мяжою, не магла ніяк разварушыць хворага, якому ўжо пераваліла за дзевяноста.

старая жанчына ўладкавалася глядзець праз сваю адзіноту: ні дзяцей, ні ўнукаў, ні сяброў, ні нават суседзяў, нікога, каб хоць хтосьці зацікавіўся ейным станам здароўя і жыцьцём. вось ёй семдзесят два гады, яна паабяцала маладым людзям, што дзядуля будзе дагледжаны належным чынам, можаце часам проста званіць, і ня трэба так турбавацца і часта езьдзіць, бо дарога цяпер дарагая...

першы час стары дзед не зьвяртаў на сваю новую сядзелку ніякай увагі. Потым пачаў капрызіць: яна прыносіла яму есьці – ён кідаўся ў яе ежаю. яна прыносіла яму кнігу – ён пачынаў хрыпець і выць, не даючы бабульцы нават і адзін сказ прачытаць уголас.

тэлевізар яго не цікавіў, стары ляжаў у ложку, і чакаў канца. і бабуля зразумела, што ня здольная знайсьці для яго супакой і давядзецца ёй сыходзіць з гэтай працы.

але сэрца старой жанчыны было вялікім, і яна проста так не жадала здавацца, тым болей, што гэты спарахнелы пень ёй падабаўся, была ў ягоных рысах нейкая дзіўная рашучасьць, мужнасьць, адвечная барацьба.

бабуля ўспомніла, што калісьці даўно, вельмі даўно грала на скрыпцы, і, адшукаўшы ў шафе інструмэнт, яна набыла новыя струны ды смычок з новай пругкай каніфольлю і на наступны дзень выправілася на працу.

трэба было бачыць твар старога, калі бабуля дастала скрыпку і пачала граць... яна так хутка ўспомніла ўсе ноты і гамы, што нават сама не пасьпела зьдзівіцца.

і вось мінула тры гадзіны, яна скончыла граць – упершыню за трыццаць пяць год.

дзед сядзеў на ложку, таксама ўпершыню за шмат год, а потым нават знайшоў у сабе моц устаць,

зрабіць некалькі крокаў і абняць свайго музычнага анёла...

я люблю сядзець у маміным пакоі, асабліва калі чую з верхняга паверху скрыпку. скрыпка грае так шчыра і прыгожа, што хочацца плакаць.

## чаравікі

1995-ы, маладая сям’я прыехала ў вялікі горад з мэтаю пачаць новае жыцьцё, пабудаваць новую «ячэйку грамадзтва». жонка Ала, муж Алесь, тры сыны. пакой у кватэры ім даў адзін з далёкіх сваякоў, грошы па першым часе не прасіў, бо становішча такое, што і сам ня бачыў гэтых грэбаных паперак цягам трох месяцаў.

працу шукаў толькі бацька, бо сыны былі зусім малымі, старэйшы толькі-толькі пачаў хадзіць і складаць некалькі словаў у сказы.

на працягу шасьці доўгіх месяцаў сям’я жыла бедна, але чыста, і кожны вечар маці ўключала лямпу і шукала паразытаў у сваіх доўгіх валасах, а потым глядзела дзіцячыя галоўкі.

елі яны штодня адно і тое ж: смажаная бульба, квашаная капуста, на кожнага па адным танюткім кавалачку сала. далёкі сваяк жыў больш раскошна, у яго нават тэлевізар быў, і пад добры настрой ён усіх запрашаў на вячэрні прагляд сэрыялу, але дзяліцца цукеркаю альбо гарбатаю, якія звычайна ўжываў перад экранам, не зьбіраўся. Ала даўно забылася на смак салодкага, а яе сыны яшчэ не каштавалі гэтага, таму і не прасілі.

нарэшце, па доўгім і невыносным чаканьні, Алеся ўзялі на завод. Ала адразу схавала вялікі шмат

сала, каб перакус рабіць, і ўся сям’я прыціхла ў чаканьні наступнага месяца, калі татаў заробак пачне ставіць іх на ногі.

Ала пасьпела пазнаёміцца з суседкамі, і за доўгі працоўны месяц пазычыла колькі талераў на хлеб, соль і прыгожую, але танную сукенку, каб у вечар заробку чакаць Алеся ва ўсёй пекнаце.

Алесь прыйшоў, спазьніўшыся на чатыры гадзіны, сумны, паніклы. Ала ўжо ня ведала, што ёй рабіць, і, калі натужна зарыпелі дзьверы, першымі яе словамі былі: «ну што? колькі заплацілі?»

але Алесь дастаў з торбы, пашытай з пакетаў з-пад малака, пару чорных чаравікаў і прамовіў, што на заводзе ў гэтым месяцы давалі заробак вось гэтым, так бы мовіць «бартар», а іх завод, у сваю чаргу, на завод абутку адправіў некалькі соцень кіляграмаў сьвежых падшыпнікаў для трактароў.

начальства на агульным зборы сказала: «прадасьцё чаравікі – будуць вам грошы і шчасьце!»

так Алесь і прастаяў чатыры гадзіны каля бліжэйшага грамадзкага прыпынку, прапануючы мінакам у продаж чорныя чаравікі, але толькі зьмерз і быў вымушаны ехаць дамоў.

## кнігі

для мяне самае незабыўнае і захапляльнае ў кнігах – калі дзеяньне паводле сюжэта дакладна супадае з днём, у які ты чытаеш гэтую кнігу. адразу складаецца адчуваньне, што ты непасрэдны ўдзельнік тут і цяпер. а такія рэчы, як супадзеньне надвор’я і сэзонаў году, увогуле зьява частая. вось ты чытаеш, як галоўны герой караскаецца на ўзгорак, пераадольваючы невыносную сьпёку, і ты яго разумееш, бо сам у дадзены момант ляжыш на прахалоднай падлозе, п’еш сок з ільдом, спатнелы… вэнтылятар не дапамагае, а за вакном +39, ліпень...

альбо вось калісьці я ехаў у Прагу праз Польшчу і з сабою вёз, прычым выпадкова, «Уводзіны ў геаграфію» Юрыя Андруховіча. і некалькі апісаных месцаў супалі з тымі, якія я праяжджаў. я быў шчасьлівы!

і самае незабыўнае супадзеньне ў маім жыцьці: неяк я зьехаў па стыпендыі ў Нямеччыну і з сабою ўзяў роўна пяць кніг, якіх не чытаў, але зьбіраўся, і мой шок: я ў Дрэздэне выпадкова да сяброў аўтаспынам прыехаў, у кішэні – «Бойня нумар 5» Курта Вонэгута, і я сядаю чакаць сяброў каля сабору і пачынаю чытаць раман. а там! акурат Другая сусьветная і амэрыканскія самалёты бамбяць Дрэздэн!

мае мары: праехацца электарацыяй «Масква – Петушкі» ды зганяць пад галюцынагенамі разам зь сябрам на машыне бяз даху ў Лас-Вэгас і пажыць некалькі год на Манмартры.

мары відавочна юнацкія.

## муза

я асабіста ніколі не слухаў і не карыстаўся ісьцінамі з двароў альбо ад старых пакаленьняў, бо тады мяне варта было б ажаніць на качарзе і забыцца на дзівака, які раней жыў тут. я ніколі не ацэньваў сябе звонку, калі справа даходзіла да каханьня. я лічыў, што варты любой жанчыны, якая мне спадабаецца, і ўсе гэтыя: «ён ёй не пасуе, ён стары, тупы, занадта малады, бедны, непрыгожы, тоўсты, валасаты, невысокага росту» – амаль усё зь пералічанага пасавала б і мне, кожнае ў свой час.

я верыў і веру толькі ў моц мужчынскага мозгу, у ягоную інтэлектуальную гнуткасьць і магчымасьць загадзя сплянаваць шляхі дасягненьня той ці іншай жанчыны.

у мяне каханкі былі рознымі, і я ніколі не ствараў сабе нейкі вобраз, які шукаю, здаралася, што мяне маглі зававабіць адно бровы, і я больш нічога ня бачыў, альбо высокі рост, і я ўжо рыхтаваў прылады, каб караскацца да сваёй перамогі. былі выпадкі, калі я месяцамі мусіў дабівацца жанчыны, і, як толькі яе атрымлівалася пацалаваць і ўзяць за руку, я губляў да яе інтарэс, або наадварот, мяне магла трымаць доўгі час жанчына на кароткім ланцугу толькі праз тое, што сама ўзяла ініцыятыву ў свае рукі.

усё залежыць ад настрою, часам я жадаю быць заваёўнікам, часам, наадварот, аддацца і ўсё. і ніколі ня верце, што мужчыны – гэта толькі фізычная моц. мужчыны складаныя і капрызьлівыя ў стасунках і каханьні. здаралася, я мог нэрвавацца праз тое, што мая каханка сядзіць на лаўцы і хоча пасядзець далей, а мне нецікава, але ж для яе гэта важна, альбо я псыхаваў і потым псаваў увесь вечар, калі дзяўчына спазьнялася на паўгадзінкі.

разумею, што я скроены ня толькі зь цягліц, у мяне тонкая ўнутраная канструкцыя, якая часта паводзіць сябе непрадказальна. вось і тое, што са мною адбылося ў дзевятнаццаць, я магу лічыць рамантыкаю і глупствам, але рэччу неабходнаю для таго, хто піша.

зь ёй я пазнаёміўся каля чыгуначнага вакзалу, я вучыўся на першым курсе, першы сэмэстар, яна проста ішла кудысьці. я ніколі не знаёміўся на вуліцы, але тут мяне працяла па ўсім целе моцным разрадам і літаральна штурхнула да яе.

праз хвілін так дваццаць угавораў яна дазволіла правесьці сябе да дому... я ішоў радасны, цягнуў вялізны заплечнік з кнігамі і раздрукоўкамі па тэорыі рэлігіі, вёрз ёй розную бязглузьдзіцу, спрабаваў жартаваць, яна ўсьміхалася і зачароўвала мяне сваёй мяккай хадой і ямачкамі на шчочках, я квітнеў і рассыпаўся ў камплімэнтах ды распавядаў

неверагодныя гісторыі. мы зь ёй гулялі па ўсіх вуліцах Менску, хадзілі пехатою па парках і ўздоўж ракі, пілі гарбату і піва, палілі... і так мінула цэлая ноч.

яна сказала, што было б някепска ўжо дадому, паспаць колькі гадзінак. я давёў яе да дому, у якім яна здымала разам зь сяброўкаю кватэру. яна пакінула мне на паперцы свой тэлефон і мэйл ды пацалавала.

цяжка ўявіць маю скруху і невыносную бездапаможнасьць, калі я, вярнуўшыся ў свой здымны пакой, адаспаўшыся, не знайшоў паперку, я зазірнуў паўсюль, я зьезьдзіў да гэтага дому, але нават ня змог узгадаць, у які пад'езд яна зайшла, туман у галаве і нейкі незнаёмы звон у вушах, быццам мяне зачаравала.

я паміраў і ня мог знайсьці сабе месца...

і вось, памятаю, я ёй тады з гонарам казаў, што буду пісьменьнікам, што ў мяне мэта жыцьця – пісаць раманы... і я сапраўды потым пачаў пісаць, і на працягу пяці год пісаў для яе, кожны радок адрасаваў толькі ёй, я бачыў, як яна гэта чытае і плача, напрыклад, альбо ўсьміхаецца, альбо крывіцца і не жадае нават дачытваць... яна, гэтая мая начная сяброўка, нават і не здагадваецца, якім моцным стымулам сталася для мяне.

яна, напэўна, не дачакаўшыся тэлефанаваньня і нічога не атрымаўшы на мэйл, расчаравалася ўва мне і да гэтага часу ня ведае, што гэты тэкст таксама адрасаваны ёй і яе сакавітаму пацалунку, калі мне было дзевятнаццаць і я марыў пісаць раманы.

## забойства

мінуў год, як Люба аднойчы прыехала да мяне і, замест таго каб пагасьціць у маёнтку, забрала мяне разам з Карнэлем да сваёй бабулі на тыдзень.

я спачатку сумняваўся, ці будзе мне цікава цэлы тыдзень прабавіць у доме старога чалавека, але яе бабуля выявілася цудоўным суразмоўцам.

ад бабулі я пачуў процьму гісторый пра вайну і жыцьцё пасьля вайны, пра фашыстаў і савецкую армію. трэба адзначыць, бабуля аднолькава роўна ставілася як да сваіх, так і да чужых, яна казала, што абодва бакі вінаватыя і ў кожнага рукі ў крыві.

бабулі было дзесяць у 1943-м, і да яе на двор зайшоў малады дэсантнік, немец, жэстамі папрасіў папіць, яна зьбегала да калодзежа і зь вядра наліла цэлы збан халоднай вады. немец піў вялікім глыткамі… казала, што на ўсё жыцьцё запомніла, як хадзіў ягоны кадык, уверх-уніз, і шыя, і падбародзьдзе такія чыстыя, паголеныя, і сам немец такі сьветлы, усьміхаецца, дзякуе.

калі немец сышоў, яна пабегла ў лес, да партызан, і здала ім дэсантніка.

распавядала, як яго знайшлі, на плошчу вывалаклі, ужо закатаванага, казала, што той выдаў усе збудаваньні пад горадам. і расстралялі яго на вачах жыхароў, і адвезьлі, і закапалі ў лесапаласе.

я прасіў бабулю, каб яна мне на мапе паказала, дзе яго закапалі, можа быць, да гэтага часу яго шукаюць, але бабуля толькі адвярнулася да вакна і задуменна паглядзела ўдалячынь.

а я сядзеў і думаў, як гэта, калі ты ў зусім малым узросьце забіваеш чалавека. я шмат разважаў пра гэта, але ніводнага разу ў яе не запытаўся, бо разумеў: калі яна кожны дзень успамінае пра тое, як здала немца, – гэта яе ўласны крыж.

## памяць

я хачу, каб, калі мы з табою расстанемся, ты памятаў пра гэты вечар, калі ў нас было сапраўднае шчасьце, нам было ўтульна, і я цябе цалавала так, як толькі табе падабаецца...

і сапраўды, мы ўжо даўно рассталіся, я зь цяжкасьцю ўспамінаю, як яна выглядае, але магу ў падрабязнасьцях распавесьці, што было ў той вечар у нас пад віно, які фільм мы глядзелі, пад якім пледам спалі...

так бы мовіць, зямное жыцьцё прайшоўшы да паловы, я апынуўся перад пытаньнем памяці.

я выдатна памятаю квадратныя сківіцы Юры, хлопца, зь якім мы сябравалі ў юнацтве, добра памятаю ягоны пукаты лоб і нос, незвычайна акуратны для ягоных рысаў твару.

Юра пераехаў у Менск, адвучыўся на актора, паздымаўся ў масоўцы і, атрымаўшы буйную ролю ў сэрыяле «Кадэты», на радасьцях выпіў на здымачнай пляцоўцы, і яго, п’янога, падвезьлі да пад’езда. дома чакала Кіра на шостым месяцы і хвалявалася, мабільныя тады былі раскошаю. Юра з парога абвясьціў цудоўную навіну і, трымаючыся за сьценку, выправіўся на гаўбец пакурыць, перад тым як жонка пагоніць яго мыцца і класьціся спаць.

Юра падкурыў, не ўтрымаў раўнавагу і выпаў зь дзясятага паверху.

у той час кожны паводле свайго жаданьня ставіў шклопакеты на гаўбцы.

я ня памятаю, як выглядала яго Кіра, але я памятаю наступны дзень, калі мы хадзілі па кватэры і здымалі з каробак дзьверы і складвалі ў кладоўцы, памятаю Сьвету, якая ўвесь час абдымала Кіру і гладзіла яе па вялікім жываце...

я зусім ня памятаю, што гэта быў за дзень, было пагодна ці волка, вечар альбо дзень, я сядзеў на лекцыі, прысьвечанай памяці Януша Корчака, мая шаноўная выкладчыца распавядала пра вялікага чалавека, чытала вершы, плакала і не саромелася гэтага, палова аўдыторыі плакала... я глядзеў у далёкае вакно і бачыў толькі сьвет, і ў памяці засталіся цяжкія сьвятыя гадзіны лекцыі, якія я ні на што не прамяняю.

## пакараньне

у трэцяй клясе я быў двойчы пакараны Нябёсамі. у кастрычніку, з розьніцай у тыдзень.

урок, настаўніца выйшла, яе выклікаў завуч. я адразу заўважыў, што Рыгор, хлопец задзірысты, той яшчэ падшыванец, нешта не падзяліў зь дзяўчынаю, якая мне падабалася, я падскочыў да яго і зьбіў пад ім крэсла, той паваліўся на падлогу і моцна ўдарыўся патыліцай аб заднюю парту. я расьсьмяяўся ды сеў на сваё месца, але сьмех не праходзіў, і я ўжо амаль са сьлязьмі на вачох рагатаў. усьмешка на ўвесь твар, рот раскрыты… і тут я паваліўся тварам на парту, так мне было сьмешна, а пакуль мой твар ляцеў на тую парту, зубы першымі сустрэліся з дрэвам.

хлоп!

і толькі вялікі аскепак пярэдняга зуба тырчыць з парты. боль неверагодны! кроў сьцякае з вуснаў.

настала чарга Рыгора сьмяяцца…

праз тыдзень, калі я ўжо добра навучыўся сьвісьцець празь пярэднюю дзірку між зубамі, на фізкультуры ўся кляса была на вуліцы, здавалі крос, пасьля якога я вырашыў паганяцца па баскетбольнай пляцоўцы з чарвяком у руцэ і сьвістам за Ганнаю.

і раптам на крутым манэўры Ганна ўзяла ў левы бок, а я заблытаўся ў нагах і правым каленам праехаўся па асфальце.

разрэзаў нагу так, што была бачная костка – пяць швоў. хадзіў кульгаючы і не разгінаючы нагу месяцы два…

калі я толькі ўпаў і з жахам глядзеў на сваю рану, пакуль да мяне бег фізрук, Ганна падышла і сказала: «гэта цябе Бог пакараў. бо я баюся чарвякоў і прасіла Яго, каб Ён цябе пакараў».

## закладка

у мяне зьявілася фобія. кожным разам, калі адкрываю кнігу, якую ў дадзены момант чытаю, я натыркаюся на закладку: фотаздымак Кафкі і пералік ягоных раманаў – падарунак ад сябра, набыты ў музэі Кафкі ў Празе.

і кожным разам, калі я бачу гэтую закладку, мне становіцца сорамна, што я напісаў сёньня дзьве старонкі рамана, і гэтыя старонкі – выпакутаваныя, нязграбныя і выглядаюць сіроткамі.

і я адкладаю чытаньне і сядаю за стол, але ў выніку нічога не пішу, бо таксама неяк няёмка, што вось я пабачыў Кафку – і мяне панесла пісаць. вар’яцтва нейкае. давялося схаваць закладку ў кнігу, якую ўжо прачытаў, каб фота яшчэ доўгі час не засмучала мяне.

## мойва

вэнджаная мойва рэдка зьяўляецца на паліцах у крамах, яе замяняюць розныя там салакі,ількі і селядзец, але калі ўжо яна зьяўляецца, то яе татальна выкупляюць.

мойва – незаменная рэч пад піва і вараную бульбу. калі п’еш піва з мойваю, то выжлукціць можна ўтрая больш, а пассаць мала, такім чынам прадукт у арганізме затрымліваецца на даўжэйшы тэрмін. але лепей потым не глядзець на свой азызлы твар раніцай.

я ня піў месяц і столькі ж трымаўся ў пляне сэксу – у мяне нават не было мастурбацыі. першыя дні ў скронях пульсавалі толькі дзьве думкі: піва і сэкс. я доўга трымаўся, і трымаўся наўмысна, бо аднойчы прачнуўся, паглядзеў на сябе – і стала агідна і сумна ад таго, што нічога ня хочацца. такім чынам я вырашыў прабудзіць у сабе жаданьне жыць і атрымліваць асалоду ад жыцьця. і мне спадабалася – усе эмоцыі, адценьні думак, назіраньні былі абвостранымі і надавалі жыцьцю сэнс.

я хадзіў зачараваным… і гэта было на трэцім курсе, калі на патоку была адна дзяўчына, Ліля, якая мяне кахала шчыра і аддана, і аднойчы, калі я выходзіў з «Пабеды» пасьля кінапаказу «4х4», я проста крыкнуў у натоўп, бо ведаў кожнага другога сталага наведніка: «хто зьбіраецца паехаць да мяне і выпіць?!»

і да мяне падышла яна і сказала, што гатовая ехаць.

праз гадзіну, затрымаўшыся на шляху толькі ля крамы, мы былі ў мяне.

я разглядаў яе: прыгожыя вочы, цёмныя валасы, фрызура «карэ», дзяўчынка тоненькая, можна сказаць прыгожая, калі б не падбародзьдзе: вострае, двайное, і калі яна зьдзіўляецца – трайное.

зь ёй можна проста адпачыць у ложку некалькі разоў – і хопіць. так я разважаў, калі яна распраналася і глядзела проста мне ў вочы… я тады ня ведаў, што яна пачне мяне перасьледаваць.

сэкс у нас атрымаўся няўдалы, я ніяк не знаходзіў да яе шлях, яна была драўляная, і я бачыў колькі валаскоў вакол смочак, і похва яе была быццам квадратная, і лабок так выпіраў і быў такі востры… карацей, у мяне нічога не атрымалася, ні першы, ні другі, ні трэці раз… яна пакрыўдзілася, але пражыла са мною два тыдні, пакуль маці не прымусіла яе вярнуцца дамоў.

мы зь ёй пачалі перасякацца, часам езьдзілі на роварах, часам у баскетбол гулялі, але звычайна я стараўся зь ёю не выпіваць, бо тады яна ехала да мяне і пачыналася ўсё зноў: я ніяк не знаходзіў да яе шлях, яна была драўляная, і я бачыў колькі валаскоў вакол смочак, і похва яе была быццам квадратная, і лабок так выпіраў і быў такі востры, у мяне нічога не атрымлівалася, ні першы, ні другі, ні трэці раз…

і вось мінуў месяц цнатлівага жыцьця, я адчуваў сябе сьвятым, які прайшоў празь неверагодныя выпрабаваньні.

на Карла Маркса я адгуляў пяць партыяў у стрытбол і сядзеў на лаўцы, калі выпадкова яе сустрэў, і мы вырашылі схадзіць па піва, дзе я, на свае шчасьце і бяду, знайшоў вэнджаную мойву.

карціна алеем: двор на Карла Маркса, лаўка, я стаю, бо, калі мне чагосьці ня церпіцца ўжыць, я звычайна стаю, рот і рукі запэцканыя пахучым алеем і вантробамі ад мойвы, тлушч капае на фігурную плітку, на лаўцы стаяць запэцканыя мойваю бутэлькі зь півам, побач сядзіць Ліля і распавядае, прычым зь неверагодным натхненьнем, паглядаючы на мяне, што калі-небудзь у нас будуць дзеткі, я ўжо буду на той час выбітным пісьменьнікам, а яна будзе дырэктаркаю мастацкай галерэі… і мы будзем жыць у Бэрне… я ня вельмі добра яе чуў, бо быў засяроджаны на мойве і піве, я адчуваў кожнай пораю, як у целе распушчаецца алькаголь, як я насычаюся сьмярдзючаю рыбаю.

а Ліля ўсё ўмілялася і распавядала пра нашу сумесную будучыню, я часам пагаджаўся, а часам проста адрыгваў, прыкрываючы бруднымі рукамі запэцканы рот.

праз колькі часу я апынуўся ў яе пакоі, п’яны да такога стану, што не мог рухацца, а яна, асядлаўшы мяне, спрытна скакала на чэлесе, які праз такое за-

цягнутае сэкс-галаданьне, стаяў як дуб і нават ня думаў апускацца. яна ўсё скакала, а я то выплываў на паверхню рэальнасьці, то ізноў захлынаўся ў піве і парох мойвы.

зь Ліляю мы пабачыліся праз два дні, яна неахвотна глядзела мне ў вочы, і я так ніколі і не спытаў, канчаў я ўвогуле той ноччу ці не, бо калі прачнуўся, чэлес нагадваў сьцёртую да крыві сасіску. той раніцай я прачнуўся а сёмай, устаў, схадзіў пассаў у прыбіральні, гэта доўжылася, напэўна, з паўгадзіны, расчыніў уваходныя дзьверы і зьнік, зашчоўкнуўшы замок.

## айфон

Алёнка сказала, што нікуды ня выйдзе з працы, бо цёплых рэчаў з сабою не захапіла. сказала, што, калі ехала раніцай, айфон паказваў +20, было цёпла, а цяпер вось, пасьля абеду +8!

– але пачакайце! – сказала Алёнка. – я толькі што ўбачыла! айфон піша, што праз 25 хвілін на вуліцы будзе +26! вось я праз 25 хвілін і паеду дадому!

Алёнка! дура! ты працуеш адміністратарам-касірам у салёне-краме шпалераў, тваё працоўнае месца знаходзіцца побач з уваходнымі дзьвярыма! выйдзі вонкі! на вуліцы цёпла!

– не, я пайду пра 25 хвілін, я вуліцы не давяраю, тут паўночны бок!

## пластыка

страшна ўявіць, але ў Бэвэрлі Хілз зьявіўся маньяк, які палюе толькі на адмысловыя формы грудзей. ён высочвае жанчын каля клінікі пластычнай хірургіі і нападае толькі на тых, каму грудзі рабіў доктар Стывэнс.

такая вось своеасаблівасьць доктара Стывэнса, які проста вар’яцее ад сваёй працы, я б сказаў – шалее.

## самота

цырульнік Валошка – бясконца самотны чалавек на плянэце. у яго ёсьць, здавалася б, усё, чаго хочацца: прыгожае накачанае цела, высокі рост, прыгожая барада і вострыя бакенбарды, глыбокія цёмныя вочы, фрызура – цуд: на чубчык зробленая хімічная завіўка і ён падымаецца над ілбом на дзесяць сантымэтраў. у яго прыгожыя дарагія акуляры Іў Сэн Ляран, у яго кашуля пryталеная, цёмна-зялёная, з бахрамою, штаны абліпаюць ягоны азадак як мае быць. рэмень – тонкі, сплецены ў касу, залаты, жаночы. чаравікі – зайздрасьць любога мэтрасэксуала! і на дэсэрт – фірмовы мятлік: маленькія чырвоныя сунічкі на карычневым фоне.

Валошка вельмі любіць пагутарыць, калі не працуе, а калі працуе, ён не размаўляе ўвогуле, ён засяроджаны на працы.

з аднаго боку, ён выглядае шчасьлівым. зьмяніў зь дзясятак работ: сырароб, кантралёр-касір, прыватны прадпрымальнік, але сябе так і не знайшоў, вось і вырашыў у трыццаць пяць год паехаць у Акадэмію прыгажосьці вучыцца на цырульніка.

сярод лякаваных і пухнатых студэнтаў узростам 17-19 год зьявіўся дарослы накачаны мужчына.

Валошка нідзе не знаходзіў сабе сяброў, але ўсё жыцьцё адчайна шукаў сябе.

і вось мінула два гады, ён здаў іспыты і, папрацаваўшы колькі часу на самога сябе ды пера-

накіраваўшы свой прадпрымальніцкі гандлёвы вопыт у бізнэс прыгажосьці, доўга і марудна рухаўся да сваёй мары…

паступова ён пачаў больш пільна сачыць за сабою, без пазногцяў, нафарбаваных празрыстым лякам, на вуліцы не зьяўляўся, адпусьціў сабе прыгожы чубчык і завіў яго… ды навучыўся выконваць стыль-паслугі выкшталцона.

і праз колькі часу Валошка трапіў на працу сваёй мары, у вялікі дарагі салён прыгажосьці. яму там падабалася ўсё: і сваё працоўнае месца, і калектыў, нягледзячы на тое, што працавалі толькі жанчыны, якія любілі пасьля працы нажлукціцца да бяспамяцтва. Валошка спраўна прыходзіў на працу а восьмай, рыхтаваў сваё працоўнае месца…

некалькі кропель парфумы на запясьці, зачасаць назад чубчык, праверыць чысьціню інструмэнтаў, і вось ён, саракагадовы мужчына, сярод маладых дзяўчат чакае свайго зорнага часу, калі напрацуе кліенцкую базу і будзе шчасьлівы.

пазьней Валошка на працу пачаў хадзіць кожны дзень і працаваць адразу дзьве зьмены. аказалася, што дома ён толькі ночыць, прачынаецца і ідзе на працу. на пытаньне: «ты што, вар’ят?» Валошка адказаў, што яму ўсё роўна няма чаго рабіць дома, сумна яму, кіно ён не глядзіць, кнігі не чытае, жанчыны няма, дзяцей таксама, нават хатняй жывёлкі ніколі не заводзіў, і яму падабаецца прыходзіць

у салён. нават калі не яго зьмена і працоўнае месца занятае, Валошка сядзіць каля рэцэпцыі, пасопвае альбо глядзіць расейскі музычны тэлеканал і чакае...

а надоечы ён усіх зьдзівіў: падараваў букет ружаў касмэтолягу Валерыі, жанчыне далёка за шэсьцьдзесят, напампаванай ботэксам да краёў. хто яго ведае, можа быць, Валошку засталося зрабіць толькі адзін маленькі крок да свайго бязьмежнага шчасьця.

## паштоўкі

у мяне ёсьць сябра, мой Рауль Дзюк, мой пэрсанальны юрыст і сабутэльнік, чалавек, якога звычайна цягне на прыгоды і зь якім піць – гэта як разьвітвацца з жыцьцём. мы можам зь ім сустрэцца на роварах, піць піва, пачаць абмяркоўваць, як юрыдычна пісьменна абараніць назву і канцэпцыю майго літаратурнага праекта, а потым я, вяртаючыся ў маёнтак, буду ехаць пасярод багны і ўсё роўна падрапаю пэдалямі і стырном колькі машын, невядома навошта прыпаркаваных тут.

гэта зь ім я магу пачаць пісаць працяг «Страху й нянавісьці ў Ляс-Вэгасе»...

у вольны час мой сябра шмат чытае, перакладае, займаецца футболам... і любіць падарожнічаць.

вось ня так даўно Рауль сказаў, што юрыспрудэнцыя – лайно і нікуды ня дзенецца, а яму хочацца ў вялікае плаваньне... сказаў – зрабіў. спачатку пакатаўся па Эўропе, і вось ён ужо на вучэньні ў марскім каледжы, не пасьпею азірнуцца, як ён будзе плаваць па Ціхім акіяне ў атачэньні маракоў, альбатросаў і ў суправаджэньні Ктулху.

у нас зь Дзюкам ёсьць мэнтальная сувязь... мы можам ня гутарыць, ня сьпісвацца і не сазваньвацца месяцамі, а потым сустрэцца і ўсё высьветліць, і, калі ён бывае недзе, ён вядзе са мною ўнутраны і наш асабісты дыялёг праз паштоўкі.

вось ён быў у Піцеры, і празь месяц я атрымаў паштоўку зь відам на галоўную плошчу і Эрмітаж, подпіс на паштоўцы: «прывітаньне вам, шаноўныя, з маскальска-піцерскага боку! на паштоўцы: усе шчасьлівыя людзі. СПб. Р.Д.»

ня так даўно я дастаў з паштовай скрыні адразу дзьве паштоўкі.

Гент, Бэльгія: «Сябры! (звычайна ён піша адразу і мне, і майму другому мне, і маёй жанчыне, і майму сабаку.) Вось яшчэ адна паштовачка з падарожжа. Гэтае месца адметнае моцным півам і катаньнем на ровары па нашым горадзе. Расо».

Амстэрдам, Нідэрлянды: «Прывітаньне, сябры! Спэцыяльна для вас выбіраў і шукаў менавіта з гэтым відам (на паштоўцы фота кварталу чырвоных ліхтароў). Трэба адзначыць, вельмі шмат сымпатычных блядзей там можна сустрэць. Але, зразумела, я не пра тое, сумую па вас».

мой сябра рамантык, як і я... і вось я сяджу і думаю, адкуль наступная паштоўка будзе? з палубы? зь Ямайкі? са змрочнага старога порту, дзе спыняўся ў свае часы Чорная Барада?

мы зь ім дамовіліся, што, калі ён пачне сваё плаваньне, з кожнага порту, дзе спыніцца, ён будзе дасылаць паштоўку з адбіткам пацалунка мясцовай жанчыны і словамі прывітаньня.

## сьцяна

раней, калі я яшчэ ня жыў у бабуліным маёнтку, калі быў малым падшыванцам, я жыў з бацькамі ў панэльным пяціпавярховіку амаль у цэнтры Нясьвіжа. у мяне быў двухпавярховы ложак, наверсе звычайна спаў мой брат, а насупраць, каля суседняй сьцяны, жыла сястра, пакуль ня стала падлеткам.

мне падабаўся мой ложак: зьверху ён абаронены, сьпераду і ззаду таксама – сьценкі, а з правага боку – вялікая панэльная сьцяна, на якой вісіць дыван у ролі саграваьніка і гукаізалятара. зь левага боку я павесіў плед і такім чынам стварыў сабе стоадсоткавую ізаляцыю, бо ў мяне былі свае сакрэты!

па вечарох я хаваўся пад падушку і цалаваўся з драўлянаю лялькай сястры, было вусьцішна, але прыемна і цікава...

а глыбокімі начамі я слухаў суседзяў, іх ложак стаяў каля маёй сьценкі. у аднапакаёўцы жылі старыя дзед і бабка, дзед звычайна хроп і гутарыў у сьне, або клікаў кагосьці, або вуснамі выдаваў гукі аўтаматнай чаргі... празь некалькі год яго ня стала, і я слухаў бабульку, звычайна яна спала ціха, але бывала, што прачыналася пасярод ночы, бо плакала ў сьне і клікала свайго мужа... яна прачыналася, рыпела ложкам і ўключала радыё ці тэлевізар, калі не было запозна для перадач.

я доўгі час слухаў самотнае жыцьцё бабулькі.

надышоў час, калі я больш ня мог цалавацца са сваёй драўлянай лялькаю, бо старая цяжка захварэла. мне было няёмка – вось я тут свавольнічаю і здымаю з жыцьця вяршкі, а за сьценкаю цяжка кашляе чалавек.

## плакаць

я не люблю плакаць. плакаць – кепскі занятак. ніхто ня любіць гэтае справы.

я б хацеў, каб сьлёзныя пратокі зьніклі, зарасьлі ружовай скураю назаўжды, бо плакаць – гэта ня тое каб заганна, але робіць цябе безабаронным, а ў некаторых выпадках – слабым і непрыемным.

напрыклад, мой сябра плакаў, калі французы выйгралі чэмпіянат сьвету па футболе, і ён плакаў не ад шчасьця. у той вечар, седзячы ў ягонай кватэры, у фатэлі і назіраючы за гэтымі няёмкімі сьлязьмі, я ня мог зразумець: ён плача ад таго, што яго зборная прайграла, альбо таму, што паставіў дваццаць баксаў у букмэкера? мне адразу захацелася выйсьці і як мага даўжэй не званіць і ня бачыцца зь ім.

мая Люба можа заплакаць пасьля фільму альбо праз тое, што мы пасварыліся, – і гэта іншыя сьлёзы, яны празрыстыя, зразумелыя.

мой бацька – сэнтымэнтальны алькаголік, і, калі вып’е, яго прабівае на сьлёзы і прызнаньні ў каханьні… ён лезе абдымацца або сядзе там, дзе ўпадзе, і пачне плакаць. у такі час мне проста невыносна хочацца даць яму ў твар.

я плакаў аднойчы, вельмі моцна, ніколі так ня плакаў, нават на пахаваньні бабулі альбо калі памёр

мой першы сабака… за адзін год са мною адбылося столькі бедаў і столькі ўсяго я стрываў, што, калі толькі пераехаў у маёнтак, я стаў пасярод пакоя, паглядзеў на свой матрац і заплечнік, адзначыў, што гэта ўсё, што я з сабою прывёз, уцяміў нарэшце, што я зьбіраюся жыць кардынальна па-новаму. разважна ацаніў той факт, што Ліна, якая вадзіла мяне за нос, і была такой пацешнаю і прыемнаю, і ўсё лашчылася да мяне, сапраўды паводзіць сябе так з кожным, і я быў наіўным пацаном, калі павёўся на гэта і на працягу трох тыдняў кожны дзень езьдзіў да яе ў Лошыцу, маючы пры сабе толькі цыгарэты і штопар.

я падышоў да матраца, лёг на яго, схаваў твар у падушку і так заплакаў, нават ня проста заплакаў, я румзаў як апошні раз у жыцьці на сьвітаньні перад расстрэлам… я плакаў за ўсё, што са мною адбылося, крычаў, малаціў кулакамі прастору…

так доўжылася з гадзіну.

матрац і падушка былі мокрымі, я быў мокры, глытаў соплі, цёр вочы і адчуваў ня проста пустэчу і лёгкасьць, бо праліў літар вадкасьці дакладна, я адчуваў, як штосьці ў жываце шчоўкнула – і я больш ніколі не заплачу… мінула ўжо колькі год, але мне здаецца, што ў той дзень я сапраўды паплакаў за ўсё сваё жыцьцё.

## няёмкасьць

няёмка не заўжды бывае па вызначэньні. у няёмкасьці ёсьць процьма адценьняў. сёньня я распавяду пра няёмкасьць на мяжы з эратызмам, вусьцішшу і камічнасьцю.

маршрутка нумар 53, лета, 2005 год, я застаўся пасьля вучобы ў сталіцы, сьпёка, абед, еду з «Экспабэлу», дзе набываў шматлікія рэчы для новай здымнай кватэры: лямпачкі, пляфоны, ізастужку, савок для сьмецьця... чаму я паехаў у Зялёны Луг, калі зьняў кватэру на Паўднёвым Захадзе? як для немясцовага, я паехаў у вядомыя і правераныя пункты, тым болей што маршрутка ідзе проста, хоць і доўга.

я сяджу на месцы, якое глядзіць наперад, на людзей, якія сядзяць на месцах, якія глядзяць назад і бачаць, як дарога ўцякае з-пад колаў. насупраць мяне сядзіць маладая жанчына зь немаўлём, побач з жанчынаю мужчына, гадоў сарака, выглядае на прадстаўніка ўсходу, можа быць эгіпцянін, можа быць турак... і вось маршрутка жвава віхляе на паваротах і калдобінах, эгіпцянін абдымае за плечы сваю жанчыну і глядзіць у акно.

раптам дзіцё пачынае плакаць, ды так гучна і на такіх высокіх нотах – ну проста сыгналізацыя новага пакаленьня!

жанчына зь ім і так і гэтак, але беспасьпяхова... і тут яна коратка перакідваеца з мужчынам некалькімі словамі, той абураецца, але відавочна не зьбіраецца яе спыняць, і жанчына расшпільвае верхнія гузікі кашулі, дастае грудзі і пачынае карміць немаўля.

дзіцё супакойваецца. жанчына замілавана глядзіць на яго і трымае свае грудзі...

я ня ведаю, куды падзець вочы, бо тое, што перад імі паўстала, – неверагодна прыгожа і сэксуальна, калі, вядома, не глядзець на дзіця...

маршрутка імчыць і падскоквае...

і тут я заўважаю, што турак-эгіпцянін глядзіць на мяне такім жорсткім і вострым позіркам, і такі ён злосны на мяне, што я разумею: калі вось тут і цяпер не прыдумаю, куды падзець свае вочы, ён мне іх сваімі рукамі павырывае!

я пачынаю таропіцца ў вакно, але вочы самі паварочваюцца на гэтыя неверагодныя белыя дзівосы з пастэльна-ружовымі смочкамі, я разумею: тое, што мне забараняецца, прыцягвае яшчэ больш. мне няёмка, я кручуся на сваім месцы, адчуваю, як павысіўся ціск, як пачырванелі шчокі, але не магу нічога з сабою зрабіць, кожную сэкунду вочы бегаюць туды-сюды, акно-грудзі, грудзі-акно...

я разумею, што так проста мне з маршруткі ўжо ня выйсьці, бо ў эгіпцяніна зараз альбо вочы палопаюцца – так ён на мяне вытарашчыўся, – альбо сківіца трэсьне, альбо вены на шыі парвуцца, альбо ён усё-ткі мяне заб’е.

## падабенства

ехалі мы зь сябрам, ужо вясёлыя, яшчэ выпіць да іншага сябра, які жыве за ДК чыгуначнікаў. было ля восьмай вечара. па дарозе, каля манумэнтальнага паравоза, мы завіталі ў крамку, набылі піва, гарэлкі і лімонаў з цыгарэтамі і, не сьпяшаючыся, але спрачаючыся наконт стасункаў Рэмбо і Вэрлена, пускаючы колцы цыгарэтнага дыму, павольна крочылі наперад.

сябра жыве ў пяціпавярховіку, на пятым паверсе... здымае жытло разам з такімі ж, як і ён, недарэкамі, студэнтамі ня першай сьвежасьці. пяціпавярховік клясычны, падобны да процьмы такіх жа, як і ён, пяціпавярховікаў, дамафон часта не працуе, магніт на дзьвярах сарваны, сьцены пакрытыя пажаданьнямі, рэклямаю, мацюкамі і тэлефонамі, парэнчы перакошаныя, але трымацца за іх яшчэ можна. двары вакол такіх пяціпавярховікаў цалкам забруджаныя машынамі, і там, дзе павінная быць пясочніца, стаіць X5, а там, дзе можна было б пасядзець на лаўцы, сьпяць першыя алькаголікі.

усё да ўсяго падобнае, куды ні кінь вокам, куды ні прыедзь – аднолькавасьць і шэрая вусьціш панэльных дамоў і згвалтаваных двароў, суцэльнае блядзтва й нявыкрутка, пэрманэнтнае экзістэнцыяльнае памежнае становішча.

і вось тут мы з сябрам такія, пацаны ў дошку свае, кульгаючы і трымаючыся адзін за аднаго, бо надта

гэтая справа інтымная – абмяркоўваць стасункі часоў дэкадансу, завальваемся, ледзь прасоўваемся праз дамафонныя дзьверы, бо забываемся праз спрэчкі і доказы сваёй рацыі прапусьціць адзін аднаго.

падымаемся на пяты паверх і ўвальваемся ў кватэру.

званіць не абавязкова, сябра не замыкаецца, бо дзьверы, як і замок, даўно ператварыліся ў ламачча. і мы, не здымаючы абутку, з бутэлькамі піва, запаленымі цыгарэтамі і гарэлкаю ў пакеце, заходзім на кухню ды сядаем у напаўзмроку на зэдлікі, я ў ракавіне знаходжу кубкі, мыю іх і наліваю піва, а мой сябра крычыць з кухні ў пакоі: «э, ёлупні, выходзьце (гэта ён звяртаецца да ўсіх, хто жыве з нашым сябрам, але маецца на ўвазе, што прыйдзе толькі сябра)! алькаголікі і гамасэкі, бухло прыехала!»

сьвяты божа, гэта трэба было бачыць! на кухню заскоквае мужчына гадоў пяцідзесяці зь вялікай драўлянай вешалкаю і, ня гледзячы, пачынае малаціць паветра і крычыць: «я выклікаў міліцыю! у мяне нічога няма! ідзіце адсюль! я больш ня п’ю!»

мы за сталом як сядзелі, так і засталіся... хто гэта?! дзе мы?!

сэкунды... і мой сябра, не разважаючы, проста кінуўся праз мужчыну, закрываючы твар рукамі, да ўваходных дзьвярэй, а я за ім...

і ўжо на вуліцы, шырока расплюшчыўшы вочы, мы заўважылі, што пераблыталі дамы, такія падобныя, шэрыя і зассаныя, у аднолькавых раёнах, такія ж шэрыя і зруйнаваныя, як і любы спальны, панэльны (гучыць як пра прастытутку) раён.

мой сябра мне: «ты ўяўляеш, як спужаўся той мужчык? а хуля ён не замыкаецца?!»

## дзядзька

гісторыя дзейсьніцца ня толькі побач з намі, часам мы граем галоўную ролю. вось, напрыклад, узяць маё дзяцінства і майго дзядзьку – неверагодны чалавек, таленавіты ў процьме галінаў: малюе, робіць тату, выразае па дрэве, праграміст (робіць сайты), пісьменьнік (піша апавяданьні, выдаваўся ў зборніку ў Літве). ён старэйшы за мяне на шэсьць год, і ў яго ёсьць пэрсанальны д'ябал – ён сядзеў восем разоў і трапляў у наркатычную пастку.

калі мне было шэсьць, дзядзька атрымаў першы тэрмін у калёніі для падлеткаў, потым ён зь пераменным посьпехам то выходзіў, то ізноў трапляў за краты, «злодзей у законе», аўтарытэт зь дзяцінства, «макрухаю» ніколі не займаўся, толькі крадзяжы і развод... на чацьвертай «ходцы» ён быў ужо «смотрящим» і кіраваў. у яго былі свае кухары, свая ахова, шасьцёркі, петухі і паханы, мабільны, тэлевізар, інтэрнэт... ён ня быў моцным і здаровым, ён, малады чалавек невысокага росту, худы, зь дзевяцьцю клясамі вячэрняй школы, быў галоўным па любых пытаньнях: кагосьці пракансультаваць па турэмным законе, кагосьці пакараць, камусьці даць адабранае, падзяліць «абшчак» і г. д.

мы зь ім добра сябравалі, ён высылаў поштаю мне фотаздымкі, дзе ён у сваёй камэры ў атачэньні бамбізаў, і подпіс на фотцы – «мае карашы».

калі дзядзька быў на волі, ён мяне вучыў адмыкаць замкі другой гітарнай струной, прыносіў падарункі з шапікаў: магічны куфэрачак «Мілкі Ўэй», адразу тры пакункі па сто, цэлыя скрынкі жуек.

мой дзядзька пасьпеў атрымаць некалькі адукацый у турме, двойчы сам сябе абараняў у судзе, а на апошнім тэрміне нават трапіў пад амністыю, але ў яго былі няскончаныя справы на зоне, таму ён, каб застацца ў турме на колькі год і замацаваць сваё становішча, парэзаў заточкаю галоўнага турэмнага наглядчыка... і выйшаў не праз два гады, але праз шэсьць. уладкаваўся на завод «Атлант» і, пакуль быў пад двухгадовым наглядам, ажаніўся, зрабіў двух сыноў і хрысьціянскі сайт, у якім пісаў пра тое, як варта жыць зь вераю і Богам, даваў кансультацыі і парады, пісаў артыкулы пра Хрыста і вышэйшы пачатак Жыцьця.

зарабіў колькі грошай, па кнігах вывучыў праграмаваньне і адкрыў сваю фірму.

вось некалькі карункавых фразаў майго дзядзькі:

«паслухай мяне, плямяш. калі хочаш запіліць дзіцёнка, трэба ябацца так, каб дым стаяў. я вось з адным яйцом (пра гэта распавяду пазьней) дваіх сыноў забацаў. ведаў бы ты, колькі на гэта ў мяне пайшло моцы!»

«уяўляеш, як лёс выпаў?! забіў я на сваю хрысьціянскую сэкту, ня быць мне пастырам... адкрыў

фірму, і ведаеш, дзе мой офіс? празь сьценку ад раённай апоркі! мянты мяне перасьледуюць!»

пра свайго дзядзьку я буду яшчэ шмат распавядаць. у яго, напрыклад на лабку ёсьць тату: сьнікерс. была такая рэкляма раней: «не тармазі – сьнікерсьні», вось ён і набіў сабе назву шакалядкі над чэлесам. і пра яго сяброў я не забудуся: пра Генку (піша раманы пра зону), Батона (чалавек, які быў асуджаны на пятнаццаць год за забойства, а праз восем выпушчаны, бо невінаваты; дзяржава афіцыйна выбачылася перад ім у выглядзе падпісанай «зьверху» паперкі), Вітальку (сярэдні сын аднаго беларускага аўтарытэта).

## вера

упершыню мне не паверылі, калі нашая вялікая кампанія хлапчукоў, 13-15 год, на могілках камбайнаў падрывала карбід у плястыкавых бутэльках з вадой. адзін са старэйшых робіць трэцюю зацяжку і перадае цыгарэту па коле наступнаму, выдыхае і кажа:

– пацаны, а вы ведаеце, што ва ўсіх, хто дрочыць, далоні зарастаюць поўсьцю?

усе як адзін паглядзелі на далоні, акрамя мяне, я на той час нават такога слова ня ведаў, і ўсе пачалі сьмяяцца адзін з аднаго і папракаць мяне ў тым, што я гэты падкол ужо ведаю, але я сапраўды на той час яшчэ не займаўся такімі справамі, таму і не глядзеў на свае далоні.

другім разам мне не паверылі мае сябры і аднаклясьнікі, калі я ў дзявятай клясе на адной хатняй п’янцы пераспаў са старшаклясьніцай. на мой вялікі жаль, нікога побач не было, ніхто па-над намі сьвечкі не трымаў і ніхто ня мог пацьвердзіць. да дзяўчыны я, вядома, не зьвяртаўся, бачыў яе яшчэ колькі разоў у агульных кампаніях, але яна рабіла выгляд, што мяне ня ведае, а потым зьехала ў вялікі горад вучыцца.

трэцім разам мне было больш за ўсё крыўдна, бо тыя ж самыя сябры, калі я ім выхваляўся і паказваў першы ў жыцьці, нечаканы – і таму ўдвая

прыемны водгук на свой першы раман ад сур’ёзнага і знакамітага літаратурнага крытыка, яны сказалі наступнае:

– да... па ходу ў гэтым Менску трэба немалыя грошы заплаціць, каб такое напісалі! а-ха-ха-ха!

## фота

сваю бабулю я кепска ведаў. як і ўсе падлеткі, лічыў яе нуднай старою жанчынаю, і, шчыра кажучы, калі яна здымала хустку і расчэсвала свае даўжэзныя, парадзелыя, сівыя валасы, я яе баяўся, бо яна рабілася падобнаю да вядзьмаркі.

звычайна так і бывае: калі чалавека больш няма, ты пачынаеш цікавіцца ягоным жыцьцём. я жыву ў яе доме ўжо трэці год, бацькі даўно кінулі спробы паставіць мяне на правільны шлях: вучоба, праца, сям'я. я для іх – галоўнае расчараваньне, але добра, што малодшы брат і сястра не такія. маім бацькам кампэнсацыя. і вось, калі ад мяне ўсе адчапіліся, аднаклясьнікі забыліся ня толькі як мяне завуць, але сумняюцца, ці быў я ўвогуле ў іхняй клясе, я пераехаў, ізаляваўся, наўмысна адмовіўся ад тэхнікі ды іншага і сёньня адважыўся перабраць старую шафу і стары куфар.

шафа мне прынесла адныя расчараваньні: замест кажухоў ды іншай вопраткі там жыло ці не з тысячу сотняў сямействаў молі.

куфар аказаўся больш карысным: паверх сукенак, хустак і россыпу нататнікаў ды бранзалетак ляжала фота, на ім – выява мужчыны, каля трыццаці год, прыгожага, распранутага па пояс мужчыны, які стаяў пасярод поля, усьміхаўся і ўвесь проста пераліваўся сонечным цяплом, натрэнаваным спартыўным

целам і белазубаю ўсьмешкаю. я ня ведаў, на каго гляджу, пакуль не перавярнуў здымак: Вася, 1949. гэта ж мой дзед! божухна! мой дзед, які так рана памёр!

з фота на мяне глядзеў відавочна пасьпяховы мужчына. я паспрабаваў уявіць сваю бабулю такой жа маладой жанчынаю, але не атрымалася.

увогуле, калі мая бабуля памерла, па суседніх вёсках перамаўляліся, што яна варажыла і загаворвала. давялося частку даху разьбіраць, калі труна была ў доме. а потым сваякі, пасьля пахаваньня і цяжкога пахмельля, казалі, што ўсю ноч чэрці сядзелі на іхніх ложках ды ў вокны зазіралі белыя цені людзей. такое павінна было мяне спужаць, і сапраўды – першым часам пужала. я занавешваў люстэркі, вокны, шмат піў і стараўся, каб увесь час са мною хтосьці быў у гэтым доме. а потым, адным цёплым днём, Люба прымусіла мяне прыбрацца, і ня проста прыбрацца, але дасканала. мы пачалі раніцай і скончылі глыбокай ноччу, і дом адразу перамяніўся, пакоі набылі іншы пах і выгляд, і я адчуў, што памяць пра маю бабулю цяпер засталася толькі ў старой шафе і старым куфры, на якія я глядзеў цягам трох год, пакуль не адважыўся адчыніць.

вынік такі:

шафа паламаная і паколатая на дровы, куфар стаіць у куце і чакае, у ягоных нетрах схавана проць-

ма гісторый, і я пакуль адважыўся на тое, што было на паверхні, – фотаздымак павесіў на сьценку... знайду фота маладой бабулі – павешу побач, ёй спадабаецца, яна ўсё жыцьцё кахала свайго Васю.

## здрада

у маім жыцьці былі тры здрады.

мне здрадзіў мой сябра, калі мы стаялі на рагу школы, курылі і да нас падышлі бамбізы-старшаклясьнікі, калгасьнікі, тупыя быкі. мы іх заўважылі яшчэ здалёк, яны нешта крычалі нам, рагаталі… мой сябра даў такога драпака, што можна было б нарматывы па фізкультуры здаваць за ўвесь навучальны год. я застаўся сам-насам з трыма тупагаловымі. у мяне адабралі цыгарэты, але пакінулі грошы і сказалі, што курыць шкодна для падлеткаў, а грошы не забіраем, бо ня зьбег.

мне здрадзіў мой аднагрупнік, калі мы ішлі пехатою па начным Менску ў бок здымнай кватэры, грошай не было, ісьці – каля трынаццаці прыпынкаў, мы настроіліся на доўгі начны шпацыр, ліхтары яшчэ сьвяцілі па праспэкце, месяц быў вялікі. мы з аднагрупнікам карысталі наш стары прыём, спынялі машыны і прасілі кіроўцаў падвезьці бедных паэтаў. праз раз такое спрацоўвала, і мы, радасныя, ехалі дамоў, чытаючы нашаму герою-кіроўцу вершы Букоўскі, Бродзкага, Ахматавай, нават свае… але той ноччу мы спынілі машыну, якая адмовілася бясплатна нас везьці, і мой аднагрупнік, калі машына ўжо ад’яжджала ад ходніка, гучна прамовіў: «уёбак! цяжка па дарозе падкінуць!»

машына завіскатала тармазамі, адчыніліся дзьверы з боку кіроўцы, адтуль зь бітаю выскачыў мужык і раве: «што ты сказаў?! неданосак!»

мой аднагрупнік кінуў свой заплечнік і пабег куды вочы глядзяць, а я застаўся, падняў заплечнік, атрымаў двойчы па руках бітаю, бо засланяў твар, і дадому дайшоў самотны і расчараваны. у костцы левай рукі потым выявілася трэшчына.

быў выпадак, калі я сам здрадзіў сваёй блізкай сяброўцы.

вечар, баскетбольнага мячыка ўжо не відаць, на спартовай пляцоўцы на Карла Маркса толькі адзін ліхтар сьвеціць акурат на стол для пінг-понга, мы сядзім на стале, я, яна і два сябры, адпачываем пасьля стрытболу. раптам зь цемры выплылі мясцовыя панкі, пяць бастардаў, сьмярдзючых і п’яных, галоўны зь іх выйшаў наперад, на ім была чорная байка «Сектор газа». сябры хутка здаліся, аддалі колькі было грошаў і ім дазволілі сысьці. той, што ў байцы, не зьбіраўся так проста адпускаць мяне і маю сяброўку. ён зьняў з штаноў вайсковы рэмень, склаў яго і пачаў гучна ляскаць, пакручваючы бляхаю з савецкай зоркаю.

я здаўся, я здрадзіў, гэты тупы мудазвон на маіх вачах цалаваў яе, а я ня мог паварушыцца, я глядзеў то на яе вусны, то на яго гнілыя зубы, то на вайсковы рэмень.

зь мяне нічога матар’яльнага не ўзялі. мы зь сяброўкай засталіся на стале для пінг-понга, маўчалі, самотныя, і я гадаў, пра што яна зараз думае.

і калі ўжо я раскрыў галоўныя здрады свайго жыцьця, варта было б спыніцца на здрадзе самому сабе.

гэта здарылася, калі я вучыўся ў дзясятай клясе. мы вялікай кампаніяй паехалі да аднаклясьніка ў суседнюю вёску, бо той выхваляўся вялікім домам, адсутнасьцю бацькоў цягам трох дзён і ўсёдазволенасьцю.

усё было як мае быць: рэчка, вогнішча, алькаголь і гітара, і вось мы вырашылі прагуляцца па ваколіцах. і трэба было мне чамусьці, калі мы напаткалі мясцовых, пачаць жартаваць на ангельскай мове… мясцовыя палічылі, што я іх абражаю, хоць я ўсяго толькі клікаў нашых mother fucker рухацца далей, бо гарэлка стыне. нас вельмі хутка расклалі як фігуры ў боўлінгу, вакол мяне лёталі целы маіх сяброў, а я стаяў насупраць самага здаровага, і той манатонна біў мяне кулаком у твар. але я стаяў і шэптам прасіў яго больш мяне ня біць, і прасіў, як апошні шчанюк у гэтым сьвеце. і мясцовы здаўся, ня ведаю, стаміўся ён ці проста пашкадаваў, сказаў: «усё, мы вас прабачаем!» і адпусьціў.

і я заўважыў, што нашых дзяўчат гэтыя вясковыя джэнтэльмэны не чапалі, і тыя стаялі збоку і крычалі, і плакалі, і прасілі за нас, і адна зь іх была маёю дзяўчынаю, і хвалявалася за мяне, і бачыла, і чула ўсё. у маім целе імгненна вырасла пустэча і жах таго, як нізка я магу ўпасьці, калі перад вачыма кулак.

## паштоўка

гэта было такім чынам. я вяртаюся ў прытомнасьць, галава заліта алькаголем да немагчымага стану, я бачу перад сабою Рауля, ён сядзіць, пасьміхаецца, апрануты ў цёмны кабат і карычневы, з мудрагелістымі каракулямі, мятлік, я кручу галавою, адзначаю, што мы зь ім сядзім на летняй тэрасе мясцовага начнога клюба, з правага боку сьцяна выбухае басамі... я агледаю сябе, выяўляю, што апрануты ў шорты і цішотку, на нагах тэпці, а побач сядзіць мой сабака.... п’ем гарэлку і запіваем яе півам... я нават не запытваюся, што мы тут робім, – зразумела што.

Рауль сёньня парадаваў новай паштоўкаю:

«Хало, сябры! Пісаць з Калінінграда, не магу не адчуваць сябе дзейсьці. Таму выяжджаю адмыслова, каб папісаць вам. За тры тыдні я зразумеў, што на мора можна глядзець бясконца. Яно робіцца быццам звыклым, але ніколі не надакучвае. На наступным тыдні абяцаюць шторм. Разлічваю на ахуенныя фоткі».

афіцыянтка ў клюбе занадта часта да нас падыходзіць і ўсьміхаецца па чарзе то майму сабаку, то Раулю, то мне, відавочна – мы тут нелегалы.

яшчэ тры гадзіны таму мы зь сябрам выправіліся па алькаголь у «начнік», але там яго ўжо не прадавалі...

## зубы

мая псыхіка расхістаная да памежнага стану, вось-вось і я перакрочу празь мяжу, якая падзяляе рэальнасьць і шызафрэнію. я баюся ноччу спаць безь сьвятла. як так здарылася і калі, не магу прыгадаць, здаецца, я зь дзяцінства баюся цемры.

калі я быў зусім малым, адзін з маіх першых успамінаў – мой дзядзька жартуе зь мяне: чую, кліча ён мяне ў пакой, забягаю, а там нікога, і сьвятло толькі ад таршэра, і раптам шторы ўзьлятаюць да столі, адчыняючы чорныя вокны. я крычу і кідаюся ў іншы пакой, а там мой дзядзька сьмяецца і абдымае мяне, і я бачу ў ягоных руках лёску... толькі значна пазьней я сьцяміў, што мой дзядзька ў падлеткавым узросьце любіў файна пажартаваць з малога пляменьніка.

аднойчы ноччу на мяне зваліўся гліняны крыж, які вісеў над ложкам.

я да гэтага часу сплю з запаленым сьвятлом і ў прыбіральню выпраўляюся бегам. і таму будзе лёгка ўявіць маю роспач, калі я толькі пераехаў у маёнтак і завёў выпадковае сяброўства з аднагрупніцай, зь якой ва ўнівэрсытэце ніводнага разу нават ня гутарыў, а тут сустрэліся ў горадзе, разгаварыліся, выпілі піва і паехалі да мяне. яна пагадзілася на эка-ўікэнд...

тры гадзіны ночы, сьвятло, вядома, я выключыў, бо яна спачатку саромелася распранацца, а потым я і сам пасьля сэксу забыўся на гэтую, вельмі важную для мяне, акалічнасьць.

але... тры гадзіны ночы, я расплюшчваю вочы, цемра, цені, сьвятло ад месяца... я чую скрыгат і рыпеньне, я ўпершыню чую такі вусьцішны скрыгат і такое жахлівае рыпеньне ў пакоі, на скронях праступае халодны пот, я паварочваю галаву да дзяўчыны, а яна ціхамірна сьпіць, і толькі ніжняя сківіца ходзіць сюды-туды, і зубы труцца адзін аб аднаго, і чуваць нейкае сатанінскае рыпеньне, быццам зараз зь яе нутра высунецца дэман.

я, лежачы на ложку, падскокнуў амаль да столі, зваліўся на падлогу і сваім грукатам пабудзіў соннага дэмана...

раніцай за кубкам кавы аднагрупніца распавяла мне, што забылася папярэдзіць: яна рыпіць зубамі, калі сьпіць. і салодка так пасьміхнулася.

яе ўікэнд скончыўся датэрмінова, праз непрыязныя паводзіны гаспадара маёнтка.

## браты

трое па-свойму цікавых і незвычайных мужчын, будзем зваць іх браты Галівуд:

старэйшы ўжо больш за дзесяць год у міжнародным росшуку: забойства, гвалт, рэкет.

сярэдні... пра яго крыху пазьней.

малодшы адсядзеў дзесяць год за зьбіцьцё, якое прывяло да сьмерці ахвяры праз два месяцы ў бальніцы. ён сеў у дзевятнаццаць і выйшаў, калі яму споўнілася дваццаць дзевяць. паводле судовай пастановы яго дэпартавалі з краіны. цяпер ён жыве ў Літве.

бацька братоў Галівуд раней «крышаваў» палову Менску і вобласьць Ждановічаў, Заслаўя і Маладэчна. сядзіць у турме з дзевяноста восьмага году.

сярэдні брат – Аляксандар, вялікі сябра майго дзядзькі, яны разам у двары корпаліся, разам пачалі красьці, піць, разам біліся ў раённых бойках, разам сядзелі на наркотыках, разам раскумарваліся і разам маталі «срокі». Аляксандар – адналюб, ён закаханы толькі ў адну жанчыну, зь якой пазнаёміўся яшчэ ў бальніцы, калі дзядзьку майго прывезьлі па «хуткай» з разварочанаю рукою, бо ягоны сябра, калі яны «падымалі хату», уставіўшы лом у дзьвярны праём, сарваўся і працяў акурат па руцэ дзядзьку, костка вялікага пальца глядзела вонкі. па выніку: дзьве апэрацыі і тры стрыжні ў руцэ – два месяцы гіпс. Аляксандар пабачыў Юлю ў прыёмным пакоі. у іх завязаўся бурны раман.

Аляксандра можна апісаць так: тонкія італьянскія вусы, прыемная зьнешнасьць, прыгожыя вочы, атлетычнае цела, сьпіна ў прышчах і канцэнтраваны пах адэкалёну. неяк, калі я быў малым, дзядзька зь сябрам і ягонай Юляй месяц жылі ў нас, хаваліся… я падышоў да мамы, якая ў ванным пакоі запіхвала ў старую савецкую машынку прасьціны, спрэс у плямках, і зарагатаў, пачаў тыкаць на плямкі: «дзядзін сябра па начох пісаецца! ха-ха-ха!» але мама на мяне як крыкне, каб я правальваў адсюль… гэта я цяпер разумею, што за ноч Аляксандар па тры-чатыры разы трахаўся зь Юляю і спускаў усё ў ложак.

каханьне ў дзядзькавага сябра было вялікім, неабсяжным. часам яны сварыліся, і нават моцна, даходзіла да таго, што ён неяк у машыне ўтыкнуў у калена каханай паляўнічы нож… альбо аднойчы зьбіў яе так, што яна трапіла ў рэанімацыю.

Аляксандар быў у рэспубліканскім росшуку за забойства аднаго буйнога прадпрымальніка… шукалі яго ўжо тры гады, ён памяняў зьнешнасьць, наўмысна патаўсьцеў, адпусьціў валасы і бараду, пачаў насіць акуляры… але гэта не дапамагло, аднойчы, калі ён наведаў сябра, які сьвяткаваў дзень нараджэньня, хтосьці з гасьцей яго здаў.

пра гэта пісалі газэты. бралі Аляксандра спэцатрадам, у пяціпавярховіку ў раёне вуліцы Караля ў Менску. калі вынесьлі ўваходныя дзьверы, той сядзеў на кухні і, вядома, не чакаў такога павароту

падзеяў, але пасьпеў застрэліць двух амапаўцаў і трох моцна пакалечыць першым, што трапілася пад руку, – відэльцам, цэліў у твар.

Аляксандра асудзілі на пажыцьцёвае. Юля горка плакала ў судзе.

– ён ужо адсядзеў дзесяць год і трапіў пад амністыю, яму засталося сядзець пятнаццаць. а я шэсьць год таму выйшла за яго замуж, у турме. чакаю… калі ён вызваліцца, яму будзе пяцьдзясят, – распавядае мне Юля, пакуль мы ідзем па вуліцы. я прыехаў у Менск па справах, сустрэў яе – ледзь пазнаў.

## лёс

мне некалькі разоў вельмі шчасьціла, выпадаў жыцьцёвы джэк-пот.

сядзелі мы зь сябрам увечары, было сумна, пілі піва, і тут у майго добрага сабутэльніка зьяўляецца ідэя кінуць усё і паехаць у Брэст, у які бар ці клюб. я яму кажу, што немаведама куды зараз дакладна не паеду.

мой сябра паехаў, але не даехаў, трапіў у неверагодную аварыю з удзелам фуры, ягоную машыну раскурочыла ўшчэнт, некранутым засталося толькі месца кіроўцы. калі б я зь ім паехаў, ад мяне і кавалка жывога не засталося б!

раней, калі дабіраўся да сталіцы, я дамаўляўся аб сустрэчы «пад лесьвіцай на Кастрычніцкай». так я і ў той дзень дамовіўся а шостай на сустрэчу зь сябрам, каб забраць у яго кнігі ды пару фільмаў. а пятай я яму пазваніў і сказаў, што не атрымліваецца сустрэцца, няхай ня едзе. і такім чынам выратаваў сабе і яму жыцьцё. бо літаральна праз гадзіну адбыўся тэракт.

2006, плошча, намёты, я прыходжу па вечарох да сябра, мітынг, гарбата ў тэрмасе, цыгарэты, рамантыка. я ўсё ніяк не адважваюся застацца ночыць.

на чацьвёрты дзень я ўжо падрыхтаваўся, прынёс з сабою плед, але мне патэлефанавала сяброўка і паклікала ў госьці на гарэлку і смажаныя пяльмені, а рана раніцаю я атрымаў смс ад сябра: «нас забралі».

## калекцыянэр

Леанід жыве ў Менску ўжо трэці год, спачатку ён лічыў, што жыць у сталіцы яму ня трэба, бо ў сваіх «Баранках» ён прыкметны малады чалавек. ён мае машыну – белы мэрсэдэс, працу – трымае шапік. але бяда – у ягоным горадзе скончыліся жанчыны.

літаральна ў горадзе ніхто не заканчваўся дарэшты, проста адной раніцай Леанід выявіў, што можа назваць па імёнах і даць кароткую характарыстыку кожнай жанчыне ў горадзе ва ўзросьце ад 18 да 35. ён скарыстаўся ўсімі рэсурсамі і цяпер прагнуў новага. а з жаданьнямі Леанід ніколі не цягнуў. за месяц перапрадаў свой шапік, сабраў валізу, кінуў яе ў машыну і паехаў у вялікі горад.

спачатку яму было складана, але, крыху павалэндаўшыся, ён зьняў больш-менш нармалёвую кватэру і аднавіў ліцэнзію прыватнага гандляра.

мінула тры месяцы, а Леанід ужо зрабіўся сталым наведнікам трох начных клюбаў. памяняў свой мэрсэдэс на іншы, чорны і маладзейшы, і цяпер, перад тым як ехаць у клюб, ён спачатку чыстай анучкай праціраў машыну, пыласосіў яе і да бляску націраў палірольлю панэль у салёне. потым прымаў душ, галіўся, чысьціў вушы ватнымі палачкамі, чысьціў зубы шчоткаю і ніткаю, правяраў бровы, каб не было асобных даўгіх валаскоў, укладваў валасы, дэзадарантам пшыкаў на лабок і падпахамі, апранаў белыя

майткі-баксёры, белую кашулю, ролексы – падробку, залаты ланцужок з залатым крыжыкам пад кашулю, на рукавы чапляў шпонкі, паверх кашулі – чорны тонкі гальштук, апранаў чорныя штаны і чорныя шкарпэткі, чорныя лякаваныя чаравікі і, гледзячы па надвор'і, – альбо пінжак, альбо чорны кабат. браў з сабою колькі грошай, акурат сабе на ваду і новай знаёмай на тры кактэйлі, сядаў за стырно і ехаў у пошуках новага цела.

звычайна Леанід паркаваўся як мага бліжэй да ўваходу, каб хутка пад'ехаць да дзяўчыны, якая пагадзілася скіравацца ў бок яго кватэры.

так Леанід кожны вечар у чацьвер, пятніцу і суботу наведваў клюбы. так ён калекцыянаваў новых жанчын.

звычайна ён прывозіў дадому захмялелую сяброўку, рабіў зь ёй усё, што яна дазваляла і ня толькі, фатаграфаваў яе аголеную, пакуль тая спала. потым фота захоўваў на кампутары ў адмысловай тэчцы, фота называў прыкладна такім чынам: «Ліна, 20, грудзі так сабе, гучна стогне, ня смокча, сэкс – добрая 4».

у яго такіх фотакартак ужо сотні, тысячы, яшчэ колькі месяцаў – і давядзецца пераяжджаць у новы горад, шукаць новыя знаёмствы, бо нават Менск мае свае межы, умоўнасьці і абмежаванасьці.

**вада**

памыцца без вады магчыма. у Афрыцы мыюцца мачою вярблюда, нанайцы мыюцца сваім потам, пакуль танчаць каля вогнішча ў кажухах, а потым прамоклыя кажухі скідваюць і апранаюць сухое адзеньне. ёсьць спосаб ачысьціць скуру пры дапамозе гліны... гэта ўсё прыходзіла мне да галавы, калі я назіраў, як з майго крана ліецца кіпень і больш нічога. але вярблюда ў мяне няма, танчыць у кажуху – ніякага жаданьня, ну і, зразумела, я не настроены на тое, каб у двары шукаць гліну, таму я проста паехаў у краму і набыў дзьве вялізарныя бутлі вады.

і па дарозе ўзгадаў, што мачою ня толькі спрабуюць лячыцца. Напрыклад, кашэчыя ссакі эгіпецкія жанчыны наносілі на валасы і так сядзелі пад сонцам, асьвятляліся.

## рукі

вось калі паглядзець звонку на мае рукі, на дадзены момант нельга назваць іх прыўкраснымі, накачанымі альбо, там, прываблівымі. у свой час гэтыя рукі шмат каго абдымалі і з процьмаю рукаліся, пісалі ў сшытках, мылі посуд і капалі градкі. раней Любе падабалася кранацца маіх рук падчас сэксу. колькі год таму я рабіў фотасэсію – «мае рукі на грудзях». на мой вялікі жаль, я заўважыў, што далоні і пальцы выглядаюць як разбухлыя вараныя сардэлькі, і гэта вельмі псуе выгляд жаночых грудзей. хоць і кажуць усе, што ў мяне прыгожыя пазногці, якія мне дасталіся ад маці, я зразумеў, што эстэтыкай тут і ня пахне.

калі я раней займаўся спортам і меў другі юнацкі разрад па трохбор'і, дык заўважаў, што дзяўчаты, ідучы са мною пад руку, мацалі біцэпс і часта адгукаліся пра моц маіх рук, і гэта цешыла маё самалюбства.

былі выпадкі, калі ў дваровых бойках мне ламалі пальцы на руках, і аднойчы так вывернулі ўказальны на левай, што ён глядзеў на мяне падушачкаю замест пазногця. я прыйшоў дамоў і пад струменем халоднай вады павярнуў палец на месца, а потым у бальніцы мне наклалі гіпс. цяпер палец зросься, але ўсё роўна апошняя фаланга з пазногцем глядзіць крыху ўбок.

увогуле маёй левай руцэ ня так шчасьціла, як правай. яна ўся спрэс у шнарах, і шнарах глыбокіх, зробленых вялікім хлебным нажом, лязо якога хвалістае, амаль як піла.

што тычыцца правай рукі, то яна мой абаронца. процьму разоў яна блякавала ўдары, двойчы мела трэшчыны пад самымі косткамі тыльнага боку далоні.

мая правая таксама першаю ўдзельнічае ў сэксуальных прэлюдыях ня толькі калі ў ложку я з жанчынаю, але і ў моманты самоты.

## браты 2

малодшы з братоў Галівуд быў самым адэкватным хлопцам, мы зь ім аднаго ўзросту, і калі ён упершыню зьявіўся ў нашай кватэры і назваўся Лёнькаю, яму было, як і мне, адзінаццаць.

ці варта казаць, як шчыльна мы пасябравалі?! абодва вісусы, на якіх поўсьць гарэла, лёталі ў двары, біліся зь мясцовымі, гралі ў «футбік» і «ножыкі», і самым вялікім сьвятам для нас было, калі мая маці дазваляла Лёньку ночыць у маім пакоі.

уявіце: ноч, мы пад коўдрай, сядзім, сакочам і распавядаем адзін аднаму сакрэты: «я магу пёрнуць як аўтамат!», «а я магу пердануць як бомба», «я неяк зь дзеўкаю цалаваўся», «а я бачыў сапраўдныя грудзі», «а я бачыў, як мае бацькі трахаліся», «а я магу харкаць саплямі, глядзі!» а я, а я... рагаталі паўночы ды так шалелі, што бацькам даводзілася нас разводзіць па розных пакоях.

наша яскравае сяброўства доўжылася два гады, пакуль Лёньку да нас прывозіла ягоная маці, якая сябравала з маёю, а потым, калі старэйшага брата Галівуд абвясьцілі ў міжнародны вышук і родная маці сама ўжо ня ведала, куды ён падзеўся і дзе хаваецца, Лёньку адвезьлі ў іншы горад, каб парваць усю сувязь з былымі знаёмымі і сябрамі ды паспрабаваць жыць наноў, можа, тады старэйшы сын дашле якую вестачку. тым болей на новым месцы можна было прыдумаць новае жыцьцё, бо Лёнька застаўся адзіным з братоў, які мог вырасьці ў добрага хлопца і цудоўнага мужчыну.

я сумаваў па ім, але, як гэта часта бывае ў трынаццаць, хутка на яго забыўся.

калі мне было дзевятнаццаць, я даведаўся, што Лёнька загрымеў у турму, і было гэта так: увечары ішоў ён са сваёю дзяўчынаю дамоў, дакладней праважаў яе дадому, у незнаёмым раёне на іх напалі двое мужчын. Лёньку пачалі біць, дзяўчыну скруцілі, пагражалі гвалтам і сьмерцю. Лёнька, доўга ня думаючы, раскрыў свой нож-матылёк і – аднаму ў печань, другому ў нагу.

адзін мужчына, кульгаючы, зьбег, другі памёр у бальніцы. Лёньку прывезьлі ў міліцыю, справа была зразумелаю, абарона... але калі Лёньку «прабілі» па базе дадзеных, высьветлілі, што ягоны бацька хрэн ведае колькі гадоў матае свой тэрмін, сярэдні брат сядзіць на пажыцьцёвым, а старэйшы ў міжнародным вышуку.

Лёньку вельмі моцна, і тут я не перабольшваю, вельмі моцна зьбілі – і той падпісаў прызнаньне, што наўмысна забіў, што вінаваты і г. д.

Лёньку далі дзесяць год.

на зоне ён адразу трапіў пад апеку «злодзеяў у законе», і калі выйшаў на волю, яго немагчыма было пазнаць, бо гэта ўжо быў ня Лёнька Галівуд, гэта быў монстар, драпежнік, д’ябал.

Лёньку не далі доўга пажыць у Беларусі, яго дэпартавалі, і я тады неяк уздыхнуў з палёгкай, бо баяўся, што ён можа ўспомніць пра сяброўства ў дзяцінстве і завітаць да мяне ў госьці.

## зьмірэньне

аднойчы дамовіўся я на сустрэчу ў Менску, каля кінатэатра «Піянэр». месца пазнавальнае, маляўнічае, можна зазірнуць у дворыкі, дзе жылі і жывуць пісьменьнікі, альбо падзівіцца на будынкі-каробкі насупраць старога кінатэатра і тэатра лялек. мая сяброўка спазьнялася, і я, каб нечым сябе заняць, пачаў разглядаць мінакоў: вось прабег шалёны замежнік, лапоча нешта, адзін кед парваны, джынсы – старога пакрою – клёш, сам вачыма бегае, не падобна, каб ён надта файна бавіў час у сталіцы. вось прайшла знаёмая, павіталася, усьміхнулася. прыемныя старыя пракрочылі пад ручку. дзеці шумнаю гурбою прабеглі, пэўна ў тэатар.

у шэсьць гадзін роўна дзьверы пад’езда нумар 2 у доме прэзыдэнта адчыняюцца, і адтуль, як пасьля завадзкога гудка, пачынаюць высыпацца людзі, як макароны з запакоўкі. і зусім тыя людзі не падобныя да людзей, так, істоты, істоты бязь якасьцяў і ўласьцівасьцяў, быццам толькі што быў арганізаваны паказ гарнітураў і паліто з ГУМу. мужчыны ішлі адзін за адным альбо парамі і гутарылі, усе былі шэрымі, панурымі, пасівелымі, аднолькава апранутымі ў пінжакі з таннай тканіны, аднолькава несьлі ў левай руцэ савецкі дыплямацік або якую чорную і больш сучасную торбу. усе яны аднолькава ў нейкім маршы махалі рукамі і крочылі.

сярод гэтай масы целаў я не заўважыў ніводнага радаснага твару, ніводнага разумнага твару, толькі адбіткі безнадзейнасьці, скрухі, нявыкруткі. сярод мужчынскага асяродзьдзя траплялiся жанчыны, з выгляду вахцёркі-прыбіральніцы, у адзеньні, якое быццам завезьлі з шасьцідзясятых, з апошняга зьезду вккпкпссрбрф, распрануўшы там жанчын-стаханавак зь перадавіцы. і з гэтага натоўпу выдзяляліся тры хлопцы, маладыя, нязграбныя, з дурнымі фрызурамі вожыкам і доўгімі чубамі, яны не сьмяяліся, яны лыбіліся, і гэта надавала іхным тварам выраз вельмі блізкі на адпаведны дыягназ. хлопцы відавочна нават ня марылі ў сваіх вёсках і шабанах, што ім давядзецца працаваць у «прэзыдэнцкай хаце».

і вось паток целаў радзее, і здаецца, ужо няма чаму дзівіцца, як амаль апошнімі выходзяць мужчына, апрануты ў спартовае адзеньне «Адыдас», пад руку з жанчынай, якая апранутая як дарагая прастытутка, і накіроўваюцца яны ў супрацьлеглы бок ад большасьці працаўнікоў – ідуць да гатэля «Прэзыдэнт».

і тут я разумею, што ўпершыню бачыў на ўласныя вочы людзей, якія па эўрапейскіх мерках адны з самых пасьпяховых на сьвеце, людзей, якія працуюць на дзяржаву, парлямэнт і прэзыдэнцкую канцылярыю, яны працуюць у тых месцах, дзе ў нармальнай краіне трэба стаць найлепшым, трэба дасягнуць чагосьці, каб мець гонар працаваць там. але ў нас гэта цалкам наадварот, бо той, хто хоць нечага варты, разумее, што ніколі ня будзе паміраць сярод даўно памерлых.

## дзед

свайго дзеда, бацьку майго таты, я ня ведаю, бо той скончыў жыцьцё самагубствам, калі мяне яшчэ не было ў плянах, а бацька хадзіў у школу.

чаму ён засіліўся?

гэтае пытаньне раней я сабе не задаваў, мучыць яно мяне пачало сем год таму, калі я стаў пісаць і спрабаваць больш-менш самастойна разважаць. бабуля мне пра дзеда нічога не распавядала, тата таксама, пра ўсе нюансы жыцьця загадкавага для мяне чалавека я даведаўся ад маці, бо яна заўсёды на жыцьцёвыя рэчы глядзіць аб’ектыўна ды імкнецца апраўдаць любую безнадзейнасьць.

мой дзед наклаў на сябе рукі, калі быў майго цяперашняга ўзросту, ён быў рамантычным мэлянхолікам, лічыў, што нарадзіўся ня там, дзе трэба. у свае трыццаць ён пісаў вершы і вёў дзёньнік, у якім, як цнатліўка, апісваў свае ўражаньні і падзеі за дзень. ажаніўся ён хутчэй па бацькоўскім загадзе, бо ягоны тата быў майстрам вупражы для коней і, калі ўбачыў, як да сына прыглядаецца на той час яшчэ толькі памагатая кухара ў раённай сталоўцы, націснуў, бо адчайна жадаў сыну лепшай долі.

ажаніліся, адсьвяткавалі ў той жа сталоўцы, у якой мая бабуля потым стане галоўнай.

за дзедам яшчэ зь дзяцінства, як і да майго бацькі, прычапілася слова «гарэтнічак», якое настройвала на адпаведны лад. мянушка, альбо хутчэй шкадаваньне, накладае пэўныя паводзіны. і калі дадаць да ўсяго, што ягоная жонка была жорсткаю жанчынаю, якая любіла смачна паесьці, парагатаць удосталь і выпіць, то мой дзед толькі паглядаў на ўвесь гэты баль жыцьця са свайго далёкага куточка і кропку вырашыў паставіць, калі па ўсёй вёсцы пачалі гуляць чуткі, што жонка ягоная з Барысам, матацыклістам, ваенным героем, які ўдвая старэйшы за яе і яго, шашні круціць, каля закінутай лазьні іх разам угледзелі і некалькі разоў бачылі, як ён яе падвозіў на сваім матацыкле з каляскаю.

пазьней Барыс стане для мяне дзедам Барысам, пра якога я буду памятаць толькі стары матацыкал, які разганяўся да сарака кілямэтраў у гадзіну, і ранішнюю гімнастыку з жорсткім рытуалам біцьця крапіваю па сьпіне.

кажуць, Барыс прыклаў руку да сьмерці майго дзеда, ускосна, вядома, але дастаткова было проста паглядзець як трэба…

дзёньнікі і вершы, якія пісаў мой дзед, выкінулі, прынамсі так сказала мая бабуля, але мне бацька сказаў, што ён сам спаліў усе тыя рукапісы, калі вярнуўся з арміі, дзе за тры гады зь яго выбілі ўсе падлеткавыя шкадаваньні і рамантычныя соплі. спаліў разам з усімі лістамі да маці і старой карэспандэнцыяй, у топку пайшлі нават нумары «Аганька».

## чарга

Інакенцій, мужчына за сорак, знэрваваны жыцьцём і сямейным бытам, шчыра ненавідзеў любыя праявы чэргаў, дзе б тое ні ўтварался: у сталоўцы, краме, касах па квіткі на футбол ці ў кіно... чэргі ён разглядаў як рудымэнт савецкіх часоў.

яму давялося крыху пападарожнічаць, і ён быў закаханы ў Нямеччыну за тое, што, калі каля любой касы любога гіпэрмаркета ці крамы зьбіралася болей за тры чалавекі, у гандлёвай залі гучаў адпаведны сыгнал – і быццам з-пад зямлі зьяўлялася новая касірка і адчыняла дадатковую касу. цуд!

Інакенцій хацеў бы жыць у краіне бяз чэргаў, у сьветлым і радасным, вольным горадзе, але жонка дала яму пакет, захаваны пасьля мінулага паходу ў краму, дала яму паперку са сьпісам прадуктаў і выпхала з кватэры на халодны двор, праз дарогу ад якога нэонам асьвятляўся новы гіпэрмаркет, у які Інакенцій не заходзіў зь лягічнае прычыны – чэргі забіваюць. але сёньня выбіраць не давялося, сям’я чакае гасьцей, жонка толькі з ваннага пакою, набыць трэба самае неабходнае, каб згатаваць фірмовых пяльмешак і пад іх расьпіць пару пляшак ледзяной гарэлкі.

Інакенцій паклаў у плястыкавы кошык адпаведныя прадукты, пазьвінеў шклянымі бутэлькамі і выправіўся да касы.

у гіпэрмаркеце дваццаць пяць касаў, ён здалёк прыкмеціў тую, каля якой было найменей чалавечых целаў, прыкмеціў таксама колькасьць прадуктаў на стужцы і падлічыў, што ягонае чаканьне ў чарзе зойме каля сямі хвілін.

і вось Інакенцій зрабіў першы крок да касы, як раптам перад ягонымі вачыма да чаргі дадалося адразу пяць пакупнікоў!

Інакенцій зрабіў другі крок – і да касы дадалося яшчэ дзесяць!

і тут ужо Інакенцій пабег да іншай касы, якую не пасьпеў ацаніць на колькасьць пакупнікоў і тавараў на стужцы.

мінула дзесяць хвілін, чарга не паварушылася, Інакенцій заўважыў здалёк, што каля касіркі вісіць абвестка: «працуе стажор».

Інакенцій гучна мацюкнуўся – і бегам да наступнай касы. стаў, аглядаецца, здаецца, тут усё хутка скончыцца.

мінула пяць хвілін, Інакенцій прыкмеціў, што чарга каля суседняй касы рухаецца ўдвая хутчэй, бо жанчына, зь якой ён стаяў паралельна, ужо пасьпела разьлічыцца і сысьці.

Інакенцій зьмяніў сваю чаргу на больш хуткую ў суседняй касе.

па трох хвілінах касірцы спатрэбілася спачатку зрабіць адмену па касе і потым памяняць паперу на чэкі. Інакенцій узвыў, як хворы лось, і кінуўся ад гэтай ненавіснай касы да касы, якая значылася як «экспрэс-каса – ня болей за пяць пакупак». па дарозе

Інакенцій выкінуў большую частку тавараў са свайго кошыка, пакінуў толькі тры бутэлькі гарэлкі, сьмятану і масла.

мінула дзесяць хвілін, чарга ў экспрэс-касе падышла да яго, і тут раптам Інакенція папрасілі прапусьціць першаю вэтэрана вайны, старую бабульку з кефірам і сырам. Інакенцій стрываў гэта з апошніх сілаў, каб не разьбіць аб галаву вэтэраншы бутэльку гарэлкі.

пасьля вэтэрана вайны да касіркі падышла загадчыца гандлёвага памяшканьня і папрасіла кантроль касы. і на гэтым моманце ў Інакенція спынілася сэрца.

## паштоўка 2

Рауль даслаў паштоўку з Савецку (раней, да 45-га, – Тыльзіт).

Савецк – горад, які да гэтага часу ня мае сваёй каналізацыйнай сыстэмы і ўсе фэкаліі зьлівае ў Нёман… горад, у якім пабудаваны заводы радыёэлектронікі, лёгкай і харчовай прамысловасьці, і ўсё гэта сплывае ў Нёман…

Тыльзіт быў утульным рачным эка-горадам, Савецк – горад забруджаных рэк.

мы з Раулем – ідэальныя алькаголікі і сабутэльнікі.

ідэальныя алькаголікі, бо нават калі ўсе межы ўжываньня даўно пяройдзены, нас ня цягне да экстрэмізму, мы не жадаем ня з кім біцца і нікога не шукаем, каб згвалціць.

ідэальныя сабутэльнікі, бо нават калі мы ўжо ня гутарым адно з адным і проста мычым, мы разумеем нашую камунікацыю. і я ведаю: калі нават мы апынемся дзесьці ў лесе, з намі ўсё будзе добра.

## браты 3

старэйшы з братоў Галівуд, Юрый, – галоўны вар’ят у сям’і. у яго ніколі не было грошай, але заўсёды лядоўня трашчала ад ежы, пакоі былі заваленыя адзежаю і апаратураю.

Юрый цягнуў дамоў усё, што ляжала кепска, і ўсё, што нават было прыбіта цьвікамі… бывала і так, што людзі ставілі ў машынах супрацьугонны апарат, сыгналізацыю і блякіратар стырна, Юрый здымаў з машыны ўсё гэта і дадаваў да калекцыі магнітолу.

у краму ён хадзіў у сваёй куртцы-пілётцы, у рукавы лёгка зьмяшчалася колькі палак кіўбасы і кіўбасны сыр, у кішэню – гарэлка.

хлеб і масла ён набываў!

па начох Юрый «падымаў» шапікі ды кватэры і заўсёды працаваў адзін.

ён адзіны ў сям’і, хто ніводнага разу не трапляў у турму, і раптам яго быццам падмянілі, Юрый са звычайнага «дамушніка», «фортачніка» і кішэннага злодзея ператварыўся адразу ў маньяка. ён пачаў насіць акуляры, як у якога прафэсара, з тоўстымі аправамі, адрасьціў сабе вусы з васьмідзясятых, згвалціў, паводле сьледзтва, пяцёх жанчын, забіў аднаго мужчыну, зьнік у РФ – і больш яго ніколі ніхто нідзе ня бачыў.

## наладчык

была такая ж самая восень, як і цяпер, волкая, туманная і цёплая, я дамовіўся са сваімі сябрамі архітэктарамі на п’яны ўікэнд у Менску.

прыехаў, сустрэўся, піў, гутарыў, абмяркоўваў і спрачаўся, нам здавалася, што мы трымаем гэты зямны шарык за самыя яйцы, такія мы ўяўляліся самі сабе звонку: дзікія, разумныя і з плянамі сусьветнага маштабу. неяк аднойчы я запісаў вечар на дыктафон, каб запомніць кожнае слова, якое прамаўляў у кампаніі. я быў расчараваны настолькі, што на ўсё жыцьцё паабяцаў сабе больш ніколі не абмяркоўваць падчас п’янак хоць што-небудзь з мастацтва, творчасьці і філязофіі. з дыктафона на раніцу я пачуў цьмянае мармытаньне нейкай неразборлівай лухты, было сорамна за тое, што я такі тупы і нязграбны выпівоха з закосам пад інтэлектуала.

дык вось, Менск, я ночу ў сяброўкі на гаўбцы, перабудаваным у невялікі ўтульны пакойчык, усе мае спробы зьняць зь яе майткі былі беспасьпяховыя, таму я прачнуўся рана, адпачнуўшы, узбуджаны і ўвесь абліты дзіўным пахмурным ранішнім сьвятлом.

на трэці дзень сталічнага багемнага жыцьця мая кампанія прапанавала схадзіць у кінатэатар «Кастрычнік» на «Наладчыка» Кіры Муратавай, фільм, які быў галоўнай падзеяй на міжнародным кінафэстывалі «Лістапад».

у кінатэатар мы набылі па дзьве бутэлькі партвэйну: адну перад, другую падчас прагляду.

кіназаля.

мы, дзікія расьліны, на сваіх месцах, і на нашу радасьць і зьдзіўленьне перад экранам зьяўляецца сама Кіра Муратава ды распавядае пра свой фільм, пра канцэпт і пра актораў, пра сам акт стварэньня мастацкага твора… зразумела, што пад партвэйнам усе мае сябры, і ў тым ліку я, яе ня слухаем, бо лічым сябе ня горшымі за розных там «наладчыкаў».

мінула пятнаццаць хвілін, пайшоў фільм, і мне, вядома, захацелася ў прыбіральню. а я, як чалавек, які любіць алькаголь, заўсёды набываю сабе квіткі на крайніх месцах, каб лёгка і незаўважна выходзіць па справах.

спускаюся па лесьвіцы ўніз і сутыкаюся з самой Кірай Муратавай, яна ідзе ў суправаджэньні сакратара, які выконвае ролю ахоўніка ды спрабуе ўзяць мяне за плечы і адвесьці ад рэжысэра. Кіра просіць мяне адпусьціць, бо бачыць, што я вельмі хачу зь ёй пагутарыць.

і вось мой зорны час, зараз я пакажу ёй увесь бляск свайго інтэлекту і дасьведчанасьці, я, такі кучаравенькі, з барадой і ў акулярах, з шалікам, адным канцом за сьпінаю, адкрываю рот і мармычу нейкую хуйню, прапахлую партвэйнам і сьметанковым печывам: «э, там, гэта, постмадэрн той, што вы скажаце… мммм... да… прабачце… эк… гэты «Наладчык» нясе пэўную адказнасьць перад генэрацыяй пост…»

Кіра Муратава, трэба сказаць, даслухала маё мармытаньне да канца, а потым як закрычыць на мяне: «які постмадэрн?! малады чалавек, апомніцеся! які постмадэрн, я вас пытаю?! прасьпіцеся і, калі зможаце, прыходзьце заўтра на афіцыйны вечар для журналістаў, я вам пакажу постмадэрн! паназавучвалі мне тут модных словаў!»

і мне раптам захацелася толькі аднаго – ніколі не нараджацца на гэты сьвет.

## узрост

давайце пагутарым пра тое, як нашыя беларускія жанчыны старэюць. адна мая сяброўка на днях прывезла мне свае ўражаньні з Аргентыны. кажа мне: «уяўляеш, са сьпіны ніколі не здагадаесься, якога ўзросту жанчына шпацыруе па вуліцы ў Буэнас-Айрасе, абгоніш яе, азірнесься – і таксама незразумела, колькі ёй год, але відавочна ёсьць сорак».

аргентынскія жанчыны пасьля сарака настолькі размываюць свой узрост, што за такую нялёгкую справу, як вызначэньне колькасьці год, не бярэцца ніводны дасьледнік.

а цяпер давайце азірнемся, паглядзім, хто побач з намі езьдзіць у грамадзкім транспарце, тупае па вуліцах…

жах! хто ўсе гэтыя зацюканыя жанчыны?!

мужчыны! што вы робіце з жанчынамі, што яны падобныя да каго заўгодна, але не да жанчын!?

гэтыя бясформенныя гумаўскія курткі! гэтыя стаптаныя боты ад «нёмана».

жанчыны! схадзіце ў сэканд-хэнд, там нашмат таньней і выбар прыгажэйшы! зрабіце сабе фрызуру, падкрэсьліце вочы, зрабіце манікюр!

але навошта ўсё гэта, калі твой, ну гэты, што пад бокам, храпіць, пярдзіць, сьмярдзіць… не мяняе парваных шкарпэтак, майткі ўсе парваныя носіць… якая тут матывацыя?!

большасьць жанчын за пяцьдзясят стаяць у чэргах, паўгорада аб’ехаць гатовыя, каб па зьніжцы набыць два кіляграмы ялавічыны! яны ня маюць плянаў на вечар, нават думкі такой сабе не дазволяць – заплянаваць вечар, напрыклад, з сырам і віном.

у нашай беларускай рэчаіснасьці жанчына, якая набліжаецца да мяжы пэнсійнага веку, паступова ўся ссыхае, скручваецца, перастае прыстойна апранацца, сачыць за сабою, пачынае есьці розную брыдоту, капаць градкі і варыць рондалі баршчоў.

калісьці я здымаў жытло каля ст. м. «Пушкінская», маёй суседцы было пяцьдзясят тры, і яна кожны месяц палову заробка пакідала на сэрыялы на DVD, закупала шмат нітак і рабіла закаткі, закаткі, закаткі… розныя закаткі: агуркі, тушонка, таматы, пацісоны, капустка…

казала мне, што хутка ў яе пэнсія, налічыць павінныя няшмат, яна рыхтуецца, бо падарожнічаць грошай усё роўна ня хопіць, а лецішча ў яе няма.

дарагая мая суседка, ты што, сабралася закаркаваць сваё старое цела ў аднапакаёўцы і памерці за праглядам чарговага сэрыялу, вяжучы зімовы шалік, перад гэтым адкрыўшы трохлітровы слоік гуркоў?! дзе жаданьне жыць і сачыць за сабою, дзе ўвогуле хоць які імпэт?!

**сон**

сёньня бачыў такі сон:

я ў пакоі бяз мэблі, сьцены шурпатыя, вакно, празь якое бачны дзіўны краявід нейкага апрацаванага поля.

я на каленах, рукі за сьпінаю, зьвязаныя.

я адчуваю, як хтосьці збоку стаіць і трымае каля маёй левай скроні пісталет.

стрэл! я фізычна адчуваю, як куля з трэскам праходзіць праз чарапную каробку наскрозь. мне аднаачасова і балюча, і вусьцішна, але я дакладна ўсьведамляю, што я не забіты і ня буду забітым.

потым другі стрэл... трэці, чацьвёрты, пяты і шосты. у пакоі дым ад пораху, характэрны пах...

апошні стрэл атрымліваецца самым ціхім і трапляе ня проста ў скроню, а неяк наўскос, і куля крышыць столь.

я жывы і я працягваю глядзець у акно...

пісталет апускаецца, і я чую голас: «ладна, сёньня твой дзень».

і прачынаюся.

## ахвяры

адзін мой аднаклясьнік неяк ня так даўно наведваў мяне і за кілішкамі крамбамбулі распавёў пра свой паляўнічы досьвед. ён распавёў мне такое, ад чаго давялося толькі хутчэй піць, каб не пасьпець працьверазець.

яго з сабою ўзяў бацька, мужчына ўжо сталага веку, хацеў такім чынам, на паляваньні, пазнаёміць сына з галоўнымі замоўнікамі на іх заводзе.

сын, вядома, неўзабаве стаўся дырэктарам заводу, але ён і ведаць ня ведаў, праз што яму давядзецца прайсьці.

«ты ўяўляеш, Алесю, калі мы прыехалі на месца паляваньня, гэта было поле з маладымі ялінкамі, аточанае назіральнымі высокімі пастамі, я падумаў сьпярша, што гэта будуць сачыць за намі, ну, каб паляўнічыя не заблукалі далёка, бо гэтыя вышкі былі вышэйшымі за большасьць дрэваў і ялін. я лічыў, сябра, што мы пераапранемся і выправімся з сабакамі па дзікоў, я нават да гэтага пагугліў, як выглядаюць дзічыныя тропкі. блядзь! усё было проста неверагодна па-іншаму. усе тыя мудакі прыехалі, пачалі піць яшчэ да абеду і ў абед, калі нажэрліся, запатрабавалі крыві!»

і з розных бакоў, з розных кустоў уроссып панесьліся зайцы, вавёркі і невядомыя пухнатыя

зьвяркі, выпускалі іх так, каб «паляўнічыя» цэліліся ўсе ў адзін бок.

БАХ! заяц – 30$
БАХ! вавёрка – 40$

за кожную забітую жывёлку паляўнічыя плацілі, а тыя ахвяры, у якія не траплялі, паміралі ад куляў тых самых выблядкаў, якія сядзелі на вышках зь вінтоўкамі.

такая мясарубка цягнулася тры гадзіны, пакуль усе гэтыя тоўстыя і непаваротлівыя ёлупні не стаміліся і не запатрабавалі печана-тушаных зайчыкаў і вавёрачак.

«ты разумееш, я як сядзеў, так і застаўся на адным месцы, я толькі спрабаваў сварыцца на іх, але на мяне азіраліся і сьмяяліся. я быццам бы трапіў у спэцлягер, дзе пасьля таго, як даб'юць усіх жывёл, на арэну пачнуць выкідаць людзей!»

калі ўсе наеліся і напіліся наноў, калі прасраліся добра, так, што вулічная прыбіральня ажно трашчала, усіх чакаў цьвік праграмы: дзік – 1000$ і, калі пашчасьціць адшукаць, лось – 5000$.

зразумела, што ўсё само адшукалася, бо паляўнічыя зрабілі для сумленнасьці пяцьдзясят крокаў углыб, як раптам запрыкмецілі спачатку

дзікоў і забілі трох, а потым, на ўсеагульную радасьць, – лася.

«Алесь, гэта ўсё робіць па замове мясцовы лясьнік, ён вычварэнец, хворы, знаходзіць такіх жа хворых замоўнікаў. а я вось цяпер дырэктар і адмаўляюся працаваць з тымі ўёбкамі, зь якімі мяне пазнаёміў бацька, але бацька жывы, і ў мяне зьвязаныя рукі».

сэзон паляваньня ў Беларусі набывае рысы маніякальнасьці, крыважэрства і забойства, і гэта нават калі ня ўлічваць факты з навінаў: трое пьяных паляўнічых з Расеі ўцякалі лесам на джыпе ад беларускага ДАІ і трапілі ў вялікую аварыю, выскачыўшы на дарогу... былі затрыманыя... высьветлілася – паляўнічыя без ліцэнзіі, п’яныя, у салёне аўтамабіля знойдзена сто сорак шкурак баброў і сто шкурак вавёрак...

што гэта робіцца? ці не надышоў ужо час увесьці крымінальны артыкул на паляваньне, а калі зьдзек з прычыненьнем шкоды здароўю любой жывёле ў горадзе, то адразу – дваццаць год турмы!

а цяпер пакінем на хвілінку лес і зазірнем у беларускія гарады. у кожным раёне цяпер знаходзяць змардаванымі котак і сабак, а тых маньякаў ніхто не шукае, бо там «адміністратыўка».

але ж такія хворыя адносіны, пачварнае стаўленьне да жывёл вельмі лёгка пераносяцца на як

мінімум дзяцей, і потым ужо позна, як стала запозна для той мамачкі, якая не адчыніла міліцыі, а на наступны дзень была, разам зь дзецьмі, парэзаная нажом, і кропка ва ўсім гэтым – дтз і сьмерць: мужчыны, жанчыны, сабакі.

а таксама я заўважыў, што калі сэзон паляваньня яшчэ не надышоўшы, навіны так і ломяцца ад зьдзекаў з хатніх... дзяцей, сабачак, котак... будзе жаданьне – і вы паспрабуйце прасачыць гэта, бо відавочна: садызм вандруе з кватэры/спальнага раёну ў лес і назад, і ніхто нічога ня робіць.

## словы

у юнацтве я часта любіў пасьмяяцца з бабулі. напрыклад, калі яна прасіла ў мяне праверыць правапіс сваіх вершаў, якія я лічыў вяршыняй тупасьці, хоць іх і друкавалі ў некаторых часопісах. але ж усе мы добра ведаем, што бяруць у друк у некаторыя часопісы!

я штораз казаў бабулі, злосна так, каб яна ня несла розную лухту, каб не павучала мяне і спынілася ўжо нарэшце са сваімі ўспамінамі пра галоднае дзяцінства, і пра фашыстаў, і пра палякаў, і пра савецкіх салдат.

яна любіла сесьці, скласьці рукі і пачаць: «добра зараз… усё ёсьць… а раней…» – і заканчвала звычайна: «абы не было вайны, унучак… абы не было».

я сьмяяўся зь яе, старой.

але цяпер, калі пад бокам пачынае варушыцца і скандаваць жудасныя рэчы такі непрадказальны сусед-вар’ят, я па-іншаму пачаў успрымаць бабуліны словы.

## дзяўчаты

лета, цёпла, чарга ў «хутка-смачна», я стаю разам з паэтам, перакладчыкам і мастаком.

мае сабутэльнікі дакладна ведаюць, хто яны, толькі я яшчэ ня вызначыўся ў жыцьці.

маё першае лета ў Менску, звычайна я зьяжджаў дамоў, а тут і праца зьявілася, і з кватэры ніхто не пагнаў.

дванаццаць.

перад намі чарга – каля пяці чалавек, усе мы пад лёгкім алькагольным ачмурэньнем, зьбіраемся набыць па златцы і па піве.

паэт, які стаіць побач са мною, манерны і гідкі чалавек, зь першага позірку нагадвае закамплексаванага гея з характэрнымі паводзінамі, галоўку звычайна набакір трымае, ручкамі мякенькімі ўзмахвае і галаском такім салодкім: «ну шо-о-о-о...» ён непрыемны і вельмі злосны.

перакладчык – нармальны дзядзька, свой у дошку, толькі часам бывае як пачне штосьці распавядаць, ну быццам ня з гэтай плянэты чалавек.

мастак – п’е больш за ўсіх, самы адчайны алькаголік і маньяк. зь ім калі сабраўся піць – будзь гатовы дакрочыць да самай мяжы жыцьця.

стаім, гутарым, тут раптам паэт, ну а як жа, наш цудоўны патасны мужчына, тром дзяўчатам

наперадзе кажа: «ой, і што гэта вы тут, шала-а-авы-ы, стаіцё! вочы разуйце! праходзьце хутчэй, не затрымлівайце чаргу!»

неяк так адразу прастора застыла, паветра зьнікла, я разумею, што гэты нязносны паэта ізноў палез, каб кагосьці абразіць, ён, як паводле Фройда, калі вып’е – адразу шукае дзяўчыну, каб зьняважыць яе, альбо лепей нават якога графамана, каб сказаць, што той лайно.

мы ўжо зьбіраемся сыходзіць з чаргі, давядзецца забыцца на златкі і піва! дзякуй яму вялікі!

мастак хоча сказаць штосьці дзяўчатам, каб тыя не зьвярталі ўвагі, але ўжо позна. дзяўчаты наблізіліся да паэта, і адна правым хукам яму ў твар, прафэсыйна так, і левай яго ў падбародзьдзе, пакуль ён не пасьпеў паваліцца на ходнік.

другая дзяўчына трапляе ў грудную клетку чаравічкам на шпільцы...

трэцяя хапае паэта за валасы і прыціскае яго правую шчаку да асфальту...

дзяўчаты крычаць, мацюкаюцца і патрабуюць сатысфакцыі, а паэт ня здольны ўжо і слова вымавіць.

усё так хутка, я заўважаю, што нос у паэта павернуты на бок.

я бегаю вакол дзяўчат і спрабую іх супакоіць.

перакладчык у гэты час выскоквае на дарогу кідаецца пад бліжэйшую машыну, тая па тармазах. перакладчык пасьпявае толькі адчыніць дзьверы, як да яго адна зь дзяўчат дзьвюма скокамі – і чапляецца за ягоныя заплечнік і кашулю... кашуля рвецца па швох, у заплечніку рвецца засьцежка, і палова рэчаў апынаецца на дарозе, але перакладчык пасьпявае скокнуць у салён – і машына зьяжджае.

я азіраюся, мастака нідзе не відаць, а дзяўчаты ўжо стаміліся і дазволілі паэту адпаўзьці на прыстойную адлегласьць, адкуль той выклікаў па мабільным ці то «хуткую», ці то міліцыю, ці то таксі, незразумела.

і тут я заўважыў, што застаўся сам-насам з трыма д'ябаліцамі!

я ўсьміхаюся і прапаноўваю ў якасьці выбачэньня набыць усім піва і златак. я разумею, што біцца зь імі мне ня сьвеціць, я то дакладна ня буду!

тут да «хутка-смачна» падыходзяць трое хлопцаў, сяброў дзяўчат, і на грошы мяне раскручваюць як мае быць.

ноч. мы сядзелі на лаўцы ў суседнім парку, гутарылі. дзяўчаты ў дробязях прыгадвалі свой подзьвіг, а я быў рады, што жывы і цэлы, і лічыў хвіліны, калі змагу адсюль зваліць... на тэлефон мне шматкроць званіў мастак, я не адказваў, бо крыўдна было, што ён мяне кінуў.

мастак пачаў слаць смс-кі кшталту «я недалёка, у суседнім двары, што чутна?»

«вось і сядзі ты ў сваім двары, ссыкун!»

## панк

з восьмай па дзясятую клясу я быў панкам, выстрыгаў сабе іракез, насіў сьмярдзючую байку з выяваю «ГрОб». свайму сабаку таксама выстрыгаў іракез і фарбаваў чырвоным флямастарам. з сябрамі-панкамі ў нас былі дзьве вартыя панкаў гульні: «рамонак» і «сапля».

рамонак: зьбіраецца вялікая кампанія, кожны гадзіць у адно месца, альбо, калі ня можа нагадзіць, шукае сабачае лайно. потым усе становяцца вакол гэтай кучы, утвараюць кола. абіраецца галоўны панк, які павінны кінуць цэглу альбо камень у сярэдзіну гэтай кучы-сьмярдзючы. і выйграе той, на каго трапіла больш лайна.

сапля: распранальня ў школе каля спартовай залі, звычайна на перапынку, пераапранаецца па некалькі клясаў. перад дзьвярыма зьбіраюцца панкі, абіраецца галоўны і адказны за дзьверы і сьвятло распранальні. такім чынам усе панкі заходзяць унутр, выключаецца сьвятло, дзьверы зачыняюцца і трымаюцца звонку дужым хлопцам. і пакуль у цемры паніка і крыкі, панкі актыўна плююцца і смаркаюцца ў розныя бакі. выйграе той, на якім паводле падлікаў будзе больш саплей.

## вэранда

гэта здарылася пятнаццаць год таму, калі мне было дзевятнаццаць і я прыяжджаў да бабулі ў маёнтак летам, прыяжджаў без ахвоты, бо лічыў, што марную свае каштоўныя вакацыі на нецікавыя справы, спрэс пакрытыя пылам і старэчымі анучамі. але тое лета мне запомнілася праз знаёмства зь дзяўчынаю, якая наведвала сваіх бабулю і дзядулю ў суседняй вёсцы такім жа чынам і таксама лічыла гэтую справу нудотнай, справай, якая скрадае каштоўныя дні лета.

спачатку я сустракаўся зь ёй выпадкова ў аўтобусе, які ехаў праз нашыя вёскі, потым я бачыў яе па дарозе з адной вёскі ў другую, што пад нашай сялібай.

набраўшыся мужнасьці, я зь ёй пазнаёміўся ў крамцы, калі набываў цыгарэты.

і нашыя адносіны імгненна ператварыліся ў сумесь цёплых сяброўскіх гутарак і доўгіх шпацыраў па ваколіцах: вёска, сьцежкі да лесу, возера, яблыневы сад.

мы маглі зь ёй пехатою прайсьці дзесяць кілямэтраў, дакрочыць да возера, там выпіць, пакурыць. мы не абдымаліся, не трымаліся за рукі падчас прагулкі. уся прастора была ў нашым распараджэньні, але прастора для сяброўства.

і толькі адзінае месца, дзе яна дазваляла сабе вольнасьці – гарачыя доўгія пацалункі, – гэта вэранда.

вяртаючыся разам адкуль-небудзь, дакрочыўшы да бабулінага маёнтка, мы падалі на старую канапу, што стаяла ў вэрандзе і пачыналася полымя каханьня – мы цалаваліся да сініх вуснаў і мяжы прытомнасьці, а потым пілі віно ці партвэйн, набыты ў адзінай на ўсю вёску крамцы. потым яна засынала, а за ёй і я.

у нас больш не было ніякіх іншых памкненьняў і жаданьняў, мы былі цалкам задаволеныя жыцьцём і нашымі стасункамі. Лета ішло за летам, а мы маглі цэлы дзень гуляць разам, гутарыць пра кнігі, пра мастакоў, фільмы і проста пра былое жыцьцё ў школе ці цяперашняе ва ўнівэрсытэце, але мы дакладна ведалі, што позна ўвечары, каб нікога не будзіць і не захраснуць у вусьцішным лесе, нас чакае вэранда.

тым летам, калі мне споўнілася дваццаць, я сам пачаў прыяжджаць да бабулі, маці думала, што я стаў дарослым, самастойным і палюбіў сваіх родных пра-бацькоў, але я ехаў толькі па вечаровыя пацалункі.

мінула тры месяцы, лета скончылася, мы разьвіталіся ўжо іншымі людзьмі, мы разьвіталася адно з адным дарослымі. але я ведаў толькі, што сама яна са Слуцку, вучыцца ў Менску, яна ведала – што я з Нясьвіжу, вучуся ў Менску. на той час у нас не было мабільных, інтэрнэту, адрэсамі для

ліставаньня мы не абменьваліся, мы лічылі гэта саплівым глупствам і былі ўпэўненыя ў тым, што сустрэчы ў сталіцы зруйнуюць нашыя адносіны, таму ўсё пакінулі да наступнага лета.

на наступны год я яе так і не пабачыў, хоць і прыходзіў амаль кожны дзень на дамоўленае месца сустрэчы, і толькі значна пазьней, калі сядзеў на вэрандзе і сумна разважаў пра лёс каханьня, пачуў ад бабулі, якая гутарыла зь сяброўкай на ганку, што бабуля маёй дзяўчыны памерла зімою.

я зразумеў, што нагода даехаць да гэтых мясьцінаў у дзяўчыны зьнікла.

## цыган

у мяне засталася бабуля, якой я магу ганарыцца.

бабуля, якая не старэе. ходзіць на абцасах, носіць даўгія валасы, фарбаваныя хною з каваю.

свой мабільны тэлефон яна не падымае ў грамадзкім транспарце, у крамах і іншых месцах, дзе хтосьці можа пабачыць, што тэлефон у яе стары. калі ён звоніць, яна робіць выгляд, што гэта не ў яе. Звонку назіраць за гэтым сьмешна.

бабуля, калі я да яе прыяжджаў малым і любіў падлятаць да хатняга тэлефона, калі той званіў, праз увесь дом крычала: «калі гэта мяне, не заві мяне бабуляй!»

а я, вядома, крычаў у слухаўку: «бабуууля! цябе!»

гэта амаль неверагодна, але ў маёй бабулі ўжо было чатыры мужы, і шэсьць год таму яна выйшла замуж пятым разам. цяпер яе муж – дзед-цыган!

знайшла яна яго выпадкова, калі езьдзіла да сваячніцы ў госьці, там яны першым разам пабачыліся. ён адразу і завалодаў яе сэрцам: закручаныя вусы, смуглявы, сам родам з Краснадарскага краю, прайшоў усю Эўразію, вырашыў асесьці тут, на беларускай зямлі, дзеля маёй бабулі – апошняга для яго сапраўднага каханьня...

дзед-цыган пераехаў у дом, што пад Стоўбцамі, і па ваколіцах папаўзьлі чуткі: цыган пасяліўся, кажуць, кулямёт у сараі паставіў!

мясцовыя гопнікі да цыгана хадзілі, самагон зь ім пілі, пра зброю распытвалі. пілі, але не перапілі, паваліліся пад стол. дзед іх вывалак вонкі, каб не заміналі выпіваць далей і глядзець па тэлевізары «Сьледзтва вялі» зь Леанідам Канеўскім.

пасьля той п’янкі жыхары і гопнікі пачалі абыходзіць дом па супрацьлеглым баку дарогі, бо часам як гаркне цыган на ўвесь двор: «камана-цыганэ!» – палохаюцца ўсе, мо гэта ён ім там што крычыць і кулямётам цэліць?!

насамрэч дзед гэты – тое яшчэ боўдзіла, ніякі ён не цыган, хлусіць як дыхае, бабуля аб яго нават рыдлёўку зламала, калі той ізноў пасьля самагону ў двары свае танцы ўсчыніў з воклічамі «камана-цыганэ!»

а надоечы нашага «цыгана» паклалі ў абласную бальніцу, паправіць здароўе і абсьледаваць лёгкія пасьля даўняга тубэркулёзу. дык той, пакуль да яго бабуля колькі дзён ня езьдзіла, пасьпеў натрындзець такога!.. што ён марскі воўк, вэтэран – тры вайны прайшоў, палкоўнік, з буйной вайсковай пэнсіяй!

на такія расповеды клюнула адна са старых мэдсясьцёр, маўляў, жаніх, а не проста нейкі там мужчына.

бабуля, калі прыехала наведаць свайго пятага мужа, выявіла іх абодвух падчас жарсьцяў у палаце, зь якой дзед справадзіў суседзяў і прыткнуў дзьверы швабраю, але прыткнуў няўдала.

надавала бабуля па галаве ўсяму мэдпэрсаналу, дзеда, як казу, пагнала дадому, пасварыліся.

бабуля падбіла дзеду вока.

празь дзень памірыліся.

і я нават проста падумаць баюся, што мая бабуля ўсё яшчэ мае жаданьне і магчымасьць ня толькі абдымацца зь дзедам доўгімі зімовымі вечарамі, калі печка так ладна грэе і можна спаць аголенай пад пледам, паверх якога стары цёплы кажух.

## сьветач

месяц таму я вырашыў прывезьці ў Белкнігу «маёнтак рыбы». мяне прынялі, адказалі, што трэба пачакаць дзень-два, і калі праз гэты час не пазвоняць, значыцца дзяржаўная кантора адмовіла мне як аўтару, браць кнігі на распаўсюд ня будзе.

мінула два тыдні, і я ўжо зразумеў, што маю творчасьць не ацанілі, забанілі і выкінулі на сьметнік, як нечакана пазванілі і паведамілі, што Белкніга падпісала са мною дамову (ужо і ня ведаю, што там так доўга чыталі ды шукалі і які тэкст натхніў дзяржустанову на такі подзьвіг).

я прыехаў, атрымаў дамову і сьпіс кнігарняў у Менску, якія прымуць творчасьць а.і.бацкеля ў продаж.

у сьпісе былі пазначаныя пяць кнігарняў, і па прыезьдзе ў Менск я вырашыў пачаць са «Сьветача» – самай цэнтральнай кнігарні ў сталіцы.

прыйшоў, адшукаў адміністратарку на зале, кажу ёй, што ў мяне дамова зь Белкнігаю падпісаная, я прынёс кнігу на продаж, да каго зьвяртацца. жанчына проста праз залю пачынае клікаць адказную за гандаль і, калі чуе, адкуль тая «адказная» крычыць, накіроўвае ў той бок.

падыходжу. кажу:

– я аўтар, дамову зь Белкнігаю падпісаў, прынёс кнігу. што рабіць?

яшчэ калі я набліжаўся, гэтая жанчына глядзела на мяне, як на брудную анучу, моршчылася неяк...

– ну паказывайце! – кажа мне Тацьцяна *якоетамімяпабацьку*.

паказваю ёй кнігу.
яна бярэ асобнік у рукі і раптам яе ўвагу адцягваюць дзьве іншыя прадавачкі, і яны ўсе разам пачынаюць шукаць «сьнягурку ў какошніку». тут пакупнік яшчэ ўчора бачыў гэтую сьнягурку, і кампутар паказвае, што адна на залі прадаецца! бабы шукаюць сьнягурку, стары пакупнік чакае, я назіраю карціну: павернутыя да мяне тры сракі сноўдаюць па гандлёвых паліцах кнігарні ў пошуках ляльки «сьнягурка ў какошніку», але паўсюль стаяць простыя бела-блакітныя сьнягуркі ў шапках, побач зь дзедамі марозамі.

пачакаўшы і ўдосталь наглядзеўшыся на азадкі, я ізноў спрабую давесьці «адказнай за гандаль», што я аўтар!

– добра. што гэта? – пытаецца ў мяне Тацьцяна *якоетамімяпабацьку*.
– у сэнсе?! гэта кніга!
жанчына гартае і круціць у розныя бакі мой «маёнтак рыбы».

– сама бачу, што кніга! канкрэтна. што гэта!?

– калі вы наконт жанру, то гэта кніга прозы. кароткая проза, – і дадаю, каб крыху націснуць на яе і прымусіць варушыцца: – Белкніга падпісала са мною дамову!

жанчына закатвае вочы да столі, уздыхае і прамаўляе: «ідзіце за мною!»

дакрочыўшы да самага аддаленага кабінэту, я апынаюся ў атачэньні кніг. Тацьцяна *якоетамімяпабацьку* сядае за кампутар і зноў зьнікае, пачынае займацца нейкай іншай справай.

– дык што, я для «Сьветача» пакіну дзесяць асобнікаў? – кажу ёй, каб ізноў неяк зьвярнуць на сябе ўвагу.

– ой! навошта мне вашыя дзесяць асобнікаў!? хопіць і трох!

подумкі я ўжо пасьпеў парэзаць на навалкі цела гэтай «старой пціцы»!

«адказная за гандаль» пачынае рыхтаваць дакумэнты...

– колькі будзе каштаваць?

– пяцьдзясят!

– гэта агулам?

– ня ведаю, я вас не разумею, мне на рукі

ад кожнага асобніка трэба атрымаць па пяцьдзясят тысяч!

– вы што?! хто тут будзе купляць ГЭТА за такія грошы?! гэта ж будзе каштаваць 75 000!

я не вытрымліваю такога стаўленьня да мяне і з мацюкамі выбухаю:

– а я нешта не разумею, вы тут пагарталі кнігу і ўжо ведаеце, як яна будзе прадавацца?! вы тут ахуенны эксперт?!

– ня трэба мне тут мацюкацца! я ведаю, як ГЭТЫЯ АЎТАРСКІЯ кнігі прадаюцца!

я больш нічога не адказваю, проста гляджу на кнігі іншых аўтараў, якія ляжаць па 10, 20, 30 асобнікаў на стале, з падпісанымі дамовамі, і ўсе кнігі вакол на расейскай, а маю кнігу на беларускай узялі тры асобнікі, бо за месяц, паводле «эксперта па гандлю», нават і яны не прададуцца.

паставіў дзе трэба подпіс і, нічога не сказаўшы, сышоў. было брыдка, вельмі брыдка і крыўдна.

дадам толькі: у іншых кнігарнях кнігу бралі па пяць і дзесяць асобнікаў, усьміхаліся, ціснулі рукі і адна з супрацоўніц (ня буду казаць, у якой дзяржкнігарні) нават пазнала мяне.

## яблыкі

Ванадзій жыў і да пэўнага ўзросту нават ня ведаў, што ў сьвеце ёсьць яблыкі. ён іх проста ня бачыў.

натуральна, ён жыў у сьвеце, меў вочы і добры зрок, але яблыкаў ня бачыў!

здарылася адкрыцьцё такім чынам: ён быў малым, зусім малым, мама паклікала яго з двара дадому, сабрала яго, сама пераапранулася і яны выправіліся да дзеда. гэта было першае падарожжа Ванадзія далей за двор.

прыехалі, а дзед ужо каля калітки, зачакаўся ўвесь. ня так і часта здараецца такі цуд, калі дачка прыяжджае з унукам!

дзед падрыхтаваўся, сарваў зь яблыні самы прыгожы яблык, памыў яго і нацёр аб сваю кашулю да бляску. з цукру зрабіў салодкага пеўніка на драўлянай палачцы і, калі Ванадзій да яго падбег, уручыў адразу два ласункі.

і вось дзіва, пеўніка хлопчык трымае ў руцэ, а яблык, які яму паклалі ў другую далоньку, выпадае, быццам бы ў яго ручка дзіравая. пасьмяяліся, пажартавалі, што дзіцё не захацела есьці такую смакату, гэты цуд прыроды з дрэва…

хлопчык рос, сталеў, так і да юнацтва ня ведаў, што такое яблыкі, маці лічыла, што Ванадзій проста ня любіць іх.

вось аднойчы на ўроку па мастацтве ўсе разглядалі карціны-нацюрморты. і на Ванадзія быццам спусьцілася прасьвятленьне, ён убачыў на палатне яблыкі і ажно ашалеў.

– божачкі, а што гэта? гэта адкуль?! дзе яно расьце? у Афрыцы?!

аднаклясьнікі, вядома, абсьмяялі яго, усе думалі, што той выдурняецца, але Ванадзій на гэта не зьвярнуў увагі… ён назьбіраў грошай, набыў сабе кнігу нацюрмортаў, заклаў усе шэдэўры з выявамі яблыкаў і паставіў сабе за мэту жыцьця адшукаць калі-небудзь гэтыя дзіўныя плады ў прыродзе.

## лягеры

у маім жыцьці былі тры дзіцяча-юначыя лягеры.

у першым лягеры я затрымаўся роўна на тыдзень. я жыў у пакоі з хлопцам, які быў майго ўзросту і захапляўся фантастыкай, у яго было колькі кніг з графічнымі ілюстрацыямі, якія ён капіяваў сіняй асадкай у сшытку: вялікія робаты-мурашы з блястарамі замест сківаў, касманаўты ў скафандрах, касьмічныя караблі…

мне было ня весела і ня сумна, было ніяк у мае дзесяць сярод атмасфэры помнікаў піянэрам у алеі па дарозе ў сталоўку і на стадыён… было насамрэч ніяк, але, калі ў суботу прыехалі мама і тата, я іх пабачыў і расплакаўся горкімі сьлязьмі, так роспачна, гучна і несуцешна, што мяне праз гадзіну ўжо выпісалі дадому. я ехаў на каленах мамы, абдымаў яе за шыю, заліваў ёй вуха цёплымі саплямі, а яна ўсё распытвала:

– ну скажы, сыночак, цябе хтосьці пакрыўдзіў? ты пабіўся з кім?

– не, – кажу я, бо сапраўды за тыдзень нічога ня здарылася, толькі сусед мой пасьпеў размаляваць цэлы сшытак у клетку.

у другім лягеры ўсё склалася цалкам наадварот. я прыехаў, трынаццацігадовы, пасяліўся ў пакоі, дзе тусавалася пяць хлопцаў таксама па трынаццаць год, і нумар пакоя быў трынаццаць. лягер

быў хрысьціянска-баптысцкі, усе там былі добрымі, вясёлымі, але не зануднымі, ніхто не прымушаў тэрмінова верыць і маліцца… я там па раніцах пачаў бегаць і падцягвацца, дакладней – наш важаты паставіў трынаццаты пакой на спартыўны шлях. я ўдзельнічаў у конкурсе банцікаў, мне на галаве дзяўчаты завязалі іх рэкордную колькасьць і я выйграў маленькую плястыкавую сьвінку. я быў закаханы адразу ў трох дзяўчат, адной з каторых раніцай падараваў букет красак, і было гэта так: я яшчэ да пад’ёма зьбег у лес, а калі вяртаўся, у вокны мяне ўжо ўвесь лягер бачыў… вядома, я не знайшоў сваёй Дашы ў пакоі, пайшоў на гук фартэпіяна, якое грала «My heart will go on» Selin Dion, самую папулярную песьню на той час… прыйшоў я, сядзіць Даша, грае… я дару ёй краскі – і яна мяне цалуе!

потым была Ліда, якую я выпадкова прыкмеціў у адным зь дзявочых пакояў, яна скокала на ложку і яе сукенка была амаль на галаве, перад маімі вачыма луналі ледзь акрэсьленыя грудзі ў дзявочым белым станіку і майткі, такія сапраўдныя шырокія майткі, але па-свойму захапляльныя для хлопца, які ўпершыню бачыў дзявочае сподняе… Ліда на разьвітаньне, калі на нашым лягерным полі было распаленае вогнішча паверхаў зь пяць вышынёй і можна было ўпершыню за месяц ня спаць усю ноч, падарыла мне сваю фотакартку, зробленую на паляроідзе, і на адваротным баку была напісаная адрэса для ліставаньня. я зь Лідай не цалаваўся, але напісаў ёй тры лісты.

і недзе паміж Дашай і Лідай была дзяўчына Ая, пра якую я ведаў толькі, што яе завуць Ая. а потым неяк я атрымаў ад яе ліст, дакладней – мне яго перадаў наш важаты. яна пісала шмат пра сябе і прапаноўвала па вяртаньні ў горад перапісвацца… і я зь ёй перапісваўся на працягу двух год: паштоўкі, сардэчкі, віншаваньні, вершы, лісты ад рукі, каляровымі алоўкамі, флямастарамі і залатой мішурой… ажно пакуль мы не сустрэліся.

з Аяй мы сустрэліся каля Ўшы, яна яшчэ здалёк далонькаю прыкрыла вусны… я думаў, яна сьмяецца, аказалася, што ледзь ня плача… высьветлілася, што ўсе гэтыя два гады яна была ўпэўненая, што перапісваецца з важатым, якога таксама завуць Алесь, але важаты, даволі дарослы мужчына, зрабіў мудра, ён аддаў чатырнаццацігадовую дзяўчынку і яе каханьне мне, а я прыняў з удзячнасьцю, але ня здолеў утрымаць, бо літаральна пасьпеў разам з Аяй зрабіць крокаў дваццаць па дарозе, калі дзяўчына павярнулася, паглядзела скрозь мяне і сказала, што ёй трэба ехаць.

мой трэці лягер стаўся для мяне адкрыцьцём чагосьці кардынальна новага, я прыехаў наведаць сябра, мне ўжо было сямнаццаць, сябру пятнаццаць, і ён ня проста мяне чакаў, але зь вялікім хваляваньнем і нецярпеньнем. было вырашана, што ночыць я буду каля лягера ў лесе ў намёце, але я абавязкова вінны прывезьці пяць бутэлек гарэлкі… я ехаў у старым пыльным аўтобусе-труне і на той час нават не

падазраваў, што з гарэлкі і пяцідзесяці грамаў ня вып’ю, што ўвесь дзень да позьняй ночы правяду ў пакоі з адной незнаёмай дзяўчынай.

па прыезьдзе сябра пазнаёміў мяне з сяброўкаю, забраў гарэлку і зьнік у атачэньні кампаніі пацаноў, дзяўчат і важатых, а сяброўка, звалі яе Юля, проста падышла да мяне і пачала апантана мацаць паўзьверх шортаў мой пэніс.

дзесяць раніцы, я крыху зьбянтэжаны, але стаіць у мяне, зразумела, як і павінна стаяць у сямнаццацігадовага пацана… я ня ведаю, што сказаць, як сябе паводзіць, але мне і ня трэба штосьці там выдумляць, Юля абхапіла мяне, як зьмяя, яна літаральна павісла на мне.

мы не цалаваліся, а ўвесь гэты час, да ночы, Юля горача дыхала то мне ў патыліцу, то ў шыю, то ў лоб, то ў жывот і не адрывалася ад шортаў, гульня была менавіта аднабаковаю, бо мне было забаронена распускаць рукі.

на наступны дзень я ехаў зь лягеру ў такім стане, быццам прабег маратон, і яйцы балелі невыносна.

## чыгунка

гісторыя аднаго вар’яцтва пачалася ў Асіповічах, калі да сям’і Прывакзальных прыехалі ў госьці сябры. яны прывезьлі з сабою падарункі дарослым і паравозік малому. малы, Мішка, упершыню бачыў на ўласныя вочы такую цацку: мэталічную, зь незвычайнымі коламі, трубою і дзьверкаю машыніста, якая адчынялася… цацка была відавочна не па ўзросьце, але адабраць яе ў Мішы было немагчыма, ён учапіўся ў паравозік, як потым высьветлілася, назаўжды.

Міша рос, сталеў, свой першы паравозік паставіў на паліцу, на самаробны п’едэстал, вакол якога пачала зьбірацца процьма іншых электарацый, станцый дэпо, чыгунак і нават колькі трамваяў. хлопец на сваё зьдзіўленьне даведаўся, што на гербе ягонага гораду – паравоз. і прозьвішча ў яго блізкае да ўсяго рэйкавага.

Міша паступіў у чыгуначны каледж, і сваякі бацькі, якія жылі безь дзяцей, пагадзіліся на тры гады даць прытулак хлопцу ў іх кватэры, што, на вялікую радасьць Мішы, знаходзілася ў раёне станцыі Мінск-Паўночны, і па вечарах было чуваць, як гудуць дызэлі, як праносяцца хуткія электарацыі.

Міша Прывакзальны неверагодна радаваўся ўсяму гэтаму чыгуначнаму вэрхалу… сваю калекцыю ён пакінуў дома, таму кожны дзень пасьля заняткаў у каледжы выходзіў з мэтро на чыгуначным вакзале і пехатою па рэйках ішоў да сваякоў.

ён ішоў, пераступаў праз шпалы, часам, калі адчуваў па лёгкай вібрацыі, што хутка штосьці цікавае праедзе, даставаў цьвік альбо старыя савецкія манэткі і клаў іх на рэйкі, каб потым зьбіраць мэталічныя бліны.

Прывакзальны скончыў каледж і ўладкаваўся машыністам. за свой працоўны стаж ён аб’ехаў большую частку рэек Эўразіі, мог бачыць столькі ўсяго, але запамінаў толькі замежныя вагоны і электарацыі ды марыў калі-небудзь пакіраваць японскім хуткасным цягнікам.

час ішоў, Міша пастарэў, атрымаў некалькі прэмій на працы і грамату ад прэзыдэнта, яму быў падораны на шасьцідзесяцігодзьдзе фірмовы гадзіньнік з выяваю чыгункі, і, замест таго каб адправіць такога каштоўнага, але самотнага працаўніка на пэнсію, кіраўніцтва чыгункі прапанавала Міхаілу Ўладзіміравічу месца экскурсавода ў новым чыгуначным музэі.

– а вось гэта – самы каштоўны і стары экспанат нашага музэя, стогадовы паравоз! – прамаўляе Міхаіл Уладзіміравіч школьнікам і адчувае, як сэрцабіцьцё паскараецца, як кроў прылівае да галавы і пульсуюць скроні. ён ніколі ня будзе абыякавым да гэтых сталёвых монстраў, яны зь ім на ўсё жыцьцё, пакуль сьмерць не разлучыць іх.

## паштоўка 3

з Раулем Дзюкам мы бачыліся надоечы, бо трэба было абавязкова пабачыцца... і гэтым разам мы не ўжывалі алькаголь, гутарылі на розныя тэмы, але амаль не закраналі таго, што праз тры дні ён зьяжджае, а дакладней – сплывае.

так, мой сябра на год пайшоў у мора: паўгода на рыбалоўным судне, паўгода на грузавым. мы паціснулі адно аднаму рукі, але насамрэч хацелася абняцца.

я даведаўся, што Рауль бярэ з сабою нататнік, а гэта значыць, што ён усё-ткі адважыўся на тое, каб пачаць пісаць у доўгім падарожжы.

Рауль пачаў шукаць сябе ў гэтым сьвеце, ён разумее, што юрыдычная практыка нікуды не падзенецца і да яе заўсёды можна будзе вярнуцца, як і да любога іншага шэрага жыцьця, а варта было б адкрываць новыя гарызонты. я толькі хвалююся, што на рыбалоўным судне яму давядзецца забіваць рыб... як ён гэта вытрывае?

сёньня прыйшла паштоўка з выяваю белага мядзьведзя, горад не пазначаны, высылаў з порту:

«Ахой! Час прыйшоў. Заўтра на карабель, а 24-ага – у мора. Таму, калі паштоўка трапіць у паштовую скрыню, я буду паступова аддаляцца ад родных мясьцінаў. Спадзяюся, што час пройдзе

хутка, і мы не пасьпеем азірнуцца, як сустрэнемся зноў. Р.Д.»

удачы, дружа! прывязі мне цікавых фотак і нататнік, з усяго гэтага, я думаю, можа атрымацца някепская кніга.

## іржа

адзін амэрыканскі гуманіст, філянтроп і проста файны чалавек Рэй Б. задаўся мэтаю вынайсьці сродак, які мог бы зьнішчыць зброю на ўсім сьвеце і гэтым самым выратаваць насельніцтва Зямлі ад войнаў, сьмерці, гвалту і нянавісьці. Рэй Б. вырашыў яшчэ ў дзяцінстве, што абавязкова стане вучоным. і калі яму споўнілася трыццаць, на ягонай сьценцы ў кабінэце ўжо віселі адпаведныя дакумэнты, якія пацьвярджалі, што Рэй Б. – дасьледчык і вельмішаноўны прафэсар.

для свайго ўзросту гуманіст Рэй далёка зайшоў, але так і не вынайшаў панацэі ад вайны, ажно пакуль выпадкова не сасьніў, што любая зброя баіцца праржавець… абсалютна любая: процітанкавая, якая страляе снарадамі, аўтаматычная, якая страляе кулямі, і нават фантастычна-загадкавая – цеплавая і лазэрная, якая ўсё роўна зробленая з мэталу.

Рэй Б. нават не пасьпеў запатэнтаваць свой інструмэнт, а проста выправіўся да бліжэйшай вайсковай базы, і яму нават не давялося блізка пад'яжджаць на сваім джыпе. Рэй Б. спыніўся ў дзесяці кілямэтрах, уключыў прыладу, да якой былі прычэпленымі пяць акумулятараў у машыне, і праз сэкунду ў радыюсе ста кілямэтраў уся зброя раптам спарахнела, пакрылася ржою і скукожылася ў непрыдатныя камякі… танкі разьліліся на базе,

як лужыны мэталу, нават паляўнічая зброя ў дамох звычайных амэрыканцаў павісла на сьценах і круках варанымі макаронамі.

Рэй Б. быў вельмі задаволены, з такім радыюсам дзеяньня яго ня хутка пасьпеюць знайсьці, і пакуль людзі будуць шукаць, ад чаго зброя ператвараецца ў іржавыя камякі, ён пасьпее абʼехаць на машыне ўсю Амэрыку, а потым паляціць у Эўразію… і ўва ўсім сьвеце настане мір!

Рэя Б. пасьпелі вылічыць і знайсьці, ужо калі ён цалкам раззброіў Штаты, Канаду і Лацінскую Амэрыку і сядаў у свой пэрсанальны дасьледчыцкі самалёт, каб ляцець разам з асыстэнтамі ў Эўропу. яго забілі палкамі дзіка раззлаваныя палкоўнікі і камандзіры, білі яго доўга, пакуль не стаміліся, а сам вялікі гуманіст не ператварыўся ў фарш…

– усё-ткі няма нічога лепшага за добра зробленую драўляную біту, – прамовіў адзін з палкоўнікаў, і гэта былі апошнія словы ў жыцьці Рэя Б.

покі Амэрыка заставалася бяз зброі, пра гэта пасьпелі даведацца ўсе патэнцыйныя ворагі краіны, і, пакуль амэрыканцы, канадцы, аргентынцы, бразыльцы ды іншыя шукалі галоўнага філянтропа, на заходнія кантынэнты было скінута каля тысячы атамных бомбаў, што ляцелі з тых бакоў, куды яшчэ не пасьпеў даехаць Рэй Б., які так марыў пра мір ва ўсім сьвеце.

## навіны

некаторыя ў мяне пытаюцца, чаму гэта я так аддаліўся ад сяброў, зьехаў з гораду, можна сказаць – ізаляваўся? я нічога не адказваю, прапаноўваю пачытаць навіны:

«жанчына, якая адпачывала на Ібіцы, упала з гары, калі ёй зрабілі прапанову выйсьці замуж... яна ад шчасьця пачала скокаць, сарвалася, праляцела дваццаць мэтраў і памерла на месцы».

«жыхар адной беларускай вёскі вырашыў адпомсьціць суседу, які сказаў, што той крадзе ў яго розную дробязь на двары... помста была наступная: мужык зарэзаў сямнаццаць авечак». СЯМНАЦЦАЦЬ АВЕЧАК!

«пацаны накурыліся спайсу і выразалі сябру вочы».

«кітайская пара загінула, упаўшы з дваццатага паверха хмарачосу падчас сэксу на падваконьні».

«трое мужчын выпівалі ў лазьні разам з трыццацігадовай жанчынаю. дапілі ўсё, што было, потым зарэзалі жанчыну, расчлянілі і закапалі. мужчыны так і не змаглі адказаць на пытаньне, чаму яны забілі жанчыну, сказалі, што шмат пілі – і ўсё».

гэтыя навіны я толькі што скапіяваў зь сеціва, гэта сьвежыя навіны, якія я выбраў у адвольным парадку. дзякуй за ўвагу, я нікуды не паеду, я застануся тут, у сваім маёнтку, сярод яблыняў, хатніх жывёлак і ля старой печкі.

## выдыхнуць

напішы, ну напішы што-небудзь пазытыўнае. ну, што табе добра і шчасьліва тут, што галоўнае ня кошты на макароны і даляравы курс, што кнігі чытаюць так, як раней, што надвор'е палепшылася ды варта было б пайсьці вонкі, пашлёпаць па брудных дарогах.

напішы, альбо лепей скажы мне, што ў нас усё будзе добра і нам не давядзецца ператварацца ў незнаёмцаў і мінакоў, або, што яшчэ горш, у ненавідных адно аднаму асоб, без уласьцівасьцяў і прыкметаў, без жаданьняў і мэтаў.

скажы, што ты заробіш столькі, каб можна было не лічыць дні без паходаў у краму і можна будзе выправіцца ў падарожжа, не зьбіраючы паўгода на візы й квіткі.

абнадзей мяне абяцаньнямі больш ніколі не рабіць таго, што можа мяне пакрыўдзіць, прымусіць плакаць, бо я хачу жыць сьветла, чыста і пасьпяхова ў творчым пляне.

распавядзі мне, што мы ніколі не пасварымся й будзем вечна разам, і ў нас будзе процьма шчасьця і сонечных дзён, птушкі будуць сьпяваць і хатнія расьліны квітнець, нават кактус пачне расьці вышэй і хутчэй, настолькі хутка… ну, як ты любіш.

і нават калі ня зможаш мне паабяцаць жыць вечна, то проста прамаўчы, калі наступным разам я буду маўчаць у дыялёгах з табою.

**баян**

Баян Радзівонавіч вельмі любіў жартаваць, і асабліва ён любіў старыя барадатыя анэкдоты. здаралася, пажартуе ён, што-небудзь такое скажа, ад якога ўсіх даўно вароціць, і стаіць, сам сабе сьмяецца.

і ладна б пажартаваў і сышоў, дык не, плявузгне – і падтрымлівае сваю няўдачу такім сьмехам, быццам хворая на астму зьмяя пачала затыхацца: «х-хыы-хы-хы-хы-х-х-х-х-х!»

Баяна Радзівонавіча ніхто не любіў, кожнаму хацелася даць яму ў пысу за такія дурныя і безгустоўныя жарты.

ён мог сапсаваць любы сьвяточны настрой, ён быццам бы гвалціў усё сьвятое вакол вас, нават калі проста падыходзіў, не кажучы ўжо пра далейшае.

Баяна Радзівонавіча нікуды ня клікалі, ён нават не атрымліваў стандартных запрашэньняў у сацыяльных сетках. нават спам да яго баяўся прыходзіць, бо гэты анэкдоччык мог і яго заразіць петрасяншчынай.

Баян Радзівонавіч жыў самотным у трохпакаёўцы, бо любая жанчына пачынала хварэць на мігрэні амаль адразу, як прачыналася пасьля ночы апантанага каханьня.

Баяна Радзівонавіча аднойчы спрабавалі забіць, але насамрэч яго завэрбавалі і цяпер ён працуе на нейкую шэрую кантору, якая піша тэксты вярхоўнаму галоўнакамандуючаму.

## кілім

мне не хапае дывана, нармальнага такога, вялікага дывана.

справа ў тым, што з сыходам бабулі сышлі і дываны.

розныя сваякі падзялілі каштоўнасьці між сабою.

а мне не хапае таго дывана, які яшчэ татаў тата калісьці прынёс і павесіў на сьценку, перад гэтым прасьвідраваўшы ручным сьвердзелам дзіркі, у якія забіў самаробныя, выразаныя з дрэва коркі.

дыван гэты быў маім самым сапраўдным распавядальнікам, казачнікам і снатворным. у ягоных мудрагелістых узорах я бачыў войны, гонкі і падарожжы па сьвеце, прыўкрасных русалак і старых вурдалакаў. дыван распавядаў мне процьму цікавостак, і, узіраючыся ў ягоныя завіхрэньні, я паціху засынаў.

засынаў, а бабуля мне чытала штосьці альбо сьпявала якую старую песьню… ціха так, прыгожа…

добра тады было ў бабулі, цікава і цёпла, а з дываноў неяк па-дурному жартуюць і кпяць. але мне абыякававыя сучасныя тэндэнцыі і мода, у мяне ёсьць фота, дзе я на фоне дывана, таго самага, старога і каштоўнага, які набыў за неверагодныя грошы татаў та… прасьвідраваў дзіркі,

наструґаў драўляных коркаў, закалаціў цьвікі, а бабуля, ну, татава ма, у той час, пакуль рыхтавалася самая вялікая і відочная кожнаму з парога сьцяна, напрышывала на дыване кручочкаў.

### пэрфэкцыяніст

кожны з нас на свой капыл пэдант, у кожнага свае схільнасьці, звычкі, якія для нас – цэлы сусьвет, космас… я кажу пра рэчы, што робяць з нас пэрфэкцыяністаў, хаця б на нейкі тэрмін, але ж.

і гэты пэрфэкцыянізм бывае двух відаў: канструктыўны і ачышчальны.

я хварэю на канструктыўны пэрфэкцыянізм нашмат часьцей, ніж на ачышчальны.

я атрымліваю шчырае задавальненьне і захапленьне спачатку працэсам, калі, напрыклад, набываю ў краме чарнасьліў, арэхі (арахіс, грэцкія, фісташкі, кеш'ю, бразыльскія, лясныя), мармэляду, цукіні, сухі ананас, белыя і чорныя ачышчаныя семачкі ды розныя віды разынак.

прыходжу дадому, зьмешваю ўсё гэта ў вялікай салатніцы і пазьней, увечары, за праглядам фільму, я вылоўліваю з гэтага «сухога кактэйлю» цікавосткі і выбудоўваю шэрагі параў, як на Ноеў каўчэг: арахіс разам з мармэлядай, кеш'ю разам з сухім ананасам, семачкі разам з цукіні… а потым, калі ў мяне шэрагі ператвараюцца ўжо ў калёны, карэ і эшалёны, я іх зьядаю, запіваючы півам.

і гэта неверагодна прыемна, адчуваецца ўнутраны баланс, быццам набліжаесься да гармоніі.

тое самае я адчуваю, калі капаю градкі, раблю вымераныя роўныя прамавугольнікі, якія ствараю

адзін за адным, і калі паглядзець зьверху, то можна будзе ўбачыць геамэтрычную гармонію сярод парасткаў морквы, салаты і бульбы.

адчуваньне, быццам ты завалодаў нейкай каштоўнай таямніцай.

а тое, як я люблю фарбаваць сьценкі і як гэта неверагодна прыемна, калі кожная кропачка і шчылінка замалёўваюцца ў роўны колер, я нават баюся апісваць…

вядома, нашмат радзей я бываю ачышчальным пэрфэкцыяністам, я ня так люблю мыць посуд, як яго сартаваць і расстаўляць у шэрагі па росьце альбо прыбор да прыбору.

божухна! калі мяне адправіць працаваць сэрвіроўшчыкам ці гарсонам да брытанскага лорда, я б, напэўна, стаўся знакамітасьцю ў гэтай сфэры!

## баец

у школьныя гады нашым любімым месцам сачкаваньня, курэньня й пітва была вэранда суседняга закінутага дзіцячага садка... вэранда была размаляваная клясычным наборам словаў: анархія, сука, хуй, панкі не памерлі і інш. але яна адрозьнівалася ад іншых вэрандаў на плянэце тым, што мела вялікі надпіс балёнчыкам з чорнай фарбай: «ВЕРАБЕЙ УБЛЮДАК». так мы нашае месца і называлі – ублюдак.

«сустрэнемся на ўблюдку», «пабачымся каля ўблюдка», «я табе разаб'ю твар на ўблюдку» і г. д.

Верабей, да таго як апынуцца «ўблюдкам», быў нашым сябрам, адным з найбліжэйшых пацаноў, што акалачваліся на раёне і на вэрандзе.

Верабей быў знакамітасьцю, бо мог выкурыць адразу пачак за трыццаць хвілін. праўда, аднойчы ён страціў прытомнасьць падчас курэньня пачку, але пра гэта ніхто ня ўзгадваў. круцей за Вераб'я быў толькі Печань, пацан, які мог выпіць нагбом бутэльку гарэлкі.

усё было ў нас як мае быць, ажно пакуль Верабей не пайшоў у сэкцыю таэквандо. наведаў наш недапалак літаральна тры заняткі і ў сэкцыю больш не хадзіў, бо вырашыў, што рукі і ногі ў яго ўжо пастаўленыя. і каб даказаць гэта, ён пачаў выёбвацца.

вось усе сабраліся ўвечары на вэрандзе, п’ем піва, прыходзіць Верабей – і як ёбне каго бліжэйшага з нагі пад дыхала. альбо зь левай у вуха каму-небудзь. такія нечаканасьці, мякка кажучы, не камільфо ў дваровых кампаніях. але ж хто будзе пярэчыць таэквандзісту, які так ладна і прафэсійна б’е з нагі!

Верабей ачмурэў ад сваіх закідонаў, і спыніць яго было ўжо немагчыма...

спачатку на вэрандзе зьявіўся вялікі тлусты подпіс, які інфармаваў пра тое, у каго ператварыўся навасьпечаны баец. і Верабей так нікога і не адшукаў дзеля помсты, але і ня стаў зафарбоўваць, палічыўшы тое прыніжэньнем ягонай асобы, толькі стаў пасьля гэтага яшчэ больш і мацней біцца.

на вэранду часам завітваў Юрка, хлопец шчыры, вясёлы і сяброўскі. «матэматык!» – так пра яго казалі мясцовыя, бо Юрка на абласной алімпіядзе заняў першае месца з геамэтрыі.

аднойчы Верабей прыйшоў «на ўблюдак», пачаў ізноў біцца зь першым, каго сустрэў, і сустрэў ён гэтым разам Юрку, які чамусьці ня стаў скукожвацца і прасіць яго не чапаць, але выпрастаўся пасьля нечаканага ўдару нагой па сьпіне, павярнуўся, паставіў блёк пад левы хук Вераб’я і як зарадзіў таму ў нос леваю, а потым зьверху па галаве кулаком праваю... Верабей так на месцы і ляснуўся, давялося адмочваць яго півам.

пасьля гэтага выпадку Верабей перастаў біцца і ўсё радзей завітваў на нашу вэранду, а потым і ўвогуле зьнік з поля зроку... але я яго ўчора бачыў, ён працуе кіроўцам таксоўкі. пазнаў мяне, спыніўся, выйшаў... пагутарылі, успомнілі дзяцінства. Верабей больш не Верабей, але Алег Іваноў – дзесяць год стажу кіроўцы, прыемны ў размове, вочы добрыя, але чамусьці мне было ніякавата, усё чакаў, што ён захоча праверыць маю рэакцыю на джыругі-сул з правай і левай.

## школьнікі

зоркамі ў старэйшых клясах былі два Лёшы.

абодва высокія, абодва накачаныя, але адзін бляндын, а другі брунэт.

Лёшы былі ня проста зоркамі, яны былі самымі яскравымі плянэтамі, вакол якіх круцілася процьма спадарожнікаў, гатовых націраць ім да бляску абутак ад цыгарэтнага попелу.

абодва Лёшы працавалі ахоўнікамі ў рэстарацыі, але працавалі толькі ў вячэрнія часы, усё-ткі паводле дакумэнтаў хлопцы былі яшчэ непаўналетнімі.

Лёшам акрамя вучобы ўсё астатняе давалася проста і лёгка: стомэтроўка на «пяць», алькаголь у краме бяз пашпарту, каханьне зь любой дзяўчынай.

адносіны Лёшы заводзілі хутка, проста і невераглдна крута.

новая практыкантка па біялёгіі стажуецца ў дзявятых клясах – абавязкова адзін зь Лёшаў зь ёй круціць раман, і не істотна, наколькі яна прывабная, прыгожая і ўвогуле ці падабаецца, у Лёшаў быў такі плян – кожная новая практыкантка мусіць трапіць да кагосьці зь іх у ложак. яны рабілі падлікі і спрабавалі адзін аднаго перамагчы ў сэкс-эстафэце.

Лёшы былі самымі сапраўднымі аўтарытэтамі для нас, і мы ўсе лічылі, што яны стануцца невераго́днымі людзьмі ў дарослым жыцьці.

аднойчы, калі вясна нікому, акрамя батанаў, не давала моцы выседзець на ўроках і ўсе бадзяліся па раёне каля школы, Лёшы сядзелі каля пад’езда, пілі піва і гучна рагаталі разам з маладой практыканткай па фізыцы і яе сяброўкай пэтэвэшніцай. з пад’езду выходзіў малады мужчына, каля трыццаці, і зрабіў кампаніі заўвагу, што наплявалі тут, накідалі шалупіньня, недапалкаў.

Лёшы, доўга ня думаючы, натаўклі маладому чалавеку ў твар.

малады чалавек ледзь вырваўся і зьнік у арцы дома.

мінула каля дзьвюх гадзін, калі да школы зь візгатам шынаў і рыкам матораў пад’ехалі тры BMW. з машын павыходзілі мужчыны, якія выглядалі рыхтык з расейскага фільму «Брыгада», толькі гэта быў далёка ня фільм.

Лёшаў адразу адшукалі, вывелі іх на задні двор школы, і перад двума сябрамі, старшаклясьнікамі, крутымі пацанамі паўстаў той самы малады мужчына, які зрабіў ім заўвагу і быў за гэта пакараны.

зьбітым мужчынам выявіўся Шэры, той самы Шэры, якога ніхто ніколі ня бачыў, але ўсе ведалі, што любы гандаль на раёне і наркотыкі ідуць толькі праз яго.

зразумела, «брыгада» не зьбіралася на вачах у школьнікаў, настаўнікаў і дырэктара займацца за-

бойствам альбо зьбіцьцём непаўналетніх, няхай і такіх здаравенных афэлкаў, як Лёшы.

Шэры падышоў спачатку да аднаго Лёшы, дастаў запалкі, запаліў адну, даў у руку хлопцу, папрасіў яе трымаць як мага вышэй перад вачыма, і ня дай божа, каб запалка пагасла.

стаяць Лёша-адзін і Лёша-два, кожны трымае па запалцы перад вачыма, а Шэры спрабуе патушыць агонь… Шэры плюе на запалкі, і кожным разам міма, і пляўкі трапляюць толькі ў твар Лёшам.

публічнае прыніжэньне скончылася на дзясятай запалцы, калі абодва Лёшы былі запляванымі, плакалі, і незразумела, дзе там іх сьлёзы, а дзе сьліна Шэрага.

## валасы

з чаго пачаць?

напэўна, варта зазірнуць у далёкае дзяцінства, калі я так любіў ляжаць на сьпіне, адна нага на калене другой, а правая рука ў валасах, выбраць невялікую пасму і пачаць яе круціць на пальцы, накручваць яе, прапускаць між указальным і сярэднім, скідваць на мезенец.

круціць валасы – мая самая першая дурная звычка, якой я навучыўся, калі яшчэ нават ня памятаў сябе самога. і ведаю я гэта дакладна, бо ў мяне ёсьць фота, якое зрабіла маці на стужкавы Зэніт: мне два гады, я ляжу ў ложку, закінуўшы нагу на нагу, і кручу валасы.

дакранацца да валасоў бывае проста неабходна. мне становіцца спакойна, і я пачынаю актыўна разважаць.

часам я адрошчваю валасы да плеч, і тады мае рукі штохвіліны цягнуцца да галавы. надыходзіць час, калі я вырашаю падстрыгчыся пад машынку, адразу радыкальна, каб пазбавіцца дурнога выгляду: дарослы мужчына сядзіць і накручвае сабе на галаве валасы. сьмех!

падстрыгчыся пад машынку я вырашаю раз на два гады, гэта дае мне адчуваньне пачатку новага этапу ў жыцьці, я быццам бы аднаўляюся, і калі бяру ў рукі машынку, то разыходжуся амаль на ўсё цела,

пазбаўляюся большай часткі расьліннасьці (зразумела, усё ў межах мужчынскага пачатку, без усялякіх там мэтрасэксуальшчыны ды хіпстарскага лайна) і пакідаю некранутай толькі Патрыка – сваю бараду.

быў час, калі мяне з даўгімі валасамі блыталі зь дзяўчынаю, і тады я таксама ў рукі браў машынку, ставіў насадку на 9 мм – і пайшло ўсё куды падалей. цяпер мяне ня зблытаеш зь дзяўчынай, але і валасы, якія раней былі больш сьветлымі і прамымі ды надавалі мне амаль «куртакабэйнаўскі» выгляд, сталі больш кучаравымі і ўвогуле, калі не сабраныя ў хвост, робяць мяне падобным да нейкай мітычнай пачваркі: ці то хатніка, ці то лазьніка: поўны, барадаты, доўгавалосы і кучаравы.

я адважыўся заўтра ізноў распачаць новы жыцьцёвы этап: 9 мм, барада, дыета, мінімум алькаголю, больш пісьма, працы і падарожжаў.

## старонка

адна зь першых старонак рамана, які ў працэсе стварэньня...

Бабуля ці ня ўсё жыцьцё працавала галоўным кухарам у раённай сталоўцы, што ў абед напаўнялася працаўнікамі мясцовай малацьбіткі й трактарнага гаражу. Пад'язджала машына, яе напампоўвалі абедамі, і яна, ледзь паўзучы пад гару, зьнікала на бязьмежных палёх, карміла камбайнэраў і трактарыстаў. Мяне спачатку на лета пакідалі ў бабулі, але потым уладкавалі ў школу, і маці цалкам сышла ў сваю працу. І я яе не вінавачу, бо каму патрэбныя дзеці, калі табе дваццаць два, і толькі скончаны каледж, і хочацца пабачыць сьвет, і ёсьць нават куды пайсьці на працу.

Я рос на сьвежым паветры і праз тое, што ўсе навокал ня надта пасьпявалі мяне даглядаць і цікавіцца маім лёсам, спазнаваў гэты сьвет па-свойму, быў рады любым адкрыцьцям. Так я пазнаёміўся зь мясцовымі хлапчукамі, яны былі старэйшымі за мяне і ў два разы бруднейшымі, ведалі процьму гульняў, адна зь якіх была такою: хтосьці з гарэзаў кідаў праз фортку ў абедзенную залю сталоўкі мячык, і мы ўсёй гурбой кідаліся пад сталы яго шукаць, а пакуль мы там сноўдалі, то пасьпявалі разглядзець ня толькі жаночыя ногі, але і дакрануцца да каленак, альбо ў самай прыгожай разглядзець майткі. Хтосьці са старэйшых пацаноў набіраўся нахабства і пасьпяваў

наблізіць свой твар вельмі блізка да споднягa і панюхаць – гэта лічылася верхам спрытнасьці. Мы былі малымі і нам гэта падабалася. Я тады ня надта добра разумеў, чаму гэтая гульня мне падабалася больш за ўсе астатнія.

Калі мінула некалькі год, я пасталеў, але працягваў зрэдчас рабіць налёты на залю ў сталоўцы.

Цяпер мы гулялі ў іншыя гульні: «бутэлечка» і «сьляпы кот».

«Сьляпы кот» – гэта калі адной зь дзяўчат завязвалі вочы, раскручвалі яе, але ня моцна, і яна мусіла кагосьці з нас злавіць. Зразумела, усё гэта быў фарс, а не гульня, бо дзяўчына, расчырванелая і залапаная хлопцамі, у паветры лавіла толькі іхныя твары і машонкі, якія яны зь вялікім імпэтам падстаўлялі пад агульны рогат. Дзіўна, але ніводная дзўчына не адмаўлялася ад гэтай гульні, а некаторыя самі прапаноўвалі, калі было сумна проста сядзець у яблыневым садзе, слухаць гітару і піць самагон.

Жыць на сялібе – верх асалоды, сябраваць зь мясцовымі з суседняй вёскі – галоўная мэта для падлетка, але мары пра горад заўсёды з табою, тым болей калі ў падсьвядомасьці па начох цэлыя відзежы гарадзкіх пэйзажаў усплываюць у памяці, як маці вазіла цябе па Фрунзенскім раёне ў вазочку і казытала табе шчочкі сваімі доўгімі валасамі.

Калі мне споўнілася трынаццаць, маці на дзень нараджэньня прывезла мне тэлевізар і відэамагнітафон, і з таго часу я пачаў жыць па новым раскладзе.

Я ганяў на старым бабуліным ровары ў гарадзкі пасёлак, даставаў там порнакасэты і фірмовыя цыгарэты і ехаў дамоў. Цяпер кожная раніца пачыналася з мастурбацыі. Я прачынаўся, бабуля ўжо даўно займалася гаспадаркаю, перад тым як па яе павінна была прыехаць сталоўкаўская машына і адвезьці на працу. Я выбіраў чаго паглядзець: «Чырвоны капялюшык», «Беласьнежка», «Ніна Фэрары – порнастар», «Напалі» і процьма іншага, што я хаваў пад дошкамі ў падлозе.

Мастурбаваць вясною альбо летам – адно задавальненьне. Паўсюль кружляюць мухі, сядаюць на рукі й ногі. Пот. Сьпёка. Большай сумесі пекла і асалоды нават не ўявіць, але што было, тое было. Я звычайна мастурбаваў як ашалелы, пакуль мухі не разьлётваліся, зь імі ўсё ж было куды прыемней, асабліва калі яны сядалі на сраку альбо яйцы і казыталі скуру.

Пасьля я сьціпленька выходзіў на двор. Мыў у калодзежным вядры рукі, зьліваў ваду, набіраў сьвежай, халоднай, што ажно эмаль на зубах трашчала, і піў вялікімі глыткамі.

Пацягваўся і зьнікаў да вечара ў палёх і лясах зь сябрамі, бавячыся размовамі пра баб і мастурбацыю. Хтосьці абавязкова кожным разам вёўся на стары як сьвет жарт пра валасатыя далоні праз ананізм.

## вочы

мае вочы бачаць толькі тое, што жадаюць бачыць. нават калі мне хочацца штосьці разглядзець, яны разглядаюць толькі сваё асабістае. так, вядома, я магу сканцэнтраваць позірк на пэўных рэчах, але гэта будзе абсалютна пустая канцэнтрацыя, бо калі вочы падключаюцца да гульні, то падсьвядомае спрацоўвае так, як быццам бы яны чакалі адно аднаго, як дзьве даўно раз'ядналыя палові цэлага.

мяне паўсюль атачаюць вочы, і нават калі я гэта пішу, вакол мяне знаходзіцца процьма іншых вачэй: вочы стылізаванага гамэра сымпсана, які вісіць на флэшцы, глядзяць проста і неяк сумна на мяне; вочы карамэлізаванага сьнегавіка паглядаюць на мяне зь вялікай цукеркі, якая ўжо трэці месяц стаіць у шклянцы для асадак і алоўкаў; вочы аголенай жанчыны глядзяць на мяне з карціны акварэльлю; вочы вязанага зайца паглядаюць мне ў сьпіну з падваконьня каля клюмбы кактусаў; на мяне глядзяць вочы мужчыны і жанчыны з банкі геля для валасоў, які згубіўся сярод кніжак на паліцы; а з карэньчыка кнігі глядзіць на мяне сваімі шэрымі вачыма Кафка;

на мяне глядзяць вочы аленя з бутэлькі «Ягермайстара», які мне прывезьлі зь Нямеччыны; за мною сочаць рыбы, намаляваныя на сьценцы чорным флямастарам; і гумовы заўрапод штосьці хоча мне сказаць, гледзячы неяк скоса, з намёкам.

на мяне глядзіць адным вокам белы мэталічны верабейчык, унутры якога званочак, вісіць ён на люстэрку і выглядае так, быццам бы ён у гэты вясновы дзень нарэшце адважыўся зьляцець зь люстэрка проста ў фортку.

але ж каго я падманваю, за мною ня сочаць усе гэтыя вочы, проста маім вачам гэтага хочацца… каб сачылі… углядаліся ў маю постаць усе гэтыя насельнікі пакоя, які сёньня я зьбіраюся праветрыць пасьля таго, як выб’ю пыл з падушак, пледа і дывана.

## транспарт

мяне тройчы ноччу ў сталіцы падвозілі незвычайным чынам, можна нават сказаць – абсалютна нетрадыцыйным... ніякіх там машын, таксовак і проста матацыклаў.

на цьвярозую галаву, пасярод ночы, я б ніколі ня сеў у сьнегазьбіральны трактар, тралейбус бяз нумару ці аўтобус, напампаваны ледзь прытомнымі мужчынамі сярэдняга ўзросту. але я быў п'яны і мне было весела, а дакладней ва ўсіх трох выпадках нас было двое – я і мой унівэрсытэцкі сябра.

зразумела, няма чаго рабіць на вуліцы далёка ад дома ў тры гадзіны ночы, маючы ў кішэні роўна на пляшку гарэлкі, але й думкі такой не ўзьнікае, каб хаця б пехатою дакрочыць дахаты. унівэрскі сябра цалкам падзяляе ідэю, нават хутчэй мэту: даехаць на чым заўгодна ў гэтую сьцюдзёную ноч да крамы, набыць алькаголю і сагрэцца.

галасуем... спыняюцца толькі таксоўкі, мы адразу пачынаем з нашай улюбёнай тэмы: «падкіньце да скрыжаваньня бедных паэтаў...» такім чынам, калі пагаджаюцца падкінуць, па выніку атрымліваецца на адно скрыжаваньне адлегласьць скарачаецца, а там можна ўжо і пехатою.

у тую ноч нас ніхто за так не зьбіраўся падкідваць, мы ўжо прайшлі добрых тры кілямэтры па засьнежанай узбочыне, зьмерзьлі і пасьпелі

працьверазець, крыху, вядома, як каля нас спыніўся трактар! САМЫ САПРАЎДНЫ ТРАКТАР! які чысьціў узбочыну.

кіроўца адчыніў перад намі дзьверы, запытаўся, куды нам, і, даведаўшыся, прамовіў толькі: «мне стакан нальёце – нават дамоў адвязу!»

і вось мы ўжо ў салёне трактара, кіроўца ў сваім крэсьле едзе, падскоквае, спружыны парыпваюць, мы цісьнемся да дзьвярэй і шкла, паглядаем навокал, пераглядаемся… трактар павольна едзе, па дарозе ачышчаючы ўзбочыну…

так мы праз паўгадзіны даехалі да начніка, набылі там «нульсем» гарэлкі і «нульпяць» колы, скокнулі ў трактар і паехалі ў бок дома, па дарозе наліўшы кіроўцу роўна адну гранёную шклянку, якую ён дастаў з-пад сядзеньня… едзем, прыбіраем сьнег, п’ем гарэлку, кіроўца за стырном падскоквае, расчырванелы пасьля сваёй «соткі».

са спыненым тралейбусам а першай гадзіне ўвогуле ўсё здарылася найцудоўней для нас…

ехаў гэты тралейбус па сваім звычайным маршруце, з аднаго дэпо ў іншае, па дарозе развозіў іншых кіроўцаў па дамах, але ня проста развозіў, яшчэ падбіраў людзей, якія галасавалі на вуліцах, запытваўся, куды ім, і, калі ягоны маршрут супадаў, падвозіў за сымбалічны кошт…

так здарылася і з намі, але мы галасавалі не дзеля таго, каб кудысьці мэтанакіравана паехаць, у нас быў з сабою алькаголь, і мы ведалі, што заўсёды

можам трапіць да Машы, якая звычайна ў любы час была радая нас бачыць, бо лічыла нас сябрамі, дурнымі, але ж якімі-ніякімі сябрамі.

на наша шчырае зьдзіўленьне перад намі спыняецца тралейбус, кіроўца пытаецца, куды нам, а мы яму адказваем, што нам куды заўгодна, нам проста хочацца пакатацца.

ноч, тралейбус развозіць калег, а нам дазволілі ня толькі піць, але і паліць, акуратна, вядома…

праз гадзіну ўсіх кіроўцаў разьвезлі па дамох, у салёне засталіся толькі мы абодва і кампанія з трох хлопцаў і дзьвюх дзяўчат, якія былі ўражаныя ня меней за нас такім начным прыгодам. мы аб’ядналі нашыя магчымасьці ў адзін вялікі алькагольны трэш… пілі, танчылі і кожны раз, калі зьбіраліся кардынальна мяняць маршрут, даплачвалі кіроўцу, каб той выходзіў на скрыжаваньнях і мяняў рогі з адных нацягнутых правадоў на іншыя, і мы гналі ўжо кудысьці ў абсалютна іншае месца.

так мы каталіся да самай раніцы, пакуль ня скончыліся грошы і людзі не пачалі зьбірацца на прыпынках… тады кіроўца спыніўся на першым, які яму трапіўся, прыпынку, высунуўся з кабінкі і крыкнуў нам: «усё, пайшлі нахуй адсюль! я ў дэпо!»

дзьверы адчыніліся, і мы, на вачах у першых ранішніх пасажыраў, паляцелі, п’яныя, тварамі на ходнік.

лета, я працую прадаўцом у краме «Связной». разумею, што працую часова, працу ненавіджу,

але што паробіш… мы ідзем з маім сябрам па начным Менску, я яму скарджуся на жыцьцё і працу, ён уважліва слухае, пагаджаецца, жыцьцё падаецца лайном, бо як можна адчуваць волю і быць геданістамі, калі ўсюды трэба плаціць!?

мінае колькі часу, мы ўжо і не спадзяемся на тое, каб нас падкінулі хоць колькі кілямэтраў. ісьці нам яшчэ добрых тры гадзіны, бо я здолеў знайсьці танны пакой ажно ў Бараўлянах.

і тут мне жыцьцё падкідвае адну з тых выпадковасьцяў, пасьля якой пачынаеш верыць у справядлівасьць у сьвеце: зьяўляецца цьмяны спадзеў на тое, што гэты сьвет магчыма выратаваць і бяз грошай, уласнай кватэры і аўто.

перад намі спыняецца зялёны аўтобус, пярэднія дзьверы адчыняюцца разам з дзьвярыма кіроўцы, і той нам кажа: «давайце, хлопцы, заходзьце ўнутр, я ў Бараўляны! толькі ціха там!»

мы апынаемся ў салёне, і толькі ўнутры я разумею, чаму нас прасілі быць ціхімі! усе месцы занятыя мужчынамі ў шэрым (у цемры немагчыма разглядзець сапраўднага колеру), шэрых працоўных строях, штосьці блізкае да будаўнічых робаў. усе мужчыны сьпяць, хто як паснуў, каго як вырубіла пасьля начной зьмены… вакол храп, стогны, я вылоўліваю сярод мужчын аднаго, які ня сьпіць і глядзіць проста мне ў вочы, і позірк у яго такі, быццам яны едуць альбо з руднікоў, альбо з самога Чарнобыля… і мне сорамна, што я літаральна пяць хвілінаў таму скардзіўся на жыцьцё.

## выкшталцонасьць

Віялета звычайна прачынаецца за паўгадзіны да таго, як пачне сыгналіць будзільнік. муж яшчэ сьпіць… яна ціхенька і акуратна, каб не пабудзіць каханага, выслізгвае з-пад пледа і, нячутна ступаючы, як котка, выпраўляецца ў ванны пакой. там яна мые твар тонікам для ўмываньня, чысьціць зубы, наносіць крэм для твару, крэм для павекаў, карыстаецца дэадарантам, потым робіць гігіенічныя працэдуры, седзячы на бідэ. і вяртаецца ў ложак, ізноў ступаючы, ледзь кранаючыся падлогі.

кладзецца назад, накрываецца і заплюшчвае вочкі. чакае званка будзільніка.

праз шэсьць хвілінаў мужчына выключае будзільнік, пацягваецца, глядзіць на сваю дарагую жонку, якая таксама пазяхае, хлопае вочкамі і салодка пасьміхаецца… уся такая прыгожая, сьвежая, чыстая, быццам бы і не спала, і намёка на заспанасьць няма… мужу гэта падабаецца, можна заняцца ранішнім сэксам. прыемным ранішнім сэксам, галоўнае толькі дыхаць праз нос, бо зубы ён яшчэ ня чысьціў.

Віялета распавядала ў фітнэсе сваёй новай сяброўцы, што муж яшчэ ніводнага разу ня бачыў яе дома не на абцасах альбо не ў фірмовай спадніцы, трэба трымаць пэўны ўзровень!

палёт нармальны, празь месяц адзначаць пяцігодзьдзе шлюбу.

## прастытутка

упершыню мне спатрэбілася прастытутка, калі мы шукалі нашаму сябру падарунак на дзень нараджэньня. Віця адзначаў дваццаціпяцігодзьдзе ў здымнай двухпакаёўцы. суседзяў па пакоі ён прымудрыўся кудысьці выправіць ажно на суткі, таму абодва пакоі былі задзейнічаныя ў сьвяткаваньні.

у першым пакоі стаяў стол зь пітвом і закусьсю, у другім пакоі была магчымасьць пакурыць, паслухаць чыл-аўт, спакойна пагутарыць.

менавіта ў зоне чыл-аўту да нас прыйшло прасьвятленьне – падарыць сябру прастытутку.

выклікалі таксоўку і ўтрох паехалі на «стомэтроўку».

прыехалі – і нідзе нікога: усіх альбо разабралі, альбо разагналі, альбо ўсе разьехаліся.

пакружылі на машыне і ўжо зьбіраліся вяртацца без падарунка, як раптам на адным з грамадзкіх прыпынкаў заўважылі кагосьці ў куртцы, капялюш на галаве. спыніліся, паклікалі. яна падышла, сказала, куды і колькі: «у рот столькі $, у пізду столькі $».

менавіта так і сказала: «у рот столькі $, у пізду столькі $».

мы яшчэ падумалі, што кошт нармальны, зэканомім крыху, і, доўга не разважаючы, прапанавалі паехаць з намі.

кватэра. калідор. запаленае сьвятло… стаім утрох, лыбімся, з намі прастытутка, якая толькі што зьняла капялюш і глядзіць на нас, крыху зьбянтэжана… яна нечакала, што прыедзе, а тут ня тры хлопцы з машыны, а цэлы тузін пьяных гопнікаў, і адразу прамовіла: «ніякай групавухі, калі што – па чарзе!»

але наш Віця так пазіраў на прастытутку, мы ўжо спалохаліся, што зусім кепскі нейкі падарунак у нас: зубы крывыя, сама скасабочаная, нос нейкі, быццам ламалі раней, прышчы на падбародзьдзі, пахне ад яе перагарам, і жорстка пахне… відавочна жанчына падпрацоўвае непрафэсійна, можа быць, нават толькі ў вольны ад алькагалізму час!

Віця не разгубіўся, падзякаваў нам і правёў яе ў чыл-аўт пакой. зачыніліся яны там, а мы вярнуліся за стол працягваць піць…

не пасьпела мінуць і пяці хвілін, як з-пад дзвярэй пакоя, у якім зачыніўся Віця, пацягнула скразьняком (напэўна фортку адчыніў), але ня простым скразьняком – неверагодна сьмярдзючым пахам, быццам бы хтосьці ўмудрыўся насраць у майткі, а потым туды званітаваць і ўсё гэтае зьмесьціва пакласьці на абагравальнік

мы нават выпіць не змаглі ад такога смуроду.

усе кінуліся да Віці, напэўна, той ужо пасьпеў страціць прытомнасьць побач са сьмярдзючай агаленай прастытуткай! пачалі калаціць у дзьверы, ратаваць хлопца!

дзьверы нам ніхто не адчыняў, таму мы вырашылі нажом адкруціць дзьвярную ручку разам з замком…

раскруцілі, і пабачылі такую карціну: у ложку, накрытыя з галавой, ляжаць Віця і прастытутка. Віця рэзкім рухам адкідвае коўдру і крычыць на нас каб ішлі мы лесам адсюль, дайце спакойна адпачнуць!

на раніцу Віця аплаціў кожную гадзіну, што яны спалі разам, і потым ужо кожны з нас ёй заплаціў за «ў рот», бо чаму б не скарыстацца момантам…

нармальна тады зарабіла прастытутка, нават ванную прыняла, пасьнедала кавай, бутэрбродам з вяндліны, выпіла келіх чырвонага віна і, зьвярнуўшыся да Віці «звані», сышла.

засталося толькі дадаць, што Віця, пасьля свайго яскравага сьвяткаваньня, заліп на прастытутках, пачаў калекцыянаваць іх, ніводны сайт не абмінаў, стомэтроўка для яго стала другім домам, так яго мэнтальна скасабочыла.

## дзень

звычайна ў гэты сьвяточны дзень (Міжнародны дзень пісьменьніка) я стараюся нікуды не высоўвацца і ўвогуле як мага падалей схавацца, каб пра мяне забыліся, і каб я пра ўсіх запамятаваў, і каб алькаголь быў падалей ад мяне, і ніякіх іншых наркотыкаў, стымулятараў і псыхадэлікаў.

у гэты дзень я пішу, пью п’ю піва і адпачываю целам і душою, не гляджу порна, не чытаю дурных тэкстаў, не цікаўлюся навінамі і таксама не гляджу ніякіх крымінальных фільмаў, танных дэтэктываў і скрыўленых перадачаў.

жыцьцё навучыла мяне гэты дзень шанаваць, памятаць і ніякім чынам не псаваць...

бо, зразумела, я прыйшоў да гэтага шанаваньня ня проста так, але праз такую процьму памылак і трэшу, што нават уявіць цяжка і складана!

я нейкім дзіўным чынам яшчэ ў далёкім юнацтве палічыў сябе пісьменьнікам, і кожны год трэцяга сакавіка я ўпіваўся ўшчэнт, займаўся непатрэбшчынай, быў злым, эгаістычным ідыётам, абсалютным лайдаком і графаманам.

дайшло нават да таго, што адным сьвяточным пісьменьніцкім днём я прачнуўся ў кватэры, якую здымаў зь дзяўчынай, зь якой меў сур’ёзныя пляны, літаральна заўтра можна бегчы ў загс...

я прачнуўся. кватэра ўся разламаная, забруджаная і залітая нейкім невядомым лайном. на кухні спалі незнаёмцы, у суседнім пакоі хтосьці адчайна стагнаў ад сэксу, на мне былі толькі скасабочаныя майткі, я ляжаў на падлозе, і першае, што пабачыў, расплюшчыўшы вочы, гэта быў пярсьцёнак, які я падарыў сваёй каханай месяц таму, а таксама пару іншых падарункаў, разарваны плюшавы мядзьведзік і невялічкая цыдулка: «кім бы ты сябе ні лічыў, ты ў першую чаргу гаўно і алькаголік!»

ніхто з маіх тадышніх сабутэльнікаў ня змог нічога ўспомніць, бо ўсе пілі як апошні раз у жыцьці.

мне ў трыццаты раз пазванілі на мабільны.
– ало! Алесь?! ты дзе?! – крычаў дырэктар з працы.
усё, што я змог прыдумаць, гучала такім чынам:
– я на пахаваньні, прабачце.
– ой, гэта ты прабач.

пасьля я пабег ванітаваць ад самога сябе ў ванны пакой.

Міжнародны дзень пісьменьніка – гэта ў першую чаргу нагода ўспомніць, прыгадаць, ушанаваць геніяў літаратуры, а ўжо потым усё астатняе.

## плед

калі ў кожнага творцы ёсьць сваё асабістае пекла, створанае ім паводле ягоных слабасьцяў, немагчымасьці адмовіць і проста паводле сьляпой любові, то ў кожнага чалавека ёсьць свой фэтыш.

мой уласны фэтыш, рэч, якая мяне перасьледуе зь дзяцінства і на якую я часта паглядаю як на абсалютна касьмічную зьяву, што дазваляе мне за кошт яе прысутнасьці спасьцігаць неабсяжнасьць прасторы і часу, гэта – махрастая посьцілка, па сваіх якасьцях блізкая да пледа, але не такая плотная… яе, посьцілку, можна назваць павалкай, а ў летні час нават коўдрай… а калі браць яе на возера, яна адначасова і павалка, і ручнік… але абагульнім усе яе ўласьцівасьці адным словам – плед.

той самы плед, у які мяне ўпершыню завярнула мама ў радзільнай палаце. гэты плед у дзьвюх месцах ужо станчыўся да празрыстых плямаў, але махрастасьць не да канца згубіў.

калі я сплю, гэты плед бароніць мяне і мае сны.
калі я проста мару, плед завязвае мае думкі чырвонымі стужкамі Быцьця.
калі я кахаюся, плед становіцца гарачым і мяккім, як гусінае пер’е.

## пачварка

не, я сур’ёзна, гэта сталася для мяне адкрыцьцём.

спачатку, калі мой сябра ўпершыню паказаў перад усімі прысутнымі, што баіцца сваёй жонкі, гэта выглядала як жарт, нават зьдзек з жанчыны, але потым усё перарасло ў самую сапраўдную вусьцішную фобію.

гэта было так:

– э! сёньня курым акурат у залі! у дупу яе і ейныя правілы! я хачу адрывацца і курыць у сваёй кватэры, дзе захачу! – крычаў мой добра паддаты сябра і расчыняў наросхрыст усе форткі і вокны ў кватэры.

ён бегаў ад акна да вакна, падобны да чорта, і сьмяяўся, не забываючыся глыбока зацягвацца цыгарэтаю.

нас было пяцёра сяброў, і ўсе мы стаялі ў калідоры ды назіралі гэтае відовішча. мы толькі прыйшлі, бо зьмерзьлі піць каля гаражоў, а бліжэй за ўсіх жыў наш сябра, які, калі б быў больш цьвярозым, адмовіўся б весьці ўсю банду да сябе, скарыстаўшы любую адгаворку, якая прыйдзе да галавы.

сябра наш нядоўга скокаў козьлікам. пасьпеў расчыніць усе вокны і запаліць другую цыгарэту, і тут на парозе зьявілася яна, ягоная навасьпечаная жонка.

жонка ня гучна, але сур’ёзна прамовіла:

– яшчэ раз, казьліна, так напьесься і такога нагаворыш пра мяне, што я тут чула, я табе дам развод адразу, вокамгненна! вырашыў, што тут усё толькі тваё?!

і сябра зьбялеў і як на аўтамаце пачаў хадзіць па пакоях, прыбірацца, зачыняць вокны, а мы пасьмяяліся, вядома, бо той строіў грымасы, крыўляючы сваю жонку, і сышлі ўсе на двор піць далей.

пасьля гэтага выпадку я бачыў нашага сябра яшчэ раз у кампаніі, ён прыбег і, не пасьпеўшы павітацца, такі:

– так, мужыкі, наліце мне шклянку, жонка хутка прыйдзе...

наліваем яму адразу 200 грамаў, ён іх двума глыткамі хлопае, нюхае рукаво – і з-за рога дома паказваецца ягоная жонка, маладая, прыгожая жанчына.

– о, блядзь, пасьпеў! – прамаўляе сябра і падскокамі імчыць да сваёй каханай, бярэ ў яе пакеты з крамы і яны зьнікаюць у пад’езьдзе.

але на гэтых 200 грамах гісторыя не заканчваецца... сябра зьяўляецца перад намі праз пяць хвілінаў, у тапках і са сьмецьцевымі пакетамі, просіць яшчэ наліць яму, але, не дачакаўшыся, пакуль знойдуць шклянку, хапае бутэльку і пад незадаволеныя крыкі сабутэльнікаў з гарла дапівае...

нюхае рукаво кашулі... вочы ў яго сьлязяцца... ён паварочваецца да сьмецьцевых кантэйнэраў, выкідае пакеты і мы бачым, як на нашых вачах алькаголь пачынае яго развозіць, расплюшчвае проста тут, у двары.

праз гадзіну жонка забярэ цела, амаль непрытомнае, будзе біць яго рукамі і нагамі, крычаць і мацюкацца.

і ўсё, наш сябра перастаў зьяўляцца ў двары нават выкінуць сьмецьце, мы яго зрэдчас бачылі, калі ён вяртаўся з працы, крычалі яму здалёк: «гэй, давай да нас! што, жонка не дазваляе?!» і сьмяяліся…

мінула з год, я завітаў да сябра з нагоды свайго юбілею, завітаў, каб пагутарыць і даведацца, як ён там.

ён мне адчыніў, але зусім бязрадасна… запытаўся, ці хачу я есьці, але запытаўся з такой інтанацыяй, як быццам чакаў, што я адмоўлюся, але я пагадзіўся.

я прасядзеў у яго з гадзіну, дастаў бутэльку віна, разьліў па кубках… але сябра толькі нюхаў кубак, ня піў. сказаў, што яму пакуль нельга, здароўе… але я не паверыў, бо ўвесь гэты час, што мы зь ім сядзелі, я піў і назіраў за тым, як ён кожную хвіліну пазіраў на свае гадзіньнікі, паглядаў на іх так, каб я гэта заўважаў, маўляў, вось-вось і вернецца жонка.

калі я сыходзіў, ён сабраў усё сьмецьце, што я пакінуў: бутэльку, корак, рэшткі ад корку, і аддаў гэта мне, не забыўшыся працерці стол і памыць кубкі, папярэдне віно са свайго кубка выліўшы.

## праца

была субота, ён прачнуўся рана, хоць будзільнік быў адключаны. выпіў кавы, зьеў адну рашэнаўскую цукерку, апрануўся і паехаў на працу. прыехаў і зразумеў, што сёньня выходны.

у нядзелю, як бы яму ні хацелася як мага даўжэй паспаць, ён ізноў прачнуўся рана, пайшоў гуляць у парк з сабакам, але неўзабаве прыехаў на працу.

у панядзелак ён папрасіў сабе тыднёвы адпачынак, бо ўсе выходныя езьдзіў на працу.

аўторак, раніца. тыднёвы адпачынак. ён прачнуўся, выпіў кавы і з сабакам прыехаў на працу.

у сераду раніцай ён ня піў кавы і нават не выходзіў нікуды з сабакам, вырашыў проста пайсьці ў краму і набыць віна, але ізноў прыехаў на працу. а калі вярнуўся дамоў, раззлаваны і стомлены, сабака насраў ва ўсіх пакоях.

на наступны дзень ён вырашыў нікуды не выходзіць, каб ізноў не прыехаць на працу, і да абеду прыбіраў кватэру. калі заўважыў, што няма соды і солі, а ён так хацеў прыгатаваць бліны, ён у тапках пайшоў да суседкі па соль і соду, але прыехаў на працу.

ён напіўся снатворнага і прачнуўся ў суботу пасьля абеду. нарэшце выспаўся... папіў піва і выйшаў з сабакам у краму, папярэдне сазваніўшыся зь сябрам, каб потым разам што-небудзь цікавае прыдумаць на вольны вечар, але прыехаў – з пакетамі і з сабакам – на працу.

у нядзелю ён дакладна нікуды не выходзіў але ў абед паснуў за праглядам сэрыялу і прысьніў, што прыехаў на працу.

у панядзелак ён вырашыў на дзень раней паехаць на працу – і пайшло ўсё ў дупу!

## будучыня

***

калі спадарожнік, які ляцеў больш за сорак год, перасёк мяжу Сонечнай сістэмы, ягоны сыгнал зьнік.

праз тыдзень спадарожнік быў выяўлены на падлёце да Зямлі. як так здарылася, даведаліся пасьля шэрагу навуковых прац і запуску касьмічнай ракеты з экіпажам, які, праспаўшы сорак год, быў пабуджаны літаральна за дзесяць дзён да перасячэньня мяжы Сонечнай сістэмы. экіпаж пераляцеў мяжу, сыгнал зьнік, а праз тыдзень ракета ўжо набліжалася да Зямлі.

так людзі даведаліся пра тое, што Сусьвет мае свае межы, і за імі нічога, акрамя вяртаньня, няма. і Бога таксама няма. і нават нейкага касьмічнага бясконцага Абсалюту таксама больш няма. можна пачаць паліць непатрэбныя кнігі і выдаляць з культурнага коду чалавецтва ўсе непатрэбныя рамантычныя тэорыі, ідэі і веравызнаньні.

трацiна насельніцтва вырашыла тупа займацца геданізмам. цэрквы спаленыя, кнігі таксама, паўсюль пачалі зьяўляцца сэкс-салёны і кабінэты для самагубства, бо цяпер можна трахацца колькі і з кім захочацца, а таксама самому вырашаць, калі сканаць, бо больш няма граху. і сфармаваўся новы чалавек – homo scepticus.

***

людзі здраджваюць адно аднаму, забіваюць і гвалцяць.

цяпер і тыя, хто жыве сям'ёй ды спрабуе захаваць шлюб, праходзяць праз адмысловы рытуал: калі мужчына раніцай ідзе на сваю бессэнсоўную працу, то адкручвае свой пэніс і кладзе ў тэчку, якая знаходзіцца ў калідоры побач з тэчкай для ключоў, а калі жанчына ідзе на працу, яна для мужа пакідае адмысловую электронную засаўку, якая паведамляе пра тое, што яе ўлоньне заблякаванае.

гэта адзінае, што яшчэ можа стрымаць бясконцую жывёльную здраду.

***

калі зьніклі царкоўныя інстытуты, сэкты больш ня ведалі, як утрымліваць чалавека, і таму было вырашана пачаць паляваньне на чалавечыя жаданьні, наталеньні пажады і імкненьне да накапленьня.

усё стала платным. хочаш трапіць дамоў? ключэй не дастаткова! трэба кінуць мядзяны грошык у адпаведнае месца на дзьвярах – і яны адчыняцца. хочаш у прыбіральню – спачатку заплаці… хочаш еьці – заплаці лядоўні… такім чынам чалавек будзе прымушаны ня толькі займацца розным брыдоцьцем і лайдачыць, але працаваць, каб элемэнтарна мець магчымасьць мыцца, хадзіць у прыбіральню і есьці.

рэклямa стала самай бязбожнай на сьвеце: хочаш новых эмоцый да канца жыцьця?! пасьпяшайся іх адчуць, бо пасьля сьмерці нічога няма, акрамя мяжы, якая верне цябе зноў на гэты зямны шарык.

## маёнтак

я магу сказаць, што гэтыя амаль тры гады сталіся для мяне абсалютна новым жыцьцёвым досьведам. я пераехаў у маёнтак, пачаў жыць ня так, як жыў раней. і гэта надало мне моцы зьмяніць самога сябе. эвалюцыянаваць, пашырыць свой сьветапогляд. паглядзець на творчы працэс аб’ектыўна, вонкава... зразумець вартасьць павольнага тэмпу пісьма.

спачатку было невыносна цяжка, і самае цяжкае было – навучыцца глядзець на свае тэксты без эгаізму, бяз маніі велічы, імкнуцца не аб’ёмам браць літаратурныя прыступкі. цяжка было навучыцца выдаляць, ня проста крэсьліць альбо прыбіраць словы... але пісаць старонкі, якія ты павінны быў выдаліць, замест трыццаці радкоў пакінуць адзін, які мог бы патлумачыць напісанае нашмат лепш за любыя апісаньні.

я прымушаў сябе пісаць паводле адмысловай формы, потым вучыўся заканчваць тэксты так, каб гэта не выглядала безгустоўна і банальна.

у маім маёнтку спачатку, акрамя прусакоў і занядбанага гарода, нічога не было, але паступова зьявіліся трусочак Гамлет, сабака Карнэль, барада Патрык, вушы Ван Гога і Бэтховэна, Люба пачала заяжджаць і дарыць мне цяпло каханьня. я навучыўся ставіць абрыкосавую наліўку, пасадзіў шмат яблы-

невых дрэваў. фізычна і духоўна паражыў некалькі соцень тэкстаў, якія былі рознымі: змрочнымі, вясёлымі, эратычнымі, бязглуздымі, філязофскімі і дасьледчымі...

надышоў час узяць перапынак, азірнуцца назад, перачытаць і пераасэнсаваць усе тыя тэмпы і тэксты, што былі створаныя, бо вясна прыйшла, варта пачаць займацца гаспадаркай, пабудаваць новую агароджу, пасадзіць вакол маёнтка процьму бэзу... я люблю бэз, ён вяртае мяне ў дзяцінства.

*чэрвень 2014 – люты 2015*

